# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

14-15

Двухтыднёвая часопісь

Орган ЦККП(б)Б

Менск

1930

# № 14-15 „ПАРТРАБОТНІК“



Галоўлітбел № 2741 Зак. № 474 У ліку 1750 экз. „Палесдрук“, Гомель

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 14-15 | Лістапад 1930 г. | № 14-15


# ПАСТАНОВЫ ПЛЕНУМУ У МАСЫ

## Кожны партыец павінен прапрацаваць і вывучыць пастановы пленуму ЦК КП(б)Б

Пастановы пленуму ЦК КП(б)Б, работы якога праходзілі пад знакам непрымірымай барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, ставяць перад усёй КП(б)Б рад важнейшых задач па далейшым разгортваньні і павышэньні тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Па пытаньні чарговых задач гаспадарчага будаўніцтва пленум, падагуліўшы вынікі другога году пяцігодкі, зацьвердзіў опэрацыйны плян разьвіцьця прамысловасьці на бягучы асобны квартал. Ліміты, якія прадугледжаны плянам, па колькасных і якасных паказальніках прамысловасьці БССР, павінны быць выкананы. Ад іх выкананьня залежаць тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ў надыходзячым трэцім годзе пяцігодкі. Перад вытворчымі партыйнымі організацыямі, партколектывамі і ячэйкамі пленум ставіць задачу яшчэ больш мобілізаваць шырокія масы рабочых на барацьбу за высокія тэмпы работы соцыялістычнай прамысловасьці, яшчэ вышэй узьняць творчую ініцыятыву і актыўнасьць мас, накіраваўшы яе на забесьпячэньне выкананьня пяцігодкі за чатыры гады.

Пасьпяховае правядзеньне гаспадарчага году па соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі выклікала новы магутны прыліў бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ў колгасы. Пленум констатаваў, што некаторыя з паасобных партыйных організацый, паасобныя колгасныя і вясковыя ячэйкі яшчэ ня сталі на чале гэтага прыліву, не зьяўляюцца змагарамі за далейшае разгортваньне колектывізацыі. Бліжэйшы пэрыод у справе шырэйшага разгортваньня колгаснага будаўніцтва павінен быць пераломным. На аснове шырокага разгортваньня колектывізацыі павінна быць узмоцнена наступленьне на кулацтва, да яго поўнай ліквідацыі, як клясы. Гэта вымагае ад партыйных ячэек яшчэ шырэйшага разгортваньня работы сярод батрацтва і беднаты, організацыі ўмелага паказу шырокім масам беднякоў і серадлякоў адзінаасобнікаў вопыту колектыўнае працы. Выразна праводзячы партыйную лінію, ячэйкі КП(б)Б павінны ўзмацніць сваё змаганьне супроць права-опортуністычнай практыкі, опортуністычнай стаўкі на самацёк і «левых» загібаў у рабоце па колгасным будаўніцтве.

Ва ўмовах БССР разьвіцьцё жывёлагадоўлі—адна з важнейшых задач. Тыя прарывы, якія меліся ў радзе месц у выкананьні гэтай задачы, павінны быць ліквідаваны ў самы кароткі пэрыод. Поўнае скарыстаньне адпушчаных на жывёлагадоўлю крэдытаў, выкананьне пля-

наў, папаўненьне стада, будаўніцтва сьвінарнікаў, двароў для жывёлы і г. д.—вось асноўныя моманты, якія павінны прыкаваць да сябе ўвагу партыйных арганізацый і адпаведных установаў.

Сваячасовае і поўнае выкананьне пляnaў збожжазагатовак патрабуе форсаваных тэмпаў работы. Мобілізуючы колгасьнікаў, беднату і серадняко́ў адзінаасобнікаў на выкананьне плянаў загатовак,—уся работа па іх практычным правядзеньні павінна цесна ўвязвацца з асноўнымі політычнымі задачамі партыі на вёсцы, з узмацненьнем наступленьня на капіталістычныя элемэнты, з організацыяй новага магутнага прыліву ў колгасы.

Ліквідацыя акруг ператварае раён ў апорнае, асноўнае зьвяно соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы. Таму раённыя партыйныя організацыі, савецкія, профэсіянальныя, як раённыя, так і цэнтральныя установы павінны перабудаваць сваю работу так, каб яна поўнасьцю забясьпечвала ажыцьцяўленьне лёзунгу : «тварам да раёну, да вёскі, да мас».

Ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі сустаўная частка соцыялітсычнага будаўніцтва. Нацпытаньне было адным з важнейшых і галоўнейшых сярод пытаньняў, якія вырашаў пленум. КП(б)Б у справе практычнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацполітыкі ва ўмовах БССР набыла гіганцкія посьпехі.Яны сталі магчымымі толькі таму, што КП(б)Б бязьлітасна змагалася супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму, яго памочнікаў у радох партыі—нацыянал-опортуністых і супроць шовінізму ўсіх колераў. Пленум сваёй пастановай мобілізуе шырокія партыйныя масы на бязьлітаснае змаганьне за лінію партыі ў нацыянальным пытаньні, за шырокае разгортваньне практычнай работы па ажыцьцяўленьні нацполітыкі партыі. Пытаньні беларусізацыі, як сустаўной часткі нацыянальнай політыкі, якія пры сваім практычным ажыцьцяўленьні служаць справе ўмацаваньня пролетарскага ўплыву на працоўныя масы сялянства; узмацненьне пролетарскага кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам; інтэрнацыянальнае выхаваньне—усе гэтыя моманты патрабуюць куды большай увагі ад партыйных організацый, чымся яна была на працягу апошняга часу.

Выкананьне задач, пастаўленых пленумам ЦК перад КП(б)Б будзе забясьпечана толькі пры ўмове шырокай мобілізацыі мас партыйцаў і камсамольцаў вакол пастаноў пленуму. Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б у масы—вось лёзунг сёньняшняга дня для ўсіх, і гарадзкіх, і вясковых, партыйных організацый. Пастановы пленуму павінен прапрацаваць і ведаць кожны партыец, пастановы пленуму павінны быць даведзены да кожнага рабочага і шырокіх мас колгасьнікаў, беднякоў і серадняко́ў адзінаасобнікаў. Праз пастаноўку пытаньняў на агульных сходах ячэек, праз гурткі і іншыя формы і мэтоды шырокія партыйныя масы павінны азнаёміцца і вывучыць важнейшыя дырэктывы партыі, з якіх трэба выходзіць пры правядзеньні практычнай работы на працягу поўнага пэрыоду.

Прапрацоўка і вывучэньне пастаноў павінна быць пастаўлена на вялікую прынцыпова-політычную вышыню. Яна павінна праводзіцца неадцягнена, з ўвязвацца з конкрэтнымі ўмовамі таго ці іншага раёну, альбо прадпрыемства. Пры распрацоўцы трэба бязьлітасна змагацца з усякімі спробамі опортуністычнага выпустошваньня політычнапрынцыповых установак спробамі падмены бальшавіцкага аналізу вузкім дзялянствам.

Прызнаючы галоўнай небясьпекай на даным этапе ўхіл да вялікадзяржаўнага шовінізму, накіроўваючы супроць яго гураганны агонь барацьбы, КП(б)Б ні на хвіліну не паслабіць змаганьня супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму—агента і саюзьніка польскага фашызму, супроць памочнікаў нацыянал-дэмократаў, нацыянал-опортуністых і шовінізмаў усіх колераў. Пленум ЦК КП(б)Б абвясьціў

наяўнасьць нацыянал-опортуністычных поглядаў несумяшчальным з прыналежнасьцю да КП(б)Б. На такую-ж прынцыповую політычную вышыню павінны ставіць партыйныя ячэйкі пытаньні барацьбы за бальшавіцкую лінію ў нацыянальным пытаньні.

Масавая прапрацоўка пастаноў ставіць неабходнасьць шырока скарыстаць для глыбокага вывучэньня работ і пастаноў пленуму ўсю сетку партыйнай асьветы. Яна, побач з распрацоўкай програмных пытаньняў, павінна зьявіцца магутным сродкам у ажыцьцяўленьні лёзунгу:—пастановы пленуму—у масы. Сетка партыйнай асьветы гэтага можа і павінна дабіцца праз павышэньне тэмпаў сваёй работы.

У адпаведнасьці з пастановамі пленуму, партыйныя організацыі павінны выпрацаваць пляны, конкрэтныя мераапрыемствы, ўстанавіўшы тэрміны іх правядзеньня. Зараз жа пры распрацоўцы пастаноў пленуму кожныя ячэйкі, выходзячы з сваіх конкрэтных умоў, павінна вызначыць рад мераапрыемстваў, правядзеньне якіх забясьпечвае выкананьне дырэктыў пленуму.

Вывучэньне і распрацоўка пастаноў павінна праходзіць пад знакам яшчэ больш узмоцненай мобілізацыі партыйных мас на змаганьне супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць «левых» опортуністых і прымірэнцтва да ўсіх ухілаў ад ленінскай лініі партыі. Вывучэньне пастаноў павінна паслужыць магутным фактарам павышэньня бальшавіцкай пільнасьці мас у барацьбе за генэральную лінію партыі.

**Танхілевіч**

# За працу

На падставе генэральнай лініі нашае партыі другі год пяцігодкі даў нячуваныя ў гісторыі нашай рэволюцыі тэмпы росту соцыялістычных элемэнтаў як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Плян другога году пяцігодкі ў асноўным выканаены, ня гледзячы на ўсе спробы шкоднікаў, кулацка-капіталістычных элемэнтаў, правых опортуністых і іх «левых» друзей сарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва. На падставе правільнай лініі партыі на індустрыялізацыю краіны, узмацненьне вытворчай змычкі гораду з вёскай, організацыю беднаты, разгорнутую барацьбу супроць кулацтва, у выніку добра праведзенай працы па організацыі зерневых саўгасаў, другі год пяцігодкі аказаўся пераломным годам у галіне масавай і суцэльнай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Другі год пяцігодкі даў сорак процантаў колектывізаваных гаспадарак у асноўных зерневых раёнах Саюзу. Паварот серадняка да колгасу, масавы ўздым колгаснага будаўніцтва далі нашай партыі магчымасьць паставіць задачу суцэльнай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да канца пяцігодкі і ажыцьцёвіць політыку ліквідацыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі.

Выкананьне пляну другога году пяцігодкі праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Кулацка-буржуазныя элемэнты ў горадзе і вёсцы, шкодніцкія і клясава-варожыя элемэнты ў нашых апаратах, правыя опортуністыя і левыя загібшчыкі ўнутры партыі, кожны «па свойму рэцэпту» зрываў наша соцыялістычнае будаўніцтва. Адным з важнейшых вынікаў мінулага году пяцігодкі зьяўляецца тое, што нашым посьпехам мы абавязаны шырока разгорнутаму наступленьню па ўсяму фронту нашых клясавых ворагаў і непрымірымай барацьбе супроць права і «лева» опортуністычных скажэньняў лініі партыі.

У галіне разгортваньня цяжкай індустрыі, капітальнага будаўніцтва, вырашэньня проблемы кадраў, будаўніцтва зерневых і жывёлагадоўчых саўгасаў, вясеньняй пасеўнай і ўборачнай кампаніі мы дабіліся значных посьпехаў, праводзячы ўсю работу ў барацьбе супроць опортуністычных тэмпаў работы. 1930 год прайшоў пад знакам разгорнутага наступленьня па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва.

Мінулы гаспадарчы год быў годам бальшавіцкіх тэмпаў у вырашэньні важнейшых гаспадарчых і культурных задач. На шэрагу вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва мы пасьпяхова перамаглі значныя перашкоды. Вопыт другога году пяцігодкі павінен яшчэ раз пераканаць нас, што тыя цяжкасьці, якія ў нас ёсьць, зьяўляюцца цяжкасьцямі росту, і што гэтыя цяжкасьці можна пасьпяхова перамагчы. Адзіным шляхам забесьпячэньня далейшых посьпехаў у галіне соцыялістычнага будаўніцтва і перамаганьня часовых цяжкасьцяй зьяўляецца шлях далейшага паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і яшчэ больш разгорнутай барацьбы супроць клясавых ворагаў. Будаўніцтва соцыялізму і ліквідацыі цяжкасьцяй магчымы толькі ў бязьлітаснай барацьбе з усялякімі скажэньнямі генэральнай лініі партыі.

Пражыты намі год, быў годам вялізарнейшага ўздыму актыўнасьці шырокіх мас пролетарыяту, беднаты і серадняцтва. Мы забясьпечылі высокія тэмпы разгортваньня прамысловасьці і капітальнага будаўніцтва, таму што партыя стала на чале *ўзрастаючага* ўздыму

актыўнасьці рабочых мас. Соцыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, мэтод скразных і штурмавых брыгад, сустрэчнага прамфінпляну, вытворчых манэўраў, рахунак рацыяналізацыі, пераклічкі запасаў—усе гэтыя формы організацыі актыўнасьці высунуты рабочымі масамі. Посьпехі хлеба- і бульбанарыхтовак мінулага году, колектывізацыі, пасеўнай і ўборачнай кампаніі былі больш там, дзе мы лепш організавалі масы, дзе масы паўней былі прыцягнуты да актыўнага ўдзелу ў выкананьні гэтых заданьняў. Выразнае клясавае наступленьня на кулацтва забясьпечыла посьпехі мінулага году.

Ударны квартал 1930 г., 1931 гаспадарчы год павінны быць і будуць пэрыодам далейшага нарастаньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Ва ўдарным квартале і ў 1931 г. мы павінны зрабіць значны крок наперад у галіне колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі. Ва ўдарным квартале 1931 г. мы павінны дабіцца сапраўднага ўздыму культурнай рэволюцыі на вышэйшую ступень. Скончыўшыся другі пленум нашага ЦК КП(б)Б даў програму асноўных гаспадарчых заданьняў для ўсіх партыйных організацый Беларусі. Асноўнымі гаспадарчымі задачамі ўдарнага кварталу зьяўляюцца поўнае выкананьне прамфінпляну, асабліва яго якасных паказальнікаў, ажыцьцяўленьне пляну капітальнага будаўніцтва, правядзеньне плянанарыхтовак хлеба, бульбы, лёну, гародніны і г. д. і мобілізацыі сродкаў насельніцтва. Гэтыя гаспадарчыя задачы павінны стаць вузлавымі задачамі ўсіх нашых партыйных організацый.

Вырашэньне гэтых задач павінна спалучацца з організацыяй прыліву ў колгасы. Пленум прыняў пастанову аб тым, каб да першага студзеня колектывізаваць орыентыровачна 20% бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Беларусі. Уся наша работа на вёсцы павінна быць пабудавана з пункту погляду далейшай колектывізацыі беларускай бядняцка-серадняцкай вёскі. Пасьпяховае выкананьне паасобных гаспадарчых задач, пры адсутнасьці прыліву ў колгасы, будзе сьведчыць аб тым, што праца па выкананьню гэтых гаспадарчых заданьняў была пастаўлена дрэнна, падзяляцку. Усе нашыя раённыя організацыі павінны дабіцца поўнага ўясьненьня ўсімі зьвеньнямі парторганізацыі, усімі комуністымі, што задача далейшай колектывізацыі зьяўляецца асноўнай, рашаючай задачай усяе вясковай партыйнай організацыі на бліжэйшы пэрыод часу.

Будзе злачынствам закінуць нарыхтоўкі для таго, каб праводзіць работу па колектывізацыі, таксама будзе злачынствам не організоўваць прылівы ў колгасы для таго, каб мець больш часу для правядзеньня нарыхтовак ці распаўсюджаньня займу. Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што неабходна спалучыць вырашэньне ўсіх нашых задач, і, у першую чаргу, асноўна гаспадарчых задач, з організацыяй прыліву ў колгасы. Усе раённыя і партыйныя комітэты павінны зараз жа правесьці ўсю неабходную работу па мобілізацыі ўсіх партыйных ячэек, усіх зьвеньняў савецкага і коопэрацыйнага апарату для вырашэньня гэтых задач. Партыйныя комітэты павінны праверыць работу ўсіх зьвеньняў партыйных, савецкіх і коопэрацыйных організацый з пункту погляду выкананьня імі гэтых асноўных задач. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на організацыю адпору клясава-варожым элемэнтам тэорыі—практыкі самацёку, усім гэроям «об'ектыўных» прычын, якія зрываюць выкананьне гэтых задач.

У галіне прамысловасьці, як мы ўжо вышэй адзначылі, перад намі стаяць задачы па выкананьню прамфінпляну ўдарнага кварталу і пляну капітальнага будаўніцтва. Асноўнымі задачамі партыйных організацый у гэтай галіне павінна быць сапраўдная мобілізацыя мас для выкананьня гэтых задач. Ва ўдарным квартале трэба асабліва завастрыць увагу мас партыйных зьвеньняў на пытаньні выкананьня і перавыкананьня якасных паказальнікаў, як-та: зьніжэньня сабекошту, падвышэньня вытворчасьці працы, барацьбы з растратамі матар'ялу, інструмантаў, з нерацыянальным скарыстоўваньнем рабочай сілы, з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны.

Таксама трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу мас на неабходнасьць значнага палепшаньня якасьці продукцыі. Плян ударнага кварталу і плян 1931 г. патрабуюць ад нас значнага ўплатненьня рабочага дню, лепшага скарыстаньня кожнага станка, ашчадных адносін да сыравіны. Нам трэба даць больш тавару, гэты тавар трэба даць па больш дзяшовай цане і абавязкова лепшай якасьці.

Усе гэтыя задачы абавязваюць партыйныя організацыі перагледзець сваю работу на прадпрыемствах. Патрэбны большыя посьпехі ў галіне перабудовы работы. Асноўнай задачай перабудовы работы на прадпрыемстве павінны быць забесьпячэньне пагалоўнай мобілізацыі ўсіх комуністых і рабочых прадпрыемства вакол пытаньня выкананьня прамфінпляну і ўсіх задач нашай партыі. Для таго, каб дабіцца мобілізацыі мас трэба забясьпечыць ахоп штодзённай агітацыйнай і пропагандысцкай работай усіх рабочых на прадпрыемствах, неабходна організаваць сыстэматычнае растлумачэньне масам як агульных задач партыі, так і конкрэтных задач партыі на даным прадпрыемстве. Акрамя работы па растлумачэньню масам нашых задач, мы павінны організаваць іх для ажыцьцяўленьня гэтых задач.

Цэнтр цяжару ўсяе перабудовы працы на прадпрыемстве заключаецца ў неабходнасьці концэнтрацыі асноўнай увагі на пастаноўцы партыйнага ўплыву і кіраўніцтва ў цэху, у паасобнай зьмене і асабліва ў рабочых брыгадах. Для таго, каб паставіць правільна работу ў брыгадзе, у групе рабочых, неабходна давядзеньне прамфінпляну ня толькі да цэхаў, але і да кожнай брыгады, да кожнага рабочага. Кожная брыгада павінна мець свой прамфінплян.

Комуністы, комсамольцы ў рабочых і ва ўдарных брыгадах, каля паасобных агрэгатаў павінны быць перадавымі рабочымі на вытворчасьці, а ня толькі на сходах. Асноўнай задачай цэхавых зьменных ячэек павінна быць забесьпячэньне партыйнага кіраўніцтва партгрупамі, альбо партыйнымі організатарамі ў гэтых рабочых брыгадах. Перанясеньне цэнтру цяжару ў брыгады дасьць магчымасьць забясьпечыць давядзеньне задач партыі—прамфінпляну да кожнага рабочага і ўцягнуць кожнага рабочага ў актыўную барацьбу для выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну. Побач з гэтым перабудова работ на прадпрыемстве абавязвае нас разгарнуць шэраг мерапрыемстваў у агульным завадзкім маштабе. Парт'ячэйка на прадпрыемстве павінна так паставіць працу, каб дапамагчы цэхавым ячэйкам паставіць работу партгруп у брыгадах.

Перабудова партыйнай работы на прадпрыемствах прадугледжвае сапраўднае кіраўніцтва соцыялістычным спаборніцтвам работы ўдарных брыгад, далейшае разгортваньне новых форм соцыялістычнай працы на прадпрыемстве. Трэба сваячасова падтрымаць ініцыятыву перадавых рабочых па організацыі скразных, штурмавых, рацыяналізатарскіх брыгад і г. д.

Для таго, каб вырашыць асноўныя задачы на вёсцы, як та: організацыю новага колгаснага прыліву, правядзеньне нарыхтовак і мобілізацыю сродкаў насельніцтва, неабходна ўзмацніць нашы раённыя і партыйныя організацыі і наогул раён як вузлавы пункт соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы. Другі пленум ЦК быў першым пленумам з удзелам сэкратароў пасьля ліквідацыі акруг. Перад раённымі організацыямі паўстаў шэраг новых важнейшых задач. Раённыя організацыі зараз будуць вырашаць усе асноўныя пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы больш самастойна, чым раней, пры існаваньні акруг. З таго, што раён стаў вузлавым пунктам соцыялістычнага будаўніцтва, выцякае перш за ўсё тое, што асабліва важнае значэньне набывае ўзмацненьне гаспадарчай працы ўсіх раённых організацый. Гаспадарчыя пытаньні павінны стаць цэнтрам увагі ў рабоце ўсіх раённых партыйных організацый.

Райком павінен цалкам аўладаць гаспадарчым і культурным разьвіцьцём раёну; кожны раён павінен мець свой плян гаспадарчага і культурнага разьвіцьця. Бюджэт раёну—гэта вялікі складаны фінплян, яго трэба ўмеючы скарыстоў-

ваць. Мы асабліва падкрэсьліваем неабходнасьць забясьпечваньня разьвіцьця вядучых галін сельскай гаспадаркі адпаведнага раёну. Да гэтга часу большасьць партыйных організацый раёну, з жывёлагадоўчым і ільно-канапляным альбо садова-гародным ухілам, працуюць амаль што па агульнаму трафарэту. Няма яшчэ неабходнай спэцыялізацыі, райкомы яшчэ не заняліся пытаньнямі максімальнага разгортваньня вядучых галін сельскай гаспадаркі, няма яшчэ прадуманага пляну работы ў гэтай галіне, недастаткова масавая работа, слаба організацыя мас, мобілізацыя іх сродкаў для забесьпячэньня максімальна хуткага тэмпу разгортваньня гэтых вядучых галін сельскай гаспадаркі. Ці вядома ўсім комуністам, у якім напрамку павінна разгортвацца сельская гаспадарка іх раёну? Загадзя можна сказаць, што значная частка вясковых комуністых і комсамольцаў, не гаворачы ўжо аб беспартыйным актыве, аб бядняцка-серадняцкай масе, вельмі мала і слаба аб гэтым ведаюць. Як можна ў гэтакіх умовах мобілізаваць масы вакол гаспадарчых заданьняў?

Побач з паваротам усіх раённых партыйных організацый тварам да пытаньняў вытворчасьці, да гаспадарчых пытаньняў, неабходна рашучая перабудова ўсяе масавай работы вясковай парторганізацыі. Найбольш слабым вучасткам у рабоце вясковай парторганізацыі бязумоўна зьяўлецца масавая работа. Сельсаветы, коопэрацыйна-колгасная сыстэма, добраахвотныя таварыствы, профсаюзы яшчэ ня здолелі забясьпечыць сапраўднае прыцягненьне мас да свае працы, нават у колгасах ёсьць буйнейшыя недахопы ў галіне забесьпячэньня ўнутрыколгаснай дэмократыі і самакрытыкі. Слабасьць масавай работы, бюрократычнае скажэньне ў рабоце сельсавету, коопэрацыі, добраахвотных таварыстваў скоўваюць, тармозяць маючуюся актыўнасьць, затрымліваюць выдзяленьне, рост і выхаваньне партыйнага і беспартыйнага актыву. Проблема стварэньня магутнага актыву зьяўляецца аднэй з важнейшых проблем у працы раённых організацый. Рашучае разгортваньне масавай работы, прыцягненьне новых сіл, вылучэньне новага магутнага слою беспартыйнага актыву, выхаваньне яго шляхам актыўнага ўдзельнічаньня ў соцыялістычным будаўніцтве зьяўляецца важнейшай задачай раённых партыйных організацый у галіне перабудовы і ўзмацненьня свае работы.

Наступнай важнейшай часткай перабудовы работы ў раёне зьяўляецца ажыцьцяўленьне павароту раённых організацый да вёскі. Бяз моцных сельсаветаў, без разгорнутай работы ўсіх масавых організацый на вёсцы нельга ўзмацняць раёны. Няма моцнага раёну бяз моцных сельсаветаў. Раённыя організацыі толькі тады здолеюць разгарнуць сапраўдную масавую работу па мобілізацыі мас, работу па вылучэньню і выхаваньню новага актыву, і мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, калі яны будуць мець моцныя апорныя пункты на вёсцы. Немагчыма добрая работа райкому бяз моцных ячэек на мясцох, таксама зусім немагчыма нормальная работа райвыканкомаў, райколгассаюзаў, адпаведных добраахвотных таварыстваў без адпаведных моцных ячэек на вёсцы.

Значнае разгортваньне вясковых організацый неабходна яшчэ і таму, што ліквідацыя акруг адзначае вялізарнейшае набліжэньне ўсяго апарату дыктатуры пролетарыяту да мас. Ліквідацыя акруг, перадача іх правоў раёнам зьяўляюцца сапраўдным разгортваньнем пролетарскай дэмократыі. Без разгорнутай сеткі моцных вясковых організацый ня ўдасца забясьпечыць неабходнае набліжэньне апарату да мас.

Аднэй з цэнтральных задач па ўзмацненьню раёнаў зьяўляецца стварэньне моцнай партыйнай організацыі на вёсцы. Неабходна колькаснае і якаснае організацыйнае ўзмацненьне вясковых парторганізацый. Тэмп вярбоўкі ў партыю павінен быць значна ўзмоцнены за лік батракоў, мясцовых рабочых, колгасьнікаў, у першую чаргу, з беднякоў. Нельга прызнаць нормальным такое становішча, калі шэраг раённых партыйных організацый у трэцім квартале прынялі ў партыю аднаго ці двух чалавек,

ці калі амаль $\frac{1}{3}$ вясковых парторганізацый прынялі ў трэцім квартале ня больш 10 чалавек.

Раённым партыйным організацыям неабходна перабудавацца, трэба адмовіцца ад формальнай організацыі колгасных ячэек. Гэта ні ў якім разе ня значыць, што трэба ліквідаваць колгасныя ячэйкі, альбо ня трэба організоўваць новыя колгасныя ячэйкі. Побач з гэтым павінна быць значна ўзмоцнена выхаваньне комуністых. Асноўнай формай выхаваньня комуністых зьяўляецца іх актыўны ўдзел ва ўсім жыцьці партыі, актыўны ўдзел у ажыцьцяўленьні тых задач, якія стаяць перад партыяй. Зусім зразумела што трэба максімальна разгарнуць усялякія формы партыйнай вучобы. Востра стаіць пытаньне падбору сэкратароў для вясковых ячэек. Мы таксама падкрэсьліваем неабходнасьць зьвярнуць спэцыяльную ўвагу на ўзмацненьне кіраўніцтва саўгасамі і саўгаснымі ячэйкамі.

Другі пленум ЦК прыняў шэраг пастаноў аб перабудове цэнтральнага апарату Беларусі. Перад цэнтральнымі організацыямі стаіць цэнтральная задача ў галіне перабудовы свае работы. Ім трэба аўладаць раёнам, яны абавязаны організаваць сыстэматычную і дзелавую дапамогу раёну. Кіраўніцтва з боку цэнтральных устаноў раёнамі павінна быць політычна выразным і опэратыўна конкрэтным.

Цэнтральнай проблемай ўзмацненьня раёнаў зьяўляецца пытаньне аб кадрах для раёнаў. Асноўная частка акруговага актыву ўжо паслана ў раёны, але ж ёсьць некаторыя «астаткі». Пленум даў дырэктыву бюро ЦК праверыць яшчэ раз, як выканана пастанова ЦК Усе КП(б) аб неадкладнай пасылцы ў раёны ня менш 90 проц. акруговага актыву. Але ж пасылка яшчэ дзесятку акруговых працаўнікоў не вырашае проблемы кадраў для раёнаў. Шэраг раёнаў, у інтарэсах здавальненьня сваіх патрэб у кадрах, пайшлі па няправільнаму шляху патрабаваньня кадраў з Менску, замест таго, каб лепш скарыстоўваць мясцовыя, раённыя, рэсурсы кадраў. Раённыя організацыі павінны больш сьмела і рашуча пайсьці па шляху вылучэньня мясцовых работнікаў. Побач з гэтым як раёны, так і цэнтральныя ўстановы павінны разгарнуць работу па пастаноўцы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў. Паасобныя цэнтральныя ўстановы павінны больш займацца пытаньнямі кадраў для раённых устаноў, а ня ўзвальваць усё на ЦК партыі, альбо на мясцовыя партыйныя комітэты.

Баявым пытаньнем пленуму было нацпытаньне. На фоне вялізарных дасягненьняў у галіне вырашэньня нацыянальнага пытаньня мы маем шэраг буйных недахопаў. Абвастрэньне клясавай барацьбы выклікала актывізацыю нацыянальных ухілаў унутры нашай партыі, як у бок вялікадзяржаўнага расейскага, так і мясцовага нацыяналізму. Пленум прыняў важнейшую пастанову аб тым, што асноўнай небясьпекай ў Беларусі зьяўляецца вялікадзяржаўны расейскі шовінізм. Побач з гэтым пленум падкрэсьліў неабходнасьць значнага пасіленьня барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам і іншымі праявамі мясцовага шовінізму, як яўрэйскім, польскім і г. д. Пленум прыняў пастанову аб тым, што погляды нацыянал-опортунізму несумяшчальны с прабываньнем у шэрагах нашай партыі. У галіне вырашэньня нацыянальнага пытаньня, з партыйна-організацыйнага пункту погляду, перад усімі партыйнымі організацыямі стаіць важнейшая задача значнага ўзмацненьня партыйнага, пролетарскага кіраўніцтва ўсім культурным будаўніцтвам.

Кожная раённая партыйная організацыя, кожная ячэйка павінны больш і лепш займацца пытаньнямі культурнага будаўніцтва. Вялізарнай задачай перад рабочымі, савецкімі, вучэбнымі ячэйкамі ў галіне забесьпячэньня правядзеньня лініі партыі па беларусізацыі апарату зьяўляецца ўнядрэньне беларускай мовы ў шырокія рабочыя масы. Нам таксама неабходна лепш высоўваць новыя беларускія кадры.

Партыйныя організацыі павінны таксама больш заняцца пытаньнем абслугоўваньня нацменшасьцяй. Зусім неда-

пушчальна гэткае становішча, калі масавая праца праводзіцца вельмі слаба на мове асобных нацыянальнасьцяй. Раённыя організацыі павіны больш заняцца справай абслугоўваньня нацменшасьцяй раёну. У гэтай справе патрэбен крок наперад.

Генэральная лінія нашай партыі патрабуе напружанай работы кожнай парторганізацыі Беларусі, кожнага комуніста для ажыцьцяўленьня яе. За апошні час значна ўзмацніліся атакі правых опортуністых на лінію партыі. Разгромленая правая опозыцыя, як правільна указаў XVI зьезд партыі, ужывае новы манэўр для барацьбы супроць лініі партыі. Прызнаючы на словах генэральную лінію партыі, опортуністыя фактычна вядуць барацьбу супроць ажыцьцяўленьня лініі партыі на практыцы. Опортуністыя двурушнічаюць з партыяй. Асабліва яскрава двурушніцтва выяўляецца ў фактычнай адсутнасьці з боку былых правадыроў правай опозыцыі—Бухаырна, Рыкава, Томскага—разгорнутай барацьбы з правымі тэорыямі, правай практыкай тых, хто ствараў і змагаўся за гэтую тэорыю.

Галасуючы за лінію партыі, гэтыя двурушнікі фактычна разгортвалі работу свае фракцыі і робяць паклёп на ўнутрыпартыйны рэжым. Замест сапраўднай барацьбы з тымі, хто жадае парушыць сталёвае адзінства нашай партыі, на падставе генэральнай лініі нашай партыі, правадыры опортунізму вуснамі Рыкава заклікаюць да адзінства наогул, што адзначае адзінства на падставе іх правай пляцформы.

ЦК Усе КП(б) і ЦКК ударылі па двурушніках. Усе партыйныя організацыі аднагалосна ўхвалілі выключэньне з партыі Руціна, Нусінава, Гальперына, Каўрайскага, Сьляпкова і Марэцкага. Уся партыя патрабавала ад Бухарына, Рыкава і Томскага разгорнутай барацьбы супроць опортуністычных наскокаў на генэральную лінію партыі. Партыя патрабуе поўнага разброеньня Бухарына, Рыкава і Томскага, яны павінны сапраўды адмовіцца ад свае позыцыі і сумесна з партыяй весьці барацьбу за яе генэральную лінію, з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на сучасным этапе рэволюцыі; *калі яны гэтага ня зробяць, партыя пойдзе наперад бяз іх.*

Другі пленум ЦК прыняў спэцыяльную пастанову, у якой ён заклікае ўсе беларускія парторганізацыі яшчэ больш пасіліць сваю барацьбу з усялякімі опортуністычнымі скрыўленьнямі лініі партыі, з усімі тымі, хто двурушнічае перад партыяй. Пленум асудзіў правопортуністычныя выступленьні сэкратара Любаньскага райкому партыі тав. Нікіфарава, які выступіў на пленуме з правоопортуністычнай пляцформай непасільнасьці ўзятых партыяй тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Нікіфараў зьняты з працы. Усе парторганізацыі павінны сыстэматычна ачышчаецца ад опортуністычных элемэнтаў.

Сучасны пэрыод опортуністскіх наскокаў на генэральную лінію партыі характарызуецца спробамі стварэньня беспрынцыповага блёку правых опортуністых з рэшткамі контррэволюцыйнага троцкізму і «лявацкімі» прыхільнікамі опортунізму. Об'ектыўна ствараецца блёк кандрацьцеўцаў, базаравых, правых і «левых» опортуністых супроць лініі партыі. Асновай беспрынцыповага блёку опортуністых зьяўляецца барацьба супроць партыйнага кіраўніцтва. Неабходна пасіленьне барацьбы на два фронты і супроць правай небясьпекі, якая зьяўляецца галоўнай небясьпекай, і супроць «лева»-троцкісцкай контррэволюцыі.

Абавязковай умовай узмацненьня раённых організацый зьяўляецца ўпартая барацьба па выкрыцьцю правай і левай опортуністычнай практыкі ў рабоце ячэек паасобных комуністых. Недастатковасьцю упартай барацьбы з праваопортуністычнымі тэорыямі і практыкай трэба тлумачыць налічча паасобных прарываў у нашай рабоце месц, асабліва на вёсцы, і нацыянальна-культурным будаўніцтве. Толькі разгортваньнем бязьлітаснай барацьбы з усімі опортуністычнымі скажэньнямі лініі партыі мы забясьпечым пабудову соцыялізму ў нашай краіне.

# У ПАРАДКУ АБГАВАРЭНЬНЯ

Міх. Л.

## Ад дэклярацыі да справы

**(Заметкі аб рабоце сярод беднаты)**

„Толькі варожыя УсеКП(б) і ЎсеЛКСМ элемэнты могут ігнараваць гэтую караную задачу партыі—задачу самостойнай арганізацыі беднаты і батрацтва на вёсцы".
(З пастановы ЦК УсеКП(б))

I.

Газэтныя паведамленьні, лічбы і факты, шэраг абсьледваньняў работы мясцовых арганізацый з ўсёй катэгорычнасьцю сьведчаць аб значным прарыве (інакш гэта зараз назваць нельга) у рабоце сярод беднаты, як на адным з адказьнейшых вучасткаў работы партыйных арганізацый у вёсцы. Ужо стала «звычайнай» зьявай пісаць у рэзолюцыях розных нарад і ў іншых партыйных документах аб невыстарчальнай пастаноўцы работы сярод беднаты. Цікавая і характэрная дэталь: інформацыйны сэктар ЦК КП(б)Б нядаўна распрацаваў матар'ялы раённых партыйных конфэрэнцыі. У матар'ялах усіх райпарткОнфэрэнцый зусім коратка і безапэляцыйна констатуецца *пагалоўнае* нездавальняючае становішча работы сярод беднаты.

Кожная організацыя, якой належыць практычна ажыцьцяўляць дырэктывы партыі аб рабоце сярод беднаты, зараз менш за ўсё павінна супакойвацца на трафарэтнай ацэнцы становішча гэтай работы і адпінацца агульнымі пунктамі аб неабходнасьці ўзмацненьня, пашырэньня і разгортваньня работы сярод беднаты. Патрэбна не дэклярацыя, не маскіроўка рэзолюцыямі, каб потым заяўляць: «мы сыгналізавалі і папярэджвалі», *а безагаворачнае выкананьне дырэктыў, устанаўленьне строгай пэрсональнай адказнасьці за работу, выцягваньне на сьвет «конкрэтных виновников зла» для таго, каб навучаць іх ня толькі разумець партыйныя дырэктывы, але і выконваць гэтыя дырэктывы на справе.*

Між тым фактычнае становішча работы, пры значна ўзьняўшайся політычнай актыўнасьці батрацка-бядняцкіх мас, дае нам надзвычайна мала ўзораў сапраўды конкрэтнага падыходу да справы. Больш ёсьць рэзолюцый (і далёка нядрэнных) па пытаньні аб рабоце сярод беднаты і менш бальшавіцкіх прыкладаў організацыйнага замацаваньня актыўнасьці беднаты.

У чым галоўныя прычыны слабасьці работы? Падрабязны аналіз усіх матар'ялаў па гэтым пытаньні і азнаямленьне з становішчам работы непасрэдна ў ячэйках даюць магчымасьць зрабіць некаторыя вывады. Па нашай думцы, існуюць дзьве прычыны слабасьці работы сярод беднаты.

*Першая.* У шэрагу організацый і асобных працаўнікоў ёсьць простая недаацэнка політычнай важнасьці работы сярод беднаты, ці, інакш кажучы, чыстагатунковы правы опортунізм. Шмат якія таварышы ня бачаць прычын адсутнасьці пасьпяховага правядзеньня тае ці іншай гаспадарчай політычнай кампаніі ў сваім раёне ў тым, што ня была мобілізавана ў дастатковай ступені на актыўны ўдзел у кампаніі бедната, як апора партыі ў вёсцы. Гэтыя таварышы, не правёўшы папярэдняй работы з беднатой, здольны нарабіць больш за ўсё памылак і перагібаў у правядзеньні важнейшых мерапрыемстваў партыі ў вёсцы.

Акрамя таго, існуе неразуменьне таго, што слабасьць работы сярод беднаты вядзе простай дарогай да паслабленьня барацьбы з кулацтвам і зьяўляецца аднэй з відавочных прымет паслабленьня гэтай барацьбы.

*Другая* прычына мяжуецца з першай. Шмат якія практычныя працаўнікі вясковай арганізацыі разглядаюць пытаньне аб рабоце сярод беднаты, як нейкае асобнае спэцыфічнае пытаньне. Праводзячы тую ці іншую кампанію, такія таварышы, калі скончаць гэтую, часта мяркуюць потым арганізаваць новую «кампанію» па ўзмацненьні работы сярод беднаты.

Такім чынам існуе неразуменьне, здаецца, зусім зразумелай ісьцінай, што сярод беднаты неабходна праводзіць *штодзённую* работу, што нельга ўявіць сабе пасьпяховае правядзеньне любой гаспадарча-політычнай кампаніі без таго, каб не правесьці папярэднюю работу з беднатой у напрамку яе мобілізацыі на актыўны ўдзел у кампаніі. Той, хто разглядае работу сярод беднаты як кампанію, а не як *органічную* работу ўсіх партыйна-савецкіх організацый на вёсцы, той робіць, бязумоўна, політычную памылку.

Вось, па нашай думцы, асноўныя прычыны слабасьці работы партыйных організацый сярод беднаты. Гэтыя прычыны і прывялі да таго, што важнейшыя гаспадарча-політычныя кампаніі ў вёсцы (асеньняя сяўба, хлебанарыхтоўкі, рэалізацыя пазыкі) праходзяць без дастатковай мобілізацыі на актыўны ўдзел у правядзеньні гэтых кампаній мас батрацтва і беднаты. Прычынай недахопаў у правядзеньні кампаніі, як мы гэта адзначалі вышэй, у значнай меры зьяўляецца слабасьць работы з беднатой.

Ня гледзячы на простыя паказаньні кіруючых органаў партыі, групы беднаты яшчэ не організаваны пры адпаведных колгасах і ўсіх сельска-гаспадарчых таварыствах, а там, дзе яны организацыйна-оформлены, не разгарнулі належнай практычнай дзейнасьці.

Якасны падбор кіраўнікоў груп беднаты ў асноўнай масе нездавальняючы. Райкомы КП(б)Б не забясьпечылі дастатковага кіраўніцтва і дапамогі кіраўніком груп беднаты.

У шэрагу месц наглядаецца яўнае паслабленьне матар'яльнай і культурнай дапамогі беднаце. Фонды асыгнаваньня для коопэраваньня батрацтва і беднаты ў большасьці коопэрацыйных організацый выкарыстоўваюцца зусім нездавальняюча.

З усяго вышэйсказанага неабходна зрабіць такі вывад: трэба ўразумець, што *ажыцьцяўленьне задач соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, організацыя новага, больш моцнага прыліву ў колгасы і ўсямернае гаспадарчае замацаваньне існуючых колгасаў, ліквідацыя кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, умацаваньне саюзу беднаты з серадняком для пасьпяховай барацьбы з кулацтвам патрабуюць шырокага разгортваньня работы партыі з беднатой і батрацтвам для мобілізацыі батрацка-бядняцкіх мас вёскі на вырашэньне гаспадарча-політычных задач партыі.*

## II.

Ці можам мы зараз ставіць пытаньне аб рабоце сярод беднаты так, як мы яго ставілі некалькі год таму назад? Зразумела, не, бо гэта адзначала-б ня ўлічваць усіх тых соцыяльна-экономічных зрухаў, што адбыліся за гэтыя гады ў краіне і асабліва ў сельскай гаспадарцы.

На аснове дасягнутых значных посьпехаў у справе колектывізацыі сельскай гаспадаркі соцыяльная база партыі ў вёсцы ўмацавалася і пашырылася. Паварот на шлях колектывізацыі, сьледам за беднатой, серадняцкіх мас сялянства ператварыў серадняка-колгасьніка ў сапраўдную і моцную апору пролетарыяту і партыі на вёсцы.

Пры пастаноўцы пытаньня аб рабоце сярод беднаты мы павінны гэта абавязкова ўлічваць. На жаль, гэта ня зусім улічваецца шэрагам таварышоў, і неразуменьне навіны пытаньня выклікала нямала непаразуменьняў. Узьнікл размовы аб тым, што зараз беднота не зьяўляецца апорай партыі ў вёсцы, і што ў сучасных умовах трэба адмовіцца ад самастойнай работы з беднатой.

Зусім зразумела, што *апора партыі на колгасьніка-серадняка ні ў якім разе не зьнімае лёзунгу партыі аб апоры на бедноту. Размовы аб адмаўленьні партыі (у сувязі з апорай на серадняка-колгасьніка) ад самастойнай работы з беднатой і*

*ад апоры на беднату ёсьць размовы яўна опортуністычныя і патрабуюць рашучага асуджэньня. Недаацэнка і пасыўнасьць у рабоце па організацыі беднаты і батрацтва зьяўляюцца аднэй з самых горшых праяў правага ўхілу на практыцы, як гэта неаднакроць адзначалася ў партыйных пастановах, і таму патрабуюць рашучай і бязьлітаснай барацьбы ўсіх партыйных організацый.*

Зараз, калі ў гіганцкіх тамерах разгарнулася соцыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі, усю работу сярод беднаты трэба накіраваць на тое, каб максымальна падвысіць ролю беднаты, як праваднікá пролетарскага ўплыву, у соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. З гэтай прычыны цэнтр цяжару неабходна перанесьці *на вытворчыя задачы.*

Работа сярод беднаты ў сучасных умовах павінна ісьці па двух напрамках:

1.*Работа сярод няколгаснай беднаты.* Тут неабходна цэнтр цяжару перанесьці на ўмацаваньне саюзу з серадняком для хутчэйшай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, для ажыцьцяўленьня ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі. Дзейнасьць усіх зьвеньняў батрацка-бядняцкай організацыі (групы, сходы, конфэрэнцыі) трэба падпарадкаваць падвышэньню клясавай баяздольнасьці беднаты і батрацтва. Інакш кажучы, беднату ў няколгасным сэктары патрэбна разглядаць як сілу, абапіраючыся на якую, партыйныя організацыі давалі-б руйнуючы адпор спробам кулацтва пасварыць сялян-адзінаасобнікаў з колгасьнікамі, і ўстанаўлялі-б правільныя ўзаемаадносіны колгасьнікаў з няколгасьнікамі. Бедната павінна зьявіцца той асноўнай сілай, якая не давала-б кулацтву ўзяць под свой уплыў адзінаасобніка.

З гэтых асноўных установак і неабходна выходзіць пры разгортваньні работы сярод няколгаснай беднаты.

2. *Работа з беднатой у колгасах.* XVI зьезд УсеКП(б) у сваіх пастановах па гэтым пытаньні адзначае:

«Партыйныя організацыі ў колгасах павінны забясьпечыць такую пастаноўку работы груп беднаты, каб яны ня толькі абараняліі непасрэдныя інтарэсы беднаты, але і садзейнічалі ўмацаваньню саюзу рабочае клясы і вясковай беднаты з сераднякамі».

Пад колгасамі мы разумеем ня толькі сельска-гаспадарчую арцель, як асноўную форму гаспадаркі на даным этапе колгаснага руху, але і ніжэйшыя формы аб'яднаньняў.

Якія-ж задачы работы з беднатой у гэтых умовах?

Работу з беднатой у першапачатковых аб'яднаньнях трэба накіраваць на садзейнічаньне хутчэйшаму перарастаньню гэтых форм аб'яднаньня (ТСАЗ) у асноўную форму колгасаў— сельска-гаспадарчую арцель, на абагульваньне сродкаў вытворчасьці і цягавай сілы.

Асноўным зьместам у рабоце сярод беднаты ў арцелях павінна зьяўляцца ўцягненьне беднаты і батрацтва ў работу вытворчых нарад, набліжэньне серадняка-колгасьніка да актыўнага ўдзелу ў кіруючай рабоце колгасу, перанясеньне вопыту колгасу ў масы адзінаасобнікаў для большага іх уцягненьня ў колгасы.

Унутры колгасу работу з беднатой трэба накіроўваць на ўсямернае заваяваньне гаспадарчага аўторытэту колгаснае беднаты ў вачох сераднякоў, на ўсямернае замацаваньне колгасу. Бедната павінна зьявіцца застрэльшчыкам соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасе, даваць узоры найбольш гэроічнай і самаадданай працы, садзейнічаць максімальнаму ўзьняцьцю ў колгасе продукцыйнасьці і якасьці працы. Становішча нашых колгасаў паказвае на тое, што гэтыя пытаньні ў колгасным жыцьці зьяўляюцца найбольш актуальнымі.

У асноўным гэтымі палажэньнямі, па нашай думцы, і трэба кіравацца пры разгортваньні работы з беднатой у колгасах.

III.

Найбольш спрэчным зьяўляецца пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня груп беднаты ў колгасах (сельска-гаспадарчых ацелях). Вырашыць яго схэматычным парадкам найбольш лёгка, але і

затое можна найбольш скора нарабіць організацыйных памылак, якія ў такім пытаньні перарастаюць у політычныя памылкі.

Пытаньне аб неабходнасьці работы сярод колгаснай беднаты зьяўляецца бясспрэчным. Уся, такім чынам, спрэчнасьць пытаньня зводзіцца да груп беднаты, як організацыйнай формы работы з беднатой.

Асноўны мотыў супроць організацыі груп беднаты заключаецца ў тым, што іх існаваньне можа ўнесьці разлад паміж колгаснай беднатой і серадпякамі, які (разлад) асабліва небясьпечны і карэнным чынам супярэчыць лініі партыі. Аднак, гэты-ж мотыў у значнай меры можна прымяніць і да пытаньня аб мэтазгоднасьці правядзеньня *наогул работы* сярод беднаты ў колгасах.

Нам здаецца, што пытаньне аб магчымым дапушчэньні разладу з серадняком-колгаснікам пры існаваньні груп беднаты ёсьць пытаньне *аб уменьні* наладзіць работу. Пры гэтым мы не павінны забываць, што ўзмацненьне саюзу з серадняком магчыма пры ўмове разгортваньня адпаведнай работы з беднатой і падвышэньня яе політычнай ролі.

Па нашай думцы, пленум Магілеўскага райкому ў сваёй пастанове ад 10/VIII 1930 г. зусім правільна формулюе пытаньне так:

«Распачаць сыстэматычную работу сярод батрацтва і беднаты ў колгасах, *улічваючы ступень організацыйна-гаспадарчае замацаванасьці колгасу і прымючы пад увагу, што большасьць колгасаў існуе вельмі кароткі тэрмін. Пленум прызнае неабходным організацыю ў колгасах, сельска-гаспадарчых арцелях батрацка-бядняцкіх груп, накіроўваючы іх работу на далейшае падвышэньне політычнага і вытворчага аўторытэту беднаты, узмацненьне яе ўплыву на ўсё жыцьцё колгасу, на выкананьне колгасам усіх абавязкаў перад дзяржавай,* зварочваючы ўвагу на ўстанаўленьне прыкладнасьці з боку батрацтва і беднаты ў частцы працоўнае дысцыпліны, на стварэньне соцыялістычных адносін да працы, на разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва паміж колгасьнікамі і ўнутры колгасу, на ўцягненьне батрацтва, беднаты і сераднякоў у работу вытворчых нарад у колгасах, перамагаючы праз батрацка-бядняцкія групы спажывецкія настроі сярод часткі беднаты».

З усяго сказанага ў якасьці вываду, неабходна ўстанавіць, што, улічваючы, як правіла, ступень колектывізацыі БССР, групы беднаты павінны існаваць пры колгасах, пры чым у шэрагу месц, дзе колгасы найбольш гаспадарча моцныя, і дзе значна выжыты індывідуалістычныя настроі сярод колгасьнікаў, неабавязкова організоўваць групы беднаты, праводзячы ўцягненьне колгаснай беднаты ў работу вытворчых нарад і практыкуючы другія формы работы. *Асноўнай умовай пры правядзеньні работы з беднатой павінна зьявіцца ня толькі недапушчэньне якіх бы то ні было разладаў паміж колгасьнікамі, беднякамі і серадпякамі, а, наадварот, устанаўленьне шчыльнага саюзу з серадняцкай часткай колгасу, накіраванага на яго ўмацаваньне і абавязковае ўцягненьне серадняка ў кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём колгасу.* Пытаньне аб нематазгоднасьці існаваньня груп беднаты пры тым ці іншым колгасе павінна вырашацца кожным райкомам у залежнасьці ад мясцовых умоў. Зразумела, што ў раёнах суцэльнай колектывізацыі было-б лішнім ставіць пытаньне аб організацыі груп беднаты пры колгасах.

## IV.

Зразумела, што дадзенымі заметкамі пытаньне аб рабоце сярод беднаты поўнасьцю ня вычэрпваецца. Найбольш каштоўнымі ў пастаноўцы гэтага пытаньня зьявяцца мясцовая практыка і вопыт, абагульваньне і зьбіраньне якога пастаўлены зусім дрэнна. Таму аднэй з чарговых задач, ад вырашэньня якіх залежыць палепшаньне і работы з беднатой, павінна зьявіцца зьбіраньне і абагульваньне мясцовага вопыту. Старонкі «Партыйнага Работніка» для гэтай справы зьяўляюцца адным з лепшых месц.

У рабоце сярод беднаты зараз надышоў такі час, калі за справу трэба брацца конкрэтна. Пытаньне ставіцца так та-

му, што да гэтага часу ў гэтай справе было больш дэкляратыўных рэзолюцый і сходаў, чым сапраўднай творчай дзейнасьці ў выкананьні неаднакротных пастаноў.

Вось сума некаторых вельмі неабходных мерапрыемстваў:

а) праверка складу кіраўнікоў груп беднаты і забесьпячэньне гэтага складу з найбольш вытрыманых комуністых, здольных кіраваць работай, устанаўленьне кіраўніцтва гэтым складам, сыстэматычнай справаздачнасьці за работу перад партыйнымі ячэйкамі;

б) абавязковае правядзеньне перад важнейшымі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі сходаў, конфэрэнцый і зьлётаў беднаты.

Перад гэтымі формамі работы неабходна ставіць такія асноўныя задачы:

а) максымальную мобілізацыю беднаты на актыўны ўдзел у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній;

б) найбольш мэтазгоднае і правільнае выдаткаваньне фондаў беднаты, забесьпячэньне сапраўдных мер да выдаткаваньня фондаў па прызначэньню;

в) забесьпячэньне прыцягненьня да работы сярод беднаты, асабліва да работы батрацка-бядняцкіх груп, жанчынбатрачак і бяднячак.

Неабходна прыняць сапраўды рэальныя меры да наладжваньня гэтай работы і ўстанавіць за яе пасьпяховае правядзеньне *строгую пэрсональную адказнасьць.*

Акрамя шэрагу мерапрыемстваў, якія праводзяцца непасрэдна партыйнымі організацыямі, неабходна зрабіць рашучы пералом у рабоце савецкіх і колгасна-коопэрацыйных устаноў і організацый. Устанавіць вылучэньне спэцыяльных таварышоў, адказных за работу з беднатой, зрабіць пытаньні работы з беднатой органічнымі пытаньнямі работы савецкіх і коопэрацыйных устаноў— вось важнейшая чарговая задача.

На шэрагу пытаньняў мы знарок ня спыняемся з тэй прычыны, што яны ўжо дастаткова распрацаваны як у партыйнай літаратуры, гэтак і ў пастановах. Зараз важна перайсьці ад дэклярацый да справы.

*Ад рэдакцыі:*

Пытаньне, высунутае аўтарам аб організацыі груп беднаты пры колгасах, друкуецца ў парадку абгаварэньня. Рэдакцыя просіць выказацца чытачоў па гэтым пытаньні.

# У ПАРАДКУ АБМЕНУ ВОПЫТАМ КАЛГАСНЫХ ЯЧЭЕК

Гарбуноў і Салдаценка

## Сустрэчны прамфінплян колгасу „Расьсьвет Пераможца“[1])

Барацьба за плянавасьць, за дасканалы вучот у колгасах ёсьць адна з галоўнейшых задач. Выращыўшы гэту задачу, колгасьнікі на справе паказваюць адзінаасобнікам перавагу колгаснай гаспадаркі ў адносінах адзінаасобнай. Гэта складаная і цяжкая работа. Яна пасільна тады, калі за яе возьмуцца самі масы колгасьнікаў. На жаль, гэтай асабліва важнай работай ня ўсе колгасы заняліся.

У колгасе «Расьсьвет Пераможца» у складаньні пляну працавала 10 плянавых груп, у якіх узялі ўдзел 62 актывісты-колгасьнікі, у «Вокэры» было 8 плянавых груп. Потым пляны абгаварваліся ў брыгадах, на пасяджэньні праўленьня, на парт.-комсам. сходах і на агульным сходзе колгасьнікаў. .

Як прыкладны плян падаем плян «Расьсьвета Пераможцы».

Тутака няма трафарэту і з «потолка» надуманых лічбау. Кожная лічба пераважована і вывучана колгасьнікамі. Гэты плян—продукт колектыўнай думкі. У ім маюцца і недахопы, але ў асноўным плян адпавядае сваім задачам.

### Гісторыя колгасу, барацьба за соцыялістычнавытворчы плян

Колгас «Расьсьвет Пераможца» нарадзіўся ў агні клясавых схватак, на руінах маёнтку генэрала Шапілава. Вакол організатараў колгасу, гэрояў за соцыялістычную перабудову вёскі, т. т. Серадова, Фальянава, Пугачова і іншых, скалацілася сельска-гаспадарчая арцель з 17 сем'яў і распачала работу. Ня гледзячы на тое, што белапалякі некалькі разоў падступалі да самой арцелі, колгасьнікі не разьбегаліся, а ўпарта працавалі над пашырэньнем арцелі. Колгасьнікі ўсямерна дапамагалі Чырвонай арміі ў барацьбе з белапалякамі. Усе колгасьнікі, хто мог уладаць зброяй, пайшлі на фронт. Колгасны партызанцкі атрад у 40 чалавек, на чале са старшынёю атраду тав. Пугачовым Захарам, гэроічна змагаўся з белапольскімі бандамі. У атрадзе было 120 вінтовак і 2 кулямёты. Так колгаснікі змагаліся раней.

Цяпер колгас мае два тарктары і трэці атрымае, як прэмію за датэрміновую веснавую сяўбу. Вытворча-фінансавы плян—гэта гісторыя барацьбы за соцыялістычную гаспадарку. Плян—гэта накоплены вопыт соцыялістычнай работы. Гэты вопыт, дасягненьні колгасу. Яго гісторыю, яго барацьбу трэба ведаць шырокім масам партыйцаў, комсамольцаў і колгасьнікаў.

У 1921 годзе ўвосень кулакі спалілі колгасны ўраджай—падпалілі гумны. Колгасьнікі не здаліся, ім самім не хапала хлеба, але, ня гледзячы на гэта, яны паслалі 60 пудоў жыта ў Паваложжа.

У 1923 годзе колгас крыху апраўіўся ад кулацкіх ран і зноў узяўся за ўпартую работу. Клясавыя ворагі на гэты раз падпальваюць хлявы з абагуленай жывёлай. 23 сьнежня 1924 году ад рук кулакоў гарыць хлеў з жывёлай. У вагні згарэла ўся скаціна: 28 коняй, 8 кароў, 1 бык і ўся дробная жывёла. Гэта памятны дзень для колгасьнікаў. Кучы гарэлага мяса на вогнішчы, колгасьнікі, як

[1]) Даем сустрэчны прамфінплян колгасу „Расьсьвет Пераможца“, які за прыкладную працу атрымаў сьцяг ад Лейпцыгскіх рабочых (Нямеччына).

жабракі,—бяз хлеба, бяз жывёлы. Але яны добра ведалі, што рабочая кляса за іх, што пры яе дапамозе яны перамогуць. Праўда, ад арцелі адпалі больш слабыя: 6 сем'яў паехалі ў далёкі Сібір шукаць сабе долі. Засталося 18 сем'яў.

Сталыпінска-прышчэпаўскія сынкі многа раз зьбіраліся разагнаць колгас. Але не ўдалося ім забіць у колгасьнікаў ідэю колектывізацыі, ідэю вялікай комуны. Прышчэпаўскія сынкі, прыяжджаючы ў колгас, як смокі, займаліся шкодніцтвам, бралі з яго ў сваю карысьць масла, муку, сала і ўсё, што ім спадабалася.

Земляўпарадкавацелі Воўкаў і Кандрацьцеў жадалі расьсеяць колгасьнікаў на хутары. Калі яны катэгорычна адмовіліся пайсьці на хутары,—то ім запрапанавалі пайсьці ў пасёлак. Колгасьнікі цьвёрда стаялі за колгас. Тады прышчэпаўцы патрабавалі ад іх тэрміновага ўнясеньня паю.

— За дзьве гадзіны павінны поўнасьцю ўнесьці пай, а то разганю, як мышэй,—так загадаў інспэктар земчасткі Сырамалотаў.

Цэлую ноч колгасьнікі зьбіралі грошы. Сабралі.

Ад пролетарскай дзяржавы колгас атрымаў крэдыт 1000 руб. Пабудаваў крухмальны завод. Вопыт работы колгасьнікі ўзялі з усерасійскай сельскагаспадарчай выстаўкі, якая была ў 1923 годзе ў Маскве. Купілі 13 коняй. Не даядалі, усю ўвагу зварачвалі на падняцьце гаспадаркі. У 1925 г. з-за недахвату коняй парашылі купіць трактар. Ворагі зьдзекваліся над колгасьнікамі:

— Злыдні, захацелі працаваць трактарам.

Былі і ў колгасе праціўнікі трактара, але большасьцю галасоў ухвалена было яго купіць. І купілі «Фордзон». Да гэтага часу з колгасьнікаў мала хто бачыў трактар. Ня было трактарыстых. Старшыня колгасу тав. Серадоў (цяпер вылучэнец у Колгасцэнтр СССР) сам быў і трактарыстым.

1926 год быў годам росту колгасу. Добры ўраджай, прыбытак ад крухмальнага заводу паставіў колгас на ногі. За кошт прыбытку купілі складаную малатарню за 3500 руб., купілі 10 жалезных плугоў «Сакка», 4 пружынныя бараны, адну сенакасілку, 1 трыер, 2 конных грабляй, 2 жняяркі і 6 распашнікаў.

У 1927 г. узяліся за паляпшэньне быту колгасьнікаў. Організавалі чырвоны куток, купілі бібліотэку за 300 руб. На кожнага колгасьніка выпісалі газэту. У гэтым жа годзе колгас робіць рашучы пералом ва ўзаемаадносінах з навакольным бядняцка-серадняцкім насельніцтвам. У колгас з усіх бакоў сталі прыходзіць барадачы, моладзь і жанчыны. Прыглядаліся да работы і жыцьця колгасу. Пачала ўступаць беднata. Колгас даваў беднаце беззваротныя ссуды, задарма раздалі 300 пудоў аўса; заворвалі зямлю ўдовам, сем'ям чырвонаармейцаў і беднякoм; абменьвалі гатунковае жыта; абслугоўвалі быком, кныром, жарабцом, для беднаты задарма, серадняком—за плату. Організавалі сельскагаспадарчы гурток для адзінаасобнікаў. 28 беднякоў і серадняков, наведвальнікаў сельска-гаспадарчага гуртка, уступілі ў колгас. Неўзабаве мы прынялі яшчэ 50 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Цяпер ужо была 101 гаспадарка. Былі вялізарныя цяжкасьці ў рабоце. Зямля была раскідана ў 800 кавалках у розных бакох.

Да сяўбы жыта колгас земляўпарадкавалі. З работай справіліся. Пабудавалі двор для скаціны. Пабудавалі клюб коштам у 18.000 руб. Для колгасьнікаў пабудавалі 3 дамы, па 6 кватэр у кожным, коштам у 18.000 руб.; пабудавалі яслі на 100 дзяцей і дзіцячую пляцоўку на 65 дзяцей.

Раён быў абвешчаны раёнам суцэльнае колектывізацыі. Кулакі, убачыўшы нямінучую сваю пагібель, выступілі ў бойку. Іх стратэгічнай задачай было—ва што-б там ні стала разваліць колгас. Актывістым-колгасьнікам ня раз пагражала сьмерць ад кулацкіх рук. У гэтай жорсткай клясавай бойцы серадняк пайшоў за партыяй, за колгас. Але, дзякуючы «левым» загібшчыкам і некато-

рым памылкам колгасьнікаў, кулакі сарвалі суцэльную колектывізацыю. Цяпер, маючы багаты вопыт клясавага змаганьня, колгасьнікі ўпэўнены ў перамозе. У колгас цяпер ідуць серадняки, якія часова спалохаліся кулацкіх пагроз. Толькі да дня ўдарніка ў колгас уступіла 17 гаспадарак. 7 адзінаасобнікаў вёскі Дзяніскавічы ў сваёй заяве аб прыёме ў колгас пішуць: «Прымеце нас у колгас... Мы хочам разам з вамі будаваць соцыялізм. Мы хочам уключыцца ў соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Мы дапаможам выканаць пяцігодку ў чатыры гады».

Адзінаасобнікі разам з колгасам дапамагаюць дзяржаве ў мобілізацыі сродкаў на трэці год пяцігодкі. Датэрмінова здаюць с.-г. падатак, страхоўку і розныя плацяжы. Каб хутчэй даць пролетарскім цэнтрам бульбу, вёска Майская тэрмінова організавала чырвоны абоз і паслала 2000 пудоў бульбы. Сем вёсак нашага сельсавету падпісаліся на пазыку «Пяцігодка ў чатыры гады» на 1565 руб. Колгасьнікі адзінаасобна падпісаліся на 1225 руб. і колгас на 500 руб. Веснавую сяўбу колгас скончыў на 3 дні раней тэрміну, асеньнюю скончылі таксама датэрмінова. Да дню ўдарніка выбралі бульбу і закончылі сяўбу. Звыш пляну мы пасеялі 10 га жыта. 210 га жыта ўжо зелянее густой руньню на палёх, на злосьць нашым ворагам і наперакор ныцікам—правым ухілістым. Уся работа праводзіцца мэтодам соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. На выклік колгасьнікаў адгукнуліся адзінаасобнікі. Яны працавалі разам з колгасьнікамі. Брыгада ў 20 чалавек убірала ў дзень гэктар бульбы, які даваў 1000 пудоў. Кожная ўдарніца ўбірала 50 пудоў, у той час як у адзінаасобнай гаспадарцы адзін чалавек за цэлы дзень убірае ня больш 20 пудоў.

У колгасе балючае пытаньне—культработа і кадры. Гэтыя пытаньні распрацаваны і ўнесены ў плян. Колгасьнікі ўнесьлі ў свой плян пытаньне забесьпячэньня пролетарскіх цэнтраў мясам, агароднінай, малаком і living рознымі харчовымі продуктамі.

— Гэта наш адказ на адозву ЦК УсеКП(б),—так кажуць колгасьнікі.

Ураджай у колгасе па гадох (з аднаго гэктару):

| | жыта | авёс |
|---|---|---|
| 1924 год . . | 34 пуд. | 30 пуд. |
| 1925 „ . . | 40 „ | 35 „ |
| 1926 „ . . | 60 „ | 41 „ |
| 1927 „ . . | 67 „ | 48 „ |
| 1928 „ . . | 72 „ | 60 „ |
| 1929 „ . . | 91 „ | 84 „ |
| 1930 „ . . | 120 „ | 60 „ (паніж. ў выніку засухі) |

15 вопытных гэктараў жыта, сяўбы 1930 году, далі кожны па 184 пуды.

У колгасе ёсьць рад гаспадарчых недахопаў. Каб іх ліквідаваць і скласьці больш рэальны плян, праўленьне стварыла плянавыя групы па ўсіх галінах гаспадаркі, якія выпрацавалі проект вытворчага фін. пляну. Плян абмеркаваны і зацьверджаны колгасьнікамі. Колгас улічыў увесь вопыт мінулых гадоў. У асноўным плян паляводчы з ухілам жывёлагадоўлі.

## II. Як калгас падрыхтаваны да новага гаспадарчага году

### Склад арцелі

Двароў 164, усяго душ 714; працаздольных: мужчын 148, жанчын 156, падросткаў 41, непрацаздольных старых і дзяцей 369.

### Зямельная плошча

Пахаці 743½ га; саду 42 га; пладовы гадавальнік 3 га; сенажаці 190 га; у індывідуальным карыстаньні членаў арцелі—прысядзібныя вучасткі 18½ га і прысядзібныя вучасткі, занятыя індывідуальным сэктарам (вёска часткова знаходзіцца на вучастку колгасу)—32 га; лес, балота і хмызьнякі 211 га, а ўсяго 1240 га.

### Інвэнтар

а) Жывы: кароў 324, быкоў 8, маладняку 100, коняй рабочых 80, маладняку 13, сьвіней матак 95 і кныроў 5 (абагулены); б) мёртвы: трактараў 2, плугоў 37, барон пружынных 11, барон «Зігзаг» 19, барон розных 39, культыватар 1,

дыскава-трактарная барана 1, сявалак трактарных 2, сявалак конных радавых 4, сявалак канюшынных 2, сявалак для расьсеву ўгнаеньня 1, раскідных 1, жняярак трактарных-снопавязалак 1, жняярак самаскідак конных 4, конных грабель 5, малатарань: складаная 1, конных 4; трыераў 2, сартыровак 3, бульбакапалак 1, ільномялак 1, ільнотрапалак 1, сіласарэзка 1, карнярэзка 1, жмыхадрабілка 1, сенакасілак 3, сячкарні 2, цёрак для канюшыны 1, барана для сенажаці 1; в) транспорт: калёс параконных 5, калёс аднаконных 55, саней 83, збруя 80 комплектаў.

### Паляводзтва

На 1931 гаспадарчы год арцель паставіла задачай пашырэньне пасеўнае плошчы якая, як відаць з пляну, будзе пашырана на 24½ га за лік мэліорацыі. Арцель ставіць задачай павысіць ураджайнасьць на 15%, поўнасьцю ўжыўшы агро- і зоомінімум. Нехапаючы лік угнаеньня—3000 вазоў будзе папоўнены компостам, тарфаваньнем, попелам і мінэральным угнаеньнем. Пасеў будзе зроблены гатунковым ачышчаным насеньнем, якім арцель поўнасьцю забясьпечана. Лічачы, што гаспадарчы ўхіл арцелі жывёлагадоўчабульбяны, у далейшым пасеўная плошча жыта будзе скарачацца за лік павялічэньня пасеву тэхнічных і кармавых культур. Валавы ж збор жыта ня зьменшыцца за лік павышэньня ўраджайнасьці. Аб гэтым сьведчыць 15 вопытных га, даўшых у сярэднім па 184 пуды жыта з гэктару. Арцельлю ўведзены 9-польны севазварот з двума палямі бульбы з наступным чарадаваньнем культур: пар заняты, жыта, бульба, авёс плюс канюшына, канюшына першага году, канюшына другога году, жыта, бульба, яравыя культуры. Севазварот уведзены толькі на 581 га; на плошчы 162½ га севазварот увесьці пакуль што немагчыма таму, што гэта плошча раскідана і знаходзіцца ў карыстаньні нанова ўступіўшых членаў арцелі, дзе зямляўпарадкаваньне яшчэ не праведзена. Плошча па палёх разьбіта наступным чынам:

| Гар I поле—не зан. 24 га, зан. 40 га | II поле—бульба | III поле—бульба | IV поле—жыта | V поле—авёс | VI поле—авёс | VII поле—канюшына 47 га, ярына 27 га | VIII поле—жыта | IX поле—ярына |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 64 | 65 | 65 | 64 | 65 | 65 | 64 | 65 | 64 |

*Жыта*. Жыта будзе засеяна 210 га. Рабочай сілы будзе патрэбна 4770 чалавека-дзён, на суму 7155 руб., цягавай сілы—3345 дзён на суму 3345 руб. Угнаеньня будзе патрэбна—5000 вазоў на суму 5000 руб. Насеньня будзе патрэбна 1890 пуд. на суму 2268 руб., усяго буздe патрэбна на суму 17.768 руб. Будзе сабрана 21.000 пуд. жыта на суму—25.200 руб.; саломы будзе сабрана—31.500 пуд. на суму 9450 руб., а ўсяго на суму 34.650 руб.

*Пшаніцы азімае* будзе пасеяна 15 га; патрабуецца рабочай сілы 525 чалавека-дзён, на суму 787 р. 50 к.; цягавай сілы—347 дзён на суму 347 руб.; угнаеньня—900 вазоў на суму 900 руб.; насеньня—135 пуд. на суму 202 руб., 50 кап.; усяго патрабуецца на суму 2237 руб. Будзе сабрана—пшаніцы—1200 пуд. на суму 1800 руб., саломы—1800 пуд. на суму 540 руб., а ўсяго на суму 2340 руб.

*Аўсу* будзе пасеяна 140 га; патрабуецца рабочай сілы 2912 чалавека-дзён на суму 4368 руб.; цягавай сілы 2078 дзён на суму 2078 руб.; насеньня—1680 пуд. на суму 1848 руб., усяго на суму 8294 р. Будзе сабрана 12600 п., на суму 13860 р., саломы—15760 пуд., на суму 4725 руб., усяго на суму 18585 руб.

*Ячменю* будзе засеяна 15 га; патрабуецца рабочай сілы 481 чалаевка-дзень на суму 721 р. 50 к.; цягавай сілы 298 дзён на суму 298 руб.; угнаеньня 750 вазоў на суму 750 руб.; насеньня—150 пуд. на суму 180 руб., усяго патрабуецца на 1949 р. 50 к. Будзе сабрана ячменю 1050 п. на суму 1260 руб.; саломы 1575 пуд на суму 472 р. 50 к., усяго на суму 1732 руб. 50 к.

*Грэчкі* будзе пасеяна 20 га; патрабуецца рабочай сілы 273 чалавека-дні на суму—409 р. 50 к.; цягавай сілы 275 дзён

на суму 275 руб.; насеньня 160 пуд. на суму 176 руб.; усяго на суму 860 руб. 50 кап. Будзе сабрана 800 пуд. на суму 880 руб.; саломы 1200 пуд. на суму 360 руб.; усяго на суму 1240 руб.

*Бульбы* будзе пасеяна 140 га (павялічэньне на 20 га ў параўнаньні з мінулым годам); патрабуецца рабочай сілы 7040 чалавека-дзён на суму 10560 руб.; цягавай сілы 3600 дзён на суму 3600 руб.; угнаеньня 2400 вазоў на суму 2400 руб.; насеньня 14000 пуд. на суму 7000 руб.; усяго патрабуецца на суму 23560 руб. Будзе сабрана бульбы 120.000 пуд. на суму 63 тыс. руб., усяго на 63.000 руб.

*Пшаніцы яравое* будзе пасеяна 10 га; патрабуецца рабочай сілы 295 чалавека-дзён на суму 442 руб. 50 кап.; цягавай сілы 192 дні на суму 192 руб.; угнаеньня 500 вазоў на суму 500 руб.; насеньня 100 пуд. на суму 150 руб., усяго патрабуецца на суму 1284 руб. 50 кап. Будзе сабрана пшаніцы 750 пуд. на суму 1125 руб.; саломы 1125 пуд. на суму 337 руб. 50 кап., а ўсяго на суму 1462 руб. 50 кап.

*Вікі на насеньне* будзе пасеяна 32 га; патрабуецца рабочай сілы 571 чалавека-дзень на суму 856 руб. 50 кап.; цягавай сілы 458 дзён на суму 458 руб.; насеньня 320 пуд. на суму 480 руб., а ўсяго на суму 1794 руб. 50 кап. Будзе сабрана вікі 2240 пуд. на суму 3360 руб.; саломы 3360 пуд. на суму 1008 руб., а ўсяго на суму 4368 руб.

*Гароху* будзе пасеяна 8 га; патрабуецца рабочай сілы 120 чалавека-дзён на суму 180 руб.; цягавай сілы 110 дзён на суму 110 руб.; насеньня 64 пуды на суму 96 руб., а ўсяго на суму 386 руб. Будзе сабрана гароху 480 пуд. на суму 720 руб., саломы 500 пуд. на суму 100 руб., а ўсяго на суму 820 руб.

*Ільну* будзе пасеяна 15 га; патрабуецца рабочай сілы 1039 чалавека-дзён на суму 1558 руб. 50 кап.; цягавай сілы 213 дзён на суму 213 руб.; насеньня 180 пуд. на суму 360 руб.; а ўсяго на суму 2131 р. 50 кап. Будзе сабрана ільну-насеньня 375 пуд. на суму 750 руб., ільну-валакна 450 пуд. на суму 2250 руб., а ўсяго на суму 3000 руб.

*Вікі на сена* будзе пасеяна 40 га; патрабуецца рабочай сілы 560 чалавека-дзён на суму 840 руб.; цягавай сілы 530 дзён на суму 530 руб.; насеньня 400 пуд. на суму 600 руб.; а ўсяго на суму 1070 руб. Будзе сабрана сена 5600 пуд. на суму 2240 руб., усяго на суму 2240 руб.

*Кукурузы-сілас.* будзе пасеяна 6 га; патрабуецца рабочай сілы 225 чалавека-дзён на суму 337 руб. 50 кап.; цягавай сілы 182 дні на суму 182 руб.; угнаеньня 300 вазоў на суму 300 руб.; насеньня 36 пуд. на суму 72 руб.; а ўсяго на суму 891 руб. 50 кап. Будзе сабрана кукурузы-сіласу 12000 пуд. на суму 960 руб.

*Сланечніка* будзе пасеяна 5 га; патрабуецца рабочай сілы 170 чалавека-дзён на суму 255 руб.; цягавай сілы 125 дзён на суму 125 руб.; насеньня 20 пуд на суму 40 руб., а ўсяго на суму 420 руб. Будзе сабрана сланечніку-сіласу 10.000 пуд на суму 600 руб.

*Канюшыны на сена* будзе пасеяна 47 га; патрабуецца рабочай сілы 553 чалавека-дні на суму 829 руб. 50 кап.; цягавай сілы 329 дзён на суму 329 руб.; насеньня 47 пуд на суму 752 руб., а ўсяго на суму 1910 руб. 50 кап. Будзе сабрана сена 9400 пуд. на суму 4700 руб.

**Гародніцтва**

Улічваючы рабочую сілу, якая ёсьць, арцель мае магчымасьць разьвіваць прамысловы гарод, які вызначаны паводле пляну ў 15,5 га. Патрэбнасьць у гародных культурах членам арцелі будзе задаволена за лік прысялібных вучасткаў, якія знаходзяцца ў індывіудальным карыстаньні.

*Кармавое сьвёклы* будзе пасеяна. 4 га; патрабуецца рабочай сілы 788 чалавека-дзён на суму 1182 руб.; цягавай сілы 60 дзён на суму 60 руб.; угнаеньня 240 вазоў на суму 240 руб.; насеньня 4 пуды на суму 48 руб., а ўсяго на суму 1530 р. Будзе сабрана сьвёклы 6 тысяч пуд. на суму 1800 руб.

*Капусты* будзе пасаджана 3 га; патрабуецца рабочай сілы 590 чаалвека-дзён на суму 885 руб.; цягавай сілы 67 дзён на суму 67 руб.; угнаеньня 150 вазоў на суму 150 руб.; насеньня паўтара кілёграмы на суму 22 руб., а ўсяго на суму 1124 руб. Будзе сабрана капусты 3 тысячы пудоў на суму паўтары тысячы руб.

*Сталовае сьвёклы* будзе пасеяна 2 га; патрабуецца рабочай сілы 394 чалавека-дні на суму 591 руб.; цягавай сілы 33 дні на суму 33 руб.; угнаеньня 120 вазоў на суму 120 руб.; насеньня 1 кілёграм на суму 20 руб., а ўсяго на суму 668 руб. Будзе сабрана 1800 пудоў на суму 900 руб.

*Памідораў* будзе пасаджана 2 га; патрабуецца рабочай сілы 538 дзён на суму 807 руб.; цягавай сілы 45 дзён на суму 45 руб.; угнаеньня 120 вазоў на суму 120 руб.; насеньня 1 кілёграм на суму 20 руб., а ўсяго на суму 992 руб. Будзе сабрана 700 пудоў памідораў на суму 3500 руб.

*Цыбулі* будзе пасаджана ½ га; патрабуецца рабочай сілы 115 дзён на суму 172 руб. 50 кап.; цягавай сілы 14 дзён на суму 14 руб.; угнаеньня 30 вазоў на суму 30 руб.; насеньня 15 пудоў на суму 15 руб., а ўсяго на суму 231 руб. 50 кап. Будзе сабрана цыбулі 250 пуд. на суму 250 руб.

*Махоркі* будзе пасеяна 2 га; патрабуецца рабочай сілы 406 чалавека-дзён на суму 609 руб.; цягавай сілы 30 дзён на суму 30 руб.; угнаеньня 100 вазоў на суму 100 руб.; насеньня паўкілёграма на суму 8 руб., а ўсяго на суму 747 руб. Будзе сабрана махоркі 360 пуд. на суму 1440 руб.

*Морквы сталовае* будзе пасеяна 1 га; патрабуецца рабочай сілы 235 чалавека-дзён на суму 352 руб. 50 кап.; цягавай сілы 18 дзён на суму 18 руб.; угнаеньня 20 вазоў на суму 20 руб.; насеньня 8 кілёграмаў на суму 8 руб., а ўсяго на суму 398 руб. 50 кап. Будзе сабрана 1 тыс. пудоў на суму 500 руб.

*Гуркоў* будзе пасеяна 1 га; патрабуецца рабочай сілы 235 чалавека-дзён на суму 352 руб. 50 кап.; цягавай сілы 18 дзён на суму 18 руб.; угнаеньня 40 вазоў на суму 40 руб.; насеньня 12 кілёграмаў на суму 12 руб., а ўсяго на суму 422 руб. 50 кап. Будзе сабрана 600 пудоў на суму 600 руб.

*Рознага гароднага насеньня* будзе пасеяна 1 га; патрабуецца рабочай сілы 235 чалавека-дзён на суму 352 руб. 50 к., цягавай сілы 8 дзён на суму 8 руб.; рознае рассады на 100 руб., а ўсяго 460 руб. 50 кап. Будзе сабрана насеньня 25 пудоў на суму 80 руб.

*Закладка 50 парніковых рам.* Патрабуецца рабочай сілы 130 дзён на суму 195 руб.; цягавай сілы 15 дзён на суму 15 руб.; угнаеньня 75 вазоў на суму 75 руб., а ўсяго на суму 400 руб.

### Сад і гадавальнік

Плошча, занятая пад садам роўна 30 га. Ураджай выразіцца ў 12 тысяч пудоў. Акрамя гэтай плошчы, арцель прыступіла да пасадкі маладога саду плошчаю ў 12 га, скарыстаўшы для гэтага свае пасадачныя матэрыялы. 3 гадавальнікі па 1150 дрэў будуць пасаджаны на сваёй плошчы, а 8850 дрэў будуць рэалізаваны сярод арцеляй.

*Пасадка гадавальніку* будзе роўна 12 га; патрабуецца рабочай сілы 298 чалавека-дзён на суму 447 р., цягавай сілы 83 дні на суму 83 руб.; угнаеньня 800 вазоў на суму 800 руб.; дрэў тысяча на суму 850 руб., а ўсяго на суму 2180 руб.

*Гадавальніку* будзе пасаджана 3 га; патрабуецца рабочай сілы 618 чалавека-дзён на суму 927 руб.; цягавай сілы 41 дзень на суму 41 руб.; угнаеньня 250 вазоў на суму 250 руб.; насеньня 9 кілёграмаў на суму 108 руб., а ўсяго на суму 1326 руб. Будзе сабрана дрэў 10 тысяч на суму 8500 руб.

### Сенажаць

Сенажаці ў 1931 годзе будзе 190 га, на якую патрабуецца рабочай сілы 3230 чалавека-дзён на суму 8485 руб.; цягавай сілы 2 тысячы 90 дзён на суму 2090 руб., а ўсяго на суму 6935 руб. Будзе сабрана сена 26.600 пуд. на смуу 10.640 руб.

Па паляводзтву, гародніцтву, сенажаці і саду патрабуецца рабочай сілы 30 тысяч 506 чалавека-дзён на суму 45.759 руб.; цягавай сілы 14.628 дзён на суму 14 тысяч 628 руб.; угнаеньня 12.195 вазоў на суму 12.195 руб.; насеньня на суму 15.354 руб. 50 кап., а ўсяго на суму 88136 руб. 50 кап. Будзе сабрана прадуктаў на суму 145.305 руб.; саломы на суму 19.243 руб., сена 41.600 пуд. на суму 17.580 р., а ўсяго на суму 182.128 руб.

### Жывёлагадоўля

*Буйная скаціна.* У мэтах выкананьня зоомінімуму арцель на 1931 год намеціла па пляну павялічэньне статку на 50 галоў. Такім чынам статак арцелі будзе складацца з 324 дойных каровы, 8 быкоў і 100 галоў маладняка, а ўсяго 431 галава, проці 382 у 1930 годзе.

На 432 галавы будзе затрачана рабочай сілы 11.550 дзён на суму 17.325 руб.; цягавай сілы 1500 дзён, на суму 1.500 руб.; кармоў 73.100 пудоў на суму 19133 руб.; падсьцілкі 20.000 пудоў на суму 6 тыс. руб., а ўсяго на суму 43.958 руб. Будзе атрымана малака 25.900 пудоў на суму 41.472 руб. Прыплод маладняка 300 штук на суму 1500 руб.; прырост на суму 2280 руб.; гною 6.480 вазоў на суму 6.480 руб., а ўсяго на суму 51.732 руб.

*Сьвінагадоўля.* У адказ на адозву ЦК УсеКП(б) арцель, пры складаньні плянаў, удзяліла максымум увагі сьвінагадоўлі, як спосабу вырашэньня мясной проблемы. Заканчваюць пабудову сьвінарніка на 100 матак, якія ў пачатку 1931 году будуць пастаўлены ў стойла за лік свайго-ж рассадніку, супроць маючыхся цяпер 52 матак. Увесь прыплод маладняку племянога каля тысячы штук будзе рэалізаваны сярод другіх колгасаў.

У 1931 годзе будзе 100 матак; патрабуецца рабочай сілы 2.100 дзён на суму 3.150 руб.; цягавай сілы 365 дзён на суму 365 руб.; кармоў 13.540 пудоў на суму 9.791 руб.; падсьцілкі 2 тыс. пудоў на суму 600 руб., а ўсяго на суму 13.906 р. Будзе прыплоду тысяча штук на суму 16 тыс. руб., гною 300 вазоў на суму 300 руб., а ўсяго на суму 16.300 руб.

### К о н і

У 1931 годзе будзе коняй 93 штукі. Патрабуецца догляд за імі: рабочай сілы 2300 дзён на суму 3.350 руб.; цягавай сілы 1050 дзён на 1050 руб.; кармоў 24.780 пудоў на суму 12.558 руб.; падсьцілкі 9050 пудоў на суму 2850 руб., а ўсяго на суму 19.908 руб. Коні дадуць цягавых сіл 20.908 дзён на суму 20.908 руб.; угнаеньня 1.800 вазоў на 1.800 руб., а ўсяго на суму 22.708 руб.

### Пчалярства

У гэтым годзе арцель мае 32 сям'і пчол. На будучы год пашыраецца на 13 рамачных вульлёў. Такім чынам усяго будзе 45 сямей, для якіх патрабуецца рабочай сілы 90 дзён на суму 135 руб.; цукру 5 пуд. на суму 60 руб., а ўсяго на суму 195 руб. Будзе атрымана мёду 15 пудоў на суму 225 руб.

Усяго затрат па жывёлагадоўлі: рабочай сілы 16.040 дзён на суму 24.060 руб.; цягавай сілы 2.915 дзён на суму 2.915 р.; кармоў на суму 41.542 руб.; падсьцілкі на суму 34.150 руб., а ўсяго на суму 77.957 руб. Будзе атрымана малака на суму 62.308 руб.; прыплоду на 17.500 руб.; прыросту на 2.280 руб.; гною на суму 8.580 руб.; мёду на 225 р., а ўсяго на 90.965 руб.

### Падсобныя прадпрыемствы

*Крухмальны завод.* Выходзячы з налічча ўласнай сыравіннай базы, арцель мяркуе пабудаваць новы крухмальны завод. Валавы збор бульбы мяркуецца ў 126 тысяч пудоў, з якой 60 тысяч пудоў будзе пераапрацавана на заводзе, што дасьць 9 тыс. пуд. сухога крухмалу. Патрабуецца рабочай сілы 1900 дзён на суму 2.295 руб., цягавай сілы 450 дзён на суму 450 руб.; сыравіны—60 тыс. пудоў бульбы на суму 30 тысяч руб.; гаручага на суму 600 руб., а ўсяго на суму 33.975 руб. Будзе атрымана крухмалу 9 тысяч пудоў на суму 72 тысячы руб.

### Масласырзавод

На маючымся масласырзаводзе мяркуецца, выходзячы з удою статку ў 25.920 п. малака, з якога 16.600 пудоў будзе раздана членам арцелі, а 9.860 пудоў пераапрацавана на сыр і масла. Будзе атрымана сыру 850 пудоў і масла 90 пудоў. Патрабуецца рабочай сілы 900 чалавека-дзён на суму 1.350 руб.; цягавай сілы 300 дзён на суму 300 руб.; малака 9.860 пуд. на суму 15.776 руб.; гаручага на суму 200 руб., а ўсяго на суму 17.726 руб. Будзе атрымана сыру 850 пудоў, масла 90 пуд. на суму 22.120 руб.

### Млын

На нафтавым млыне арцелі будзе пераапрацавана як арцельнага, так і інды-

відуальнага збожжа 72 тысячы пудоў, што дасьць памольнага збору 7 тысяч пудоў. Патрабуецца рабочай сілы для млына 1.260 дзён на суму 1.890 руб.; цягавай сілы 60 дзён на суму 60 руб., гаручага на 2.320 р., а ўсяго на суму 4.260 р. Памол—7 тысяч пуд. на суму 7 тысяч руб.

### Майстэрні

Арцель організавала кавальна-сьлясарную, сталярную, кравецкую і шавецкую майстэрні, якія абслугоўваюць як арцель, так і навакольнае насельніцтва. Для ўсіх майстэрняў патрабуецца рабочай сілы 8010 дзён на суму 12015 руб.; цягавай сілы 810 дзён на суму 810 руб.; сыравіны на суму 48.101 руб. Будзе атрымана гатовых вырабаў на суму 8.175 р., а ўсяго будзе затрачана па падсобных прадпрыемствах рабочай сілы на суму 12015 руб.; цягавай сілы 810 руб., а ўсяго на суму 64046 руб. Валавы прыбытак майстэрняў 109.295 руб.

### Кармовая база

Улічваючы маючаеся стада і наяўнасьць сенажаці, кармы ад паляводзтва і патрэбныя нормы па кармовых адзінках, нехапаючая колькасьць кармоў будзе папоўнена за лік пасеваў 40 га вікі ў занятым пары і сілоснымі культурамі: кукурузы 6 га, сланечніку 5 га.

### Каляндар работы арцелі

I. Зімовы пэрыод з 1 студзеня па 20 красавіка: крухмальны завод, догляд за жывёлай, возка кармоў, загатоўка апалу, будаўнічых матэрыялаў, вывазка гною, ачыстка насеньня і розныя гаспадарчыя работы. За ўвесь пэрыод будзе затрачана людзкой сілы 11.843 чалавека-дні, конскай—608 дзён.

II. Вясеньні сеў—з 20 красавіка па 20 мая: вораньне, баранаваньне, сяўба, пратручваньне насеньня, работы ў садзе і гародзе. Будзе затрачана 7797 чалавека-дзён, 2294 цяг. дні.

III. Будаўніча-апрацоўчы пэрыод—з 20 мая па 20 ліпеня: будаўніцтва, вараньне папару, мэліорацыя, выкапка і вывазка торфу, полка і ўборка канюшыны і часткі сенажаці. Будзе затрачана 12.896 чалавека-дзён і 3.706 цяг. дзён.

IV. Уборачны пэрыод—з 20 ліпеня па 1 кастрычніка: уборка жыта, сена, яравых культур, асеньняя сяўба, уборка бульбы і малацьба. Будзе затрачана 19.707 чалавека-дзён, 4.710 цяг.-дзён.

V. Падрыхтоўка да зімы—з 1 кастрычніка па 31 сьнежня: абмалот, зяблевае вораньне, работа ў садзе, пасадка маладога саду, уборка гародніны, абсталяваньне абораў і пастаноўка жывёлы ў стойла. Будзе затрачана 7.703 чалавека-дні і 4.590 цяг.-дзён.

Кожнаму пэрыоду арцель распрацоўвае падрабязны каляндарны плян з расьпісаньнем работ людзкой і цягавай сілы.

### Арганізацыя працы

У мэтах узьняцьця вытворчасьці працы арцель у далейшым будзе праводзіць работы мэтодамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, для чаго будуць організаваны брыгады па ўсіх відах работы. Брыгадам будуць даны цьвёрдыя заданьні ў форме зьдзельшчыны. Зьдзельшчына служыць формай аплаты працы. Улічваючы наліччa працаздольных: мужчын 148, па 290 рабочых дзён у год, жанчын 156, па 110 дзён у год, і падлеткаў 41, па 70 дзён, лічачы іх па 50 проц. працоўнага дня, усяго працоўных дзён 61.480, плян жа арцелі прадугледжвае скарыстаць 60.306 дзён. Невялікі запас рабочай сілы пакідаецца як рэзэрв. Цягавая сіла, выходзячы з 80 коняй і 3 трактараў, патрэбы арцелі згодна пляну поўнасьцю задавальняе.

### Будаўніцдва

На 1931 гаспадарчы год арцель намячае пабудаваць наступнае: пашырыць крухмальны завод—15 тысяч руб., жыльлёвыя будынкі (два новыя дамы)—15 тысяч руб., цагельню—5 тысяч руб., гумно памерам 100 аршын на 22 аршыны—5 тысяч руб., хлеў для жывёлы на 100 галоў—5 тысяч руб., гараж—700 руб. і лазьню—5 тысяч руб., а ўсяго на суму 50.700 руб.

### Прыбыткі і іх разьмеркаваньне

Па намечанаму пляну валавы прыбытак арцелі выразіцца ў 382.388 руб., з якога на аплату ўсіх выдаткаў будзе затрачана 234.339 руб. 50 кап. Прыбытак

будзе складаць 128.048 руб. 50 кап. З гэтай сумы будзе затрачана на амортызацыю 8.880 руб., сельска-гаспадарчы падатак 5.920 руб., на адміністрацыйныя выдаткі 6.660 руб., пагашэньне крэдыту 11.840 руб., усяго выдаткаў 33.300 руб. Чысты прыбытак будзе складаць 114 тысяч 748 руб. 50 кап., які будзе разьмеркаваны: 5 проц. па ўнесенай маемасьці—5.735 руб., 16 проц. у фонд забесьпячэньня непрацаздольных—18.352 руб., 20 проц. дадаткова разьмеркаваць членам арцелі і ў фонд прэм'яваньня—22 тысячы 948 руб., 20 проц. у непадзельны капітал—22 тысячы 948 руб., 10 проц. у культфонд—11 тысяч 474 руб., 2 проц. у фонд колектывізацыі—2 тысячы 294 руб., 10 проц. у спэцыяльны фонд—11 тысяч 474 руб., 17% у запасны капітал—19 тысяч 523 руб. 50 кап.

### Аплата працы

Па пляну прадугледжана аплата працоўнага дня ў 1 руб. 50 кап., улічваючы, што мужчына прапрацуе 290 дзён, а жанчына—210, а ўсяго 400, сям'я з 2 працаздольных атрымае 600 руб. плюс дадатак з фонду разьмеркаваньня 120 руб., акрамя таго, кожны непрацаздольны атрымоўвае па 45 руб. Такім чынам, сям'я з двух працаздольных і двух непрацаздольных зарабляе 810 руб. пры водпуску продуктаў ніжэй коопэрацыйных цэн.

### Будуць даны заяўкі на машыны і крэдыты

На гаспадарчы год арцелі патрабуюцца: трактар—2 тысячы руб., жатак-снапавязалак 2—1.800 руб., аўтомобіляў 2—4 тыс. руб., бульбакапалак 2—1 тыс. 500 руб., рухавік—3 тыс. руб., а ўсяго на суму 12.300 руб. Улічваючы будаўніцтва на 50.700 руб., арцелі патрабуецца сродкаў 63 тысячы руб. Сваіх будзе скарыстана 50 тысяч руб., патрабуецца крэдыт у 10 тысяч руб.

### Што колгас дае гораду

Здана ў гэтым годзе жыта 10 тысяч пудоў, з якіх 4 тысячы пудоў звыш заданьня; сыру галандзкага 400 пуд, масла 90 пуд., крухмалу 12 тысяч пуд., махоркі 200 пуд., памідораў 500 пуд., гуркоў 250 пуд., сталовых буракоў 1000 пудоў, морквы 300 пудоў, капусты 4 тысячы пудоў, кароў 37 штук, цялят 40 шт., парасят 20 штук. Арцель ставіць задачу ў 1931 годзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на забесьпячэньне гораду.

### Што робіцца ў абарону краіны

Улічваючы, што нашы ворагі робяць спробы сарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва, што ваенная небясьпека пагражае нам штодзённа, у галіне абароны краіны колгасьнікі робяць наступнае: усе колгасьнікі ўступаюць у Асаавіяхэм, для вывучэньня вайсковай справы організоўваецца рад гурткоў. Кіраваць імі будуць старыя партызаны і дэмобілізаваныя чырвонаармейцы. Робіцца газаўбежышча, робіцца стралковы тыр; закупім супроцьгазаў неабходную колькасьць, павялічым колькасьць дробнакаліберных вінтовак; купім вайсковую бібліотэку, выпішам часопісі і газэты. Узмацнім сувязь з Чырвонай арміяй і флётам

### Як рыхтуюцца кадры

Соцыялістычная гаспадарка патрабуе кваліфікаванай рабочай сілы для розных галін. У гэтай сіле мы, як і ўся краіна, маем недахоп. Для ліквідацыі яго мы робім наступнае: для вывучэньня розных галін сельскай гаспадаркі і падняцьця палітычнага ўзроўню членаў арцелі, мы організоўваем вячэрнюю школу, школу колгаснай моладзі, рад гурткоў і такім чынам ахопім усіх колгасьнікаў Пры арцелі ёсьць сямёхгадовая школа. Наша задача, каб школа была цэхам арцелі, а арцель—шэфам школы. Школа ўжо мае вопыт палітэхнізацыі. Вучні організоўваюцца ў брыгады па сваіх вучнёўскіх групах. Працаваць яны будуць у нашых майстэрнях. Там яны вывучаюць, як карыстацца машынамі. Адначасова вучні ўдзельнічаюць у працы арцеляй. Праца іх арцельлю аплачваецца. Працуюць яны брыгадай. Лік гадзін для кожнай групы вызначаецца пэдагогічным саветам і школьнай радай.

### Арцель і адзінаасобнікі

Плян свой колгасьнікі складалі, улічваючы тое, што ўяўляе колгас на сёнь-

няшні дзень. Але гэта зусім не азначае, што колгас адгарадзіўся ад адзінаасобнікаў. Колгас змагаецца з сёньняшнім адзінаасобнікам за заўтрашняга колгасьніка.

Колгас правёў справаздачныя сходы, у выніку ў колгас уступіла 17 гаспадарак. З актыўных колгасьнікаў створаны вярбовачныя групы. Колгас узяў на сябе абавязак організаваць новы колгас.

Сувязь з адзінаасобнікамі ў колгасе мацнее з кожным днём. Колгас іх абслугоўвае кныром, жарабцом, быком, ачышчае насеньне, абменьвае насеньне, дапамагае беднаце ў малацьбе і г. д. У адказ адзінаасобнікі дапамагаюць колгасу. Адзінаасобнікі вёскі Дзяніскавічы організавалі ўдарную брыгаду і працавалі на колгасным полі.

Колгас дабіўся, што ў гэтым годзе азімы клін па Майскаму сельсавету ўвесь засеяны гатунковым насеньнем колгасу.

### Грамадзкае жыцьцё

Для выкананьня пастаўленых задач колгас уводзіць рад палепшаньняў як у культурным абслугоўваньні, так і ў быту колгасьнікаў. Павялічвае бібліотэку да 2 тысяч кніг, на кожнага колгасьніка выпісаны газэты. Для абслугоўваньня адзінаасобнікаў організавана 5 чырвоных кутоў. Кожную пяцідзёнку працуе кіно, ёсьць гучнагаварыцель, добра абсталяваны клюб на 600 асоб.

Па культурнай рабоце складзены асобны плян. На кожны пэрыод таксама складзены асобныя пляны. У кожнай брыгадзе і па кожнай галіне гаспадаркі організаваны вытворчыя нарады.

Колгас вырас як экономічна, так і культурна. Тэхнічная база і плянавасьць у рабоце зьяўляецца падставай для пераходу з колгасу ў комуны—вышэйшую ступень соцыялістычнай гаспадаркі. Аб пераходзе ў комуну паднялі пытаньне самі колгасьнікі.

Так зароджаны ў агні клясавай жорсткай барацьбы колгас «Расьсвет Пераможца» змагаецца за вышэйшую форму соцыялістычнае гаспадаркі—комуну.

Менск, Комвуз. 21 кастр. 30 г.

# ПАРТЫЙНАЯ ВУЧОБА

Галенчанка

## Аб практычных пытаньнях партвучобы да пачатку новага навучальнага году

**„Зьезд зварочвае ўвагу ўсяе партыі на тое, што опортуністыя ўсіх колераў, асабліва правыя, ужываюць новы манэўр, які выражаецца ў формальным прызнаньні сваіх памылак і формальнай згодзе з генэральнай лініяй партыі, не пацьвяраджаючы сваё прызнаньне работай і барацьбой за генэральную лінію, што на справе адзначае толькі пераход ад адкрытай барацьбы супроць партыі да скрытай".**
**(Рэзолюцыя XIII зьезду УсеКП(б).**

Новы 1930-31 навучальны год пачынаецца ў складаных і напружаных гаспадарча-палітычных абставінах.

У пэрыяд разгорнутага соцыялістычнага наступу галоўнай небясьпекай у партыі зьяўляецца правы ўхіл. Было-б дзіцячай недадумкай лічыць, што правы ўхіл ня мае свайго адбітку на фронце партасьветы, але... можа здавацца дзіўным, як гэта можа быць: які-небудзь кіраўнік школы, гуртка альбо культпроп растлумачвае ў школе сутнасьць ухілаў, праводзячы нарады, прыймае рэзолюцыі наконт барацьбы на два фронты. Дзіўна, як гэтыя кадры партасьветы могуць зьявіцца носьбітамі правага ўхілу. Дзіўна гэта толькі для тых, хто кепска ўразумеў пастанову XVI зьезду партыі. Тамбы ён знайшоў паказаньні, што простая пропаганда ідэолёгіі ўхілістых зьмянілася прызнаньнем *на словах* лініі партыі і працягваньнем правай політыкі *на практыцы*. Няма больш гэтакіх дурняў, якія-б адкрыта абаранялі правы ўхіл. Адсюль—больш пільнасьці да праяў правага ўхілу *на практыцы*, больш увагі да тых, якія вуснамі сьпяваюць «алілуя» лініі партыі, а рукамі робяць правыя справы. Калі няма ўхілістых, якія адкрыта абвяшчаюць сябе правымі, дык таксама няма гэтакіх бальшавікоў, якія-б верылі словам, а ня справе.

За правым ухілам нямінуча ідзе сьледам яго цень, яго гістарычны, зьверхрэволюцыйны спадарожнік, гэта значыць, «левы ўхіл». Тое, што мы тут казалі наконт правых, тое самае адносіцца і да «левых», г. зн., што «левыя» таксама, а можа і больш пасьпяхова хаваюцца пад маскай.

I

### Аб значэньні тэорыі для практыкі

Тлумачыць зараз аб значэньні рэволюцыйнай тэорыі для рэволюцыйнай практыкі—гэта ўсёроўна, што агітаваць за савецкую ўладу. Кожны скажа: знаем, разумеем, чулі, аж абрыдла. Але... былі-ж спробы ліквідаваць саветы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі з боку «левых»? Былі.

Але ж ёсьць спробы ліквідаваць вучобу ў раёнах «суцэльнай бульбанарыхтоўкі»? Ёсьць, і ня толькі ёсьць спробы, але і значныя «посьпехі» ў справе ліквідацыі вучобы.

Вось вам «алілуйшчына» на словах і правыя справы на практыцы, і вось да якіх вынікаў гэта прыводзіць. Тут мы ня можам ня прывесьці адпаведных паказаньняў Леніна, Сталіна і вышэйшых органаў нашай партыі.

Вось як выражае Ленін значэньне тэорыі: «вузкі практыцызм, адарваны ад

тэорытычнага асьвятленьня руху ў яго цэлым, пагражае накіраваць рух на няправільны шлях».

А вось што гаворыць Сталін: «здаровае дзяляцтва—справа добрая, але калі яно губляе пэрспэктыву ў рабоце і не падначальвае сваю работу асноўнай лініі партыі, яно ператвараецца ў мінус».

XVI партконфэрэнцыя ў рэзолюцыі адзначыла наступнае: *«Як паказвае вопыт, комуністыя, якія ня вучацца і не жадаюць вучыцца, якія працуюць верхаглядзкі, ня ўнікаючы ў сутнасьць даручанай ім работы, ператвараюцца ў шэрагу выпадкаў у хвосьцік і прыкрыцьцё да разумных саботажнікаў і шкоднікаў. Такія комуністыя, якія ўяўляюць, нібыта яны кіруюць, а на справе зьяўляюцца штэмпэлёўшчыкамі чужых думак і прапаноў, ілжэкомуністыя, якія прыносяць занадта вялікую шкоду справе соцыялістычнага будаўніцтва».*

Прыкладаў гэтакіх хоць адбаўляй. Найбольш выдатныя: «шахцінская справа», «кандрацьцеўшчына ў Наркомземе СССР», «прышчэпаўшчына ў Наркомземе БССР», «шкодніцтва ў справе рабочага забесьпячэньня ў СССР і БССР», шкодніцтва і контррэволюцыя ў вышэйшых навуковых установах БССР і г. д.

Узімку 1929-30 г. мы мелі цэлы шэраг надта небясьпечных левых загібаў у колектывізацыі. XVI партзьезд у сувязі з гэтым гаворыць у пастанове па дакладу ЦК, што *«ідэёва-політычны ўзровень значнай часткі партыйных кадраў (зразумела, што гэта яшчэ больш прымяніма* і да ўсяе партыйнай масы—Я. Г.) *усё яшчэ недастатковы, што паказалі шматлікія факты антысераднецкіх перагібаў. Задача ўзмацненьня падрыхтоўкі партыйных кадраў, асабліва для вёскі, стаіць ва ўсёй вастрыні».*

Памыліцца той, хто скажа, што ўсе гэтыя рэзолюцыі адносяцца толькі да кіруючых вярхоў парторганізацыі. Справа соцыялістычнага будаўніцтва ажыцьцяўляецца рукамі ўсіх сотняў, мільёнаў працоўных, зразумела, у першую чаргу, пролетарыяту, пад кіраўніцтвам партыі.

Таму гэтыя сотні мільёнаў таксама павінны ведаць і разумець той шлях, па якому яны ідуць—пад кіраўніцтвам партыі. Без актыўнага і сьвядомага ўдзелу мільёнаў, без самакрытыкі і пролетарскай дэмократыі ня можа быць выхаваньня і вылучэньня новых кадраў, нельга пазбавіцца памылак і скажэньняў; нельга зьнішчыць шкодніцтва і бюрократызм, наогул нельга будаваць соцыялізм.

Школа, гурток, курсы, якія правільна працуюць, якія падвышаюць політычны ўзровень членаў партыі, комсамольцаў і беспартыйных рабочых, колгасьнікаў, беднякоў, серадцякоў,—усе яны проста і непасрэдна садзейнічаюць выкананьню прамфінпляну, пасеўнага пляну, умацаваньню колгасаў, выкананьню пляну бульба- і збожжазагатовак, правядзеньню самаабкладаньня ў вёсцы, падпісцы на пазыку пяцігодкі і г. д.

Вось што піша «Праўда» ў перадавой ад 2/X—30 г.: *«Як правіла, ідэёва-партыйны ўзровень тэй організацыі, у якой значная частка комуністаў і комсамольцаў да гэтага часу ня ўсвоіла ўдарных тэмпаў работы, нізкі. Тут кіраўніцтва і партасьветная сетка ня справіліся са сваёй работай. Член партыі—гультай, лятун, прагульшчык, мала сьвядомы, недысцыплінаваны, а часта нікуды нягодны комуніст».*

Калі мы прасочым за ідэёва-політычным узроўнем тых парторганізацый, якія кепска кіруюць гаспадарча-політычнымі кампаніямі на вёсцы, дык мы там таксама ўбачым і нізкі політычны ўзровень і нярухомасьць у партвучобе.

Пропбрыгада ЦК КП(б)Б прыводзіць такі факт: на раённай нарадзе па партасьвеце ў гутарцы аб колектывізацыі сельскай гаспадаркі пропагандысты спыніліся на пытаньні, як скарыстаць хатнюю маёмасьць раскулачаных. Гутарылі, дыскусіравалі гадзіны тры і парашылі, што хатнюю маёмасьць кулакоў трэба разьмеркаваць паміж колгасьнікамі. (!?)

Як гэтыя партработнікі будуць кіраваць колектывізацыяй, калі яны ня ведаюць азоў колектывізацыі? Хіба ж гэта ня сьведчыць аб тым, што сярод мас, нават партыйцаў, ёсьць шмат невядомага, што трэба вывучаць і ведаць у політыцы партыі, бо калі член партыі ня ведае лініі партыі, яму толькі адзін крок да бесьсьвядомых і правых і левых загібаў.

Нашы недахопы і цяжкасьці росту скарыстоўваюцца кулацтвам, буржуазіяй, правымі і левымі ўхілістымі для таго, каб пераканаць у няправільнасьці лініі партыі. Ухілістыя гавораць аб цяжкасьцях і недахопах, маўчаць аб посьпехах і аб шляхох перамаганьня цяжкасьцяй.

Задача партасьветы заключаецца ў тлумачэньні генэральнай лініі партыі, сутнасьці нашых цяжкасьцяй, высьвятленьні нашых посьпехаў і тым самым мобілізацыі мас для далейшага наступу па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

## Вучоба ці пасеўкампанія, вучоба ці бульбазагатоўкі?

Так ставяць пытаньні ў значнай частцы організацыі. «Па-першае,—гавораць яны,—«усе працаўнікі мобілізаваны ў вёску ў колгасы, таму няма каму выкладаць і кіраваць, па-другое, увесь партыйны і беспартыйны актыў таксама на справе праводзяць гэтыя кампаніі, патрэцяе, усе працоўныя капаюць бульбу альбо праводзяць асеньнюю сяўбу, ім не да вучобы».

У гэтых умовах ні ў якім выпадку нельга згадзіцца з тым, што пры напружанай гаспадарча-політычнай рабоце магчыма абыйсьціся без агітацыі і пропаганды задач, мэты і ролі гэтых кампаній.

У гэтых умовах трэба знайсьці больш гнуткія формы пропаганды, прыстасаваць іх да патрабаваньняў мас.

Чаму не правесьці па гэтым пытаньні адну-дзьве гутаркі з колгасьнікамі і колгасьніцамі? Гэта яшчэ тым лягчэй, што тыя самыя працаўнікі, якія праводзілі кампанію, якія засядаюць, агітуюць, могуць правесьці гэтыя гутаркі. Праз іх яны атрымаюць большую сувязь з масамі, азнаёмяцца з недахопамі ў рабоце данага колгасу альбо вёскі і будуць мець магчымасьць лепш праводзіць гэтыя кампаніі, больш пасьпяхова мобілізаваць на іх выкананьне масы.

У адным раёне ў часе бульбазагатовак зусім ня стала каламазі, а сяляне вязуць за 50 вёрст бульбу. 50 вёрст скрыпіць нямазанае кола, 50 вёрст скрыпіць сэрца падводчыка, 50 вёрст ён кляне савецкую ўладу. У шэрагу колгасаў прыбыткі разьмяркоўваюцца па пайкох, і гэта адбіваецца на працоўнай дысцыпліне. Кулак вядзе хітрую і тонкую агітацыю супроць улады і колгасаў, карыстаючыся ўсялякімі выпадкамі.

Ён праводзіць, ня гледзячы на кампаніі, індывідуальную і групавую агітацыю супроць здачы бульбы, збожжа, супроць самаабкладаньня, ён скарыстоўвае як прыклад, у доказ свае праваты, кожны няпрыбраны сноп збожжа, кожную дзесяціну сапсаванай канюшыны, кожную худую жывёлу колгасу—супроць колгасу.

Кулак увязвае сучаснасьць з сваёй кулацкай тэорыяй і з міжнародным становішчам. «На Захадзе крызіс, ды і ў нас крызіс,—гаворыць ён: не хапае мяса, масла, дык гэта савецкая ўлада вывозіць усё за мяжу». Недахоп срэбнай монэты кулак тлумачыць тым, што ўрад пачаў плаціць царскія даўгі, і павязлі золата і срэбра за мяжу і г. д.

Чаму кулак злучае кампанію з агітацыяй, а мы гаворым, што нельга злучыць. Мы і дагэтуль мала ўжываем мэтоды групавой агітацыі. Успомнім восень і зіму 1929-30 г., калі мы мелі масавы рух па колектывізацыі.

Мы праводзілі шмат усялякіх сходаў, шмат агітавалі і вельмі мала вялі, альбо зусім не вялі пропаганды, вельмі мала высьвятлялі і для парторганізацыі і для мас сэнс і ленінскія прынцыпы колектывізацыі і раскулачваньня. Калі-б мы гэта рабілі, тады-б было менш «левых» загібаў, тады-б больш пасьпяхова ішла колектывізацыя.

У передавой «Праўды» ад 2/X-30 г. ёсьць наступнае месца: *«нярэдка чуваць зараз галасы дзяляг: нам няма калі займацца пытаньнямі партыйнай вучобы, некалі прапрацоўваць рашэньні зьезду. Ці няясна, што такі пункт погляду ня мае нічога агульнага з поглядамі партыі па пытаньні аб ролі тэорыі? Падвышэньне ідэёва-політычнага ўзроўню членаў партыі, комсамольцаў, беспартыйных рабочых, уцягнутых у школу, не перашкаджае, а проста садзейнічае барацьбе за высокія вытворчыя паказальнікі. Ня толькі радавы член партыі і комсамолец, але і актывісты абавязаны працуючы падвышаць свае тэорэтычныя веды».*

На жаль, гэтага яшчэ не разумеюць, ці разумеюць, але не ажыцьцяўляюць на справе шмат партыйцаў.

У Асьвейськім райкоме партыі былі прапановы адцягнуць вучобу да лютага (тады, мабыць, кампанія скончыцца), а іншыя гаварылі: «у сучасных умовах хопіць два разы ў месяц займацца».

Ці патрэбны тут комэнтарыі?

III

## „Вузкія“ месцы ў партасьвеце

Іспытам на справе для кожнага працаўніка, іспытам яго партыйнай вытрыманасьці зьяўляюцца яго адносіны да «вузкіх» месц. Усім вядома, што раўненьне на «вузкія» месцы зьяўляецца яскравай адзнакай правага ўхілу на практыцы.

«Вузкімі» месцамі ў партасьвеце зьяўляюцца: а) падручнікі, б) кадры, в) сродкі. Гэта галоўныя вузкія месцы, ёсьць і іншыя: памяшканьні, абсталяваньне, але яны другарадныя.

Як жа адносяцца райкомы да гэтых «вузкіх» месц? Вось слухайце:

### Гаворыць Кармянскі райком

„Штатных пропагандыстых пры райкоме няма і няма каго вызначаць... Просім тэрмінова прыслаць загадчыка АПО габінэту і паложаную колькасьць (?!) штатных пропагандыстых... Пачатак заняткаў ня можа быць забясьпечаны ў вызначаныя Вамі (ЦК КП(б)Б) тэрміны.

### Буда-Кашалеўскі райком

„пропагандыстага няма, а таксама няма загадчыка партгабінэту. Нявысылка таварыша пагражае зрыву партвучобы.

Выслаць усе матар'ялы па партвучобе, адсутнасьць якіх не дае магчымасьці распачаць працу“.

### Брагінскі райком

„Да навучальнага году засталося некалькі дзён, а мы да гэтага часу не атрымалі ад культпропу ЦК конкрэтнай устаноўкі, як пабудаваць нашу сетку. Просьба даць наступнае тлумачэньне, з якіх адзінак складаецца наша партсетка (?!), якім чынам ахапіць вучобай комуністых адзіночак. Прышлеце нам падручнікі АПШ і ВПШ і ленінска-марксыцкага гуртка. Як абстаіць справа з адчыненьнем партгабінэту? Наогул паведамеце аб усіх пытаньнях аб партвучобе ў гэтым годзе. Маўчаньне з Вашага боку пагражае зрывам партвучобы па нашаму раёну і г. д.

Замест таго, каб паведаміць, што зроблена ў раёне па партыйнай вучобе, наконт адчыненьня партгабінэту і г. д., замест гэтага, сам раён пытае: «як абстаіць справа з адчыненьнем партгабінэту». І гэта пасьля адпаведных пастаноў усебеларускай нарады па партасьвеце, пасьля пастановы бюро ЦК КП(б)Б наконт партвучобы.

Замест таго, каб паведаміць, што зроблена ў справе ахопу комуністых і батракоў-адзіночак, як наогул пабудавана сетка, замест гэтага раён запрашае, як гэта зрабіць, як быццам гэтаму можна навучыць праз абежнік, а не праз вучот умоў на месцы.

Трэба пачынаць вучобу з бягучых пытаньняў, аб чым былі дадзены сваячасова паказаньні і мэтодычныя распрацоўкі па конкрэтных пытаньнях. Асноўны матар'ял—мясцовае політычнае і гаспадарчае жыцьцё, газэты, часопісі і інш. Зьмест—чарговыя задачы. Гэтыя бягучыя пытаньні трэба зьвязваць з прынцыповымі палажэньнямі ленінскай тэорыі. Напрыклад, узмацненьне фінансаў краіны мае зараз надта важнае значэньне, гэта проблема цікавіць усіх працоўных, пачынаючы з пытаньня аб дробных грошах і канчаючы пазыкай, пэнсіяй, самаабкладаньнем, с.-г. падаткам і г. д.

Чаму гэтыя пытаньні не прапрацоўваць ва ўсёй партсетцы? Чаму не паставіць мэтай зрабіць усю партсетку зброяй, прывадным рамнём ад партыі да мас у справе ўзмацненьня фінансавага становішча краіны?

Таксама і пытаньні ўнутрыколгаснага будаўніцтва, організацыі працы, разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў, узаемаадносіны паміж беднякамі і сераднякамі ў колгасах і інш., пытаньні далейшай колектывізацыі, узаемаадносіны з адзінаасобнікамі, політыка кулацтва і барацьба з ім, прасьцейшыя віды вытворчага коопэраваньня, перавыбары сельсаветаў, перазаключэньне колдагавароў, пытаньне міжнароднага становішча, задача ўдарнага кварталу 1930 году.

Паўтараем, матар'ял для тлумачэньня дасьць столькі, колькі патрэбна кожнай ячэйцы, кожнаму колгасу, саўгасу, кожнай вёсцы, а асноўным кіруючым матар'ялам будуць пастановы XVI і XIII зьездаў УсеКП(б) і КП(б)Б.

Чаму сапсавана жыта, авёс, чаму дрэнна ідзе ўборка бульбы, загатоўкі, самаабкладаньне, як выканаць добра ў тэрмін усе політгаспадарчыя задачы,—усё гэта павінна быць цэнтральным зьвяном у працы ўсіх школ, усё гэта павінна быць увязана з высьвятленьнем генэральнай лініі партыі і з практычным правядзеньнем гэтай лініі.

Усё гэта адказвае на пытаньне, з чаго пачынаць вучобу.

*Гэтага мала, цяпер аб програмах пershапачатковых школ. Програмы асобных прадметаў надрукаваны ў часопісе «Коммунистическая революция», №№ 19-24, у часопісе «Пропагандист», выданыя асобнымі брашуркамі, а раёны працягваюць патрабаваць програмы.*

Амаль у кожным райкоме, на кожным прадпрыемстве ў сталох, на вокнах вы знойдзеце шмат заданьняў ЦК УсеКП(б) аб выніках XVI зьезду па бягучых пытаньнях, сотні надрукаваных экзэмпляраў адозвы ЦК УсеКП(б) ад 3/IX—30 г., і ўсё гэта ляжыць і не скарыстоўваецца.

Калі мы патрабуем на прадпрыемстве скарыстаньня ўсіх матар'ялаў, памяншэньня страт, дык чаму мы не павінны патрабаваць ад апаратаў партасьветы максымальнага скарыстаньня ўсіх матар'ялаў ЦК, зьездаў, часопісаў, газэт і г. д.? Чаму мы маем сьмеласьць патрабаваць кожны раз новых прыстасаваных дапаможнікаў і ў хутчэйшы тэрмін?

Гэта ўсёроўна, калі-б завод у які-небудзь дзень патрабаваў зьмяніць усё старое абсталяваньне на новае. Гэта, зразумела, не азначае, што мы рэкомэндуем карыстацца ўстарэлымі падручнікамі выданьня 24, 25, 26 гадоў. Гэта азначае, што мы вельмі кепска скарыстоўваем маючыяся ў нас матар'ялы XVI і XIII зьездаў, адозвы і пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, вельмі кепска скарыстоўваем альбо зусім не скарыстоўваем часопісы, заданьні, газэты.

А вось гэтым шляхам можна вельмі добра перамагчы «вузкія» месцы ў падручніках і, акрамя гэтага, садзейнічаць распаўсюджваньню газэт, навучыць імі карыстацца, сачыць за сучаснасьцю і ўдзельнічаць у ёй.

Аб сродках на партасьвету мы ня будзем тут спыняцца. Скажам толькі, што калі на 1929-30 навучальны год было па ўсёй БССР скарыстана на партасьвету па мясцоваму бюджэту нямнога больш 700.000 руб., дык калі зараз падлічыць патрабаваньні раёнаў, гэта будзе складаць ня менш трох-чатырох мільёнаў. Зразумела, што гэтыя «невялічкія» патрабаваньні ня могуць быць задаволены цалкам, але па каштарысу папярэдне прадугледжана павялічэньне больш чым у два разы ў параўнаньні з мінулым годам.

IV

## За плянавасьць, за тэмп, за актыўнасьць у падрыхтоўцы партыйных кадраў

Чаму зараз так востра ставіцца пытаньне аб кадрах? Кіравалі ж да гэтага, вучыліся на сваіх памылках, чыталі памаленьку Маркса, Леніна... Навошта біць у званы аб кваліфікацыі і перакваліфікацыі, навошта крычаць «культпропшчыкі» аб неабходнасьці ўзьняць вышэй сьцяг пропаганды?

Дарма думаюць, што гэтакі настрой ня існуе ў Беларускай парторганізацыі. Зразумела, на словах усе за кваліфікацыю, але на справе на многіх вучастках працуюць па-старому з раскачкай, з чаканьнем дырэктыў зьверху.

Новы этап нэп'у патрабуе новых форм работы, другіх тэмпаў, новага зьместу.

Новы этап нэп'у патрабуе, у першую чаргу, сьвядомасьці, новай расстаноўкі сіл, новых форм клясавай барацьбы і мэтодаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Кіраваць прадпрыемствам з новымі ўдасканаленымі варштатамі, з пераходам на 7-гадзінны рабочы дзень, на непарыўку, кіраваць мэтодамі соцспаборніцтва, самакрытыкі цяжэй і складаней, як без спаборніцтва, без самакрытыкі,

але толькі гэтымі мэтодамі і можна кіраваць, толькі гэтымі мэтодамі можна дабіцца посьпехаў.

Будаваць новыя колгасы, узмацняць старыя, кіраваць новым соцыяльным пластом колгасьнікаў цяжэй, складаней, чым зьбіраць сельска-гаспадарчы падатак, выконваць хлебазагатоўкі.

У новых умовах аднаго рэволюцыйнага энтузыязму недастаткова; бязумоўна, энтузыязм неабходзен, але патрэбна правільнае разуменьне лініі партыі.

Кіраваць партыйнай організацыяй у ўскладніўшыхся і абвастрыўшыхся абставінах клясавай барацьбы, кіраваць новымі рэзэрвамі партыі і новымі папаўненьнямі, змагацца тэорэтычна і практычна на два фронты нельга без усьведамленьня новых абставін, без разуменьня таго, хто зьяўляецца апорай, хто—саюзьнікам, хто—ворагам.

Усё гэта патрабуе перакваліфікацыі старых кадраў і кваліфікацыі, падрыхтоўкі новых.

Ва ўсёй партрабоце павінна быць адзінства пропаганды і оргработы. Ня можа быць пропаганды, адарванай ад практыкі мясцовага жыцьця і адрываючай слухачоў і выкладчыкаў ад гэтай практыкі; ня можа быць оргработы, адарванай ад тэорэтычнага яе асьвятленьня і кіраўніцтва.

На справе, у шмат якіх выпадках, мы маем адваротнае: слухачы адрываюцца ад масавай работы, работнікі адрываюцца ад вучобы, і гэта спараджае вядомую недаацэнку ў іншых выпадках і саботаж пропаганды з боку оргработнікаў, бо (трэба ў парадку самакрытыкі прызнацца) часта пропагандыстыя толькі пропагандуюць, а оргработнікі працуюць і забываюцца на ленінскую вучобу.

У свой час Ленін пісаў:

*«Калі задача соцыялістаў зводзіцца да таго, каб быць ідэёвымі кіраўнікамі пролетарыяту ў яго сапраўднай барацьбе супроць сапраўдных ворагаў, тады тэорэтычная і практычная работа зьліваецца разам у адну работу, якую так трапна ахарактарызаваў вэтэран нямецкай соцыял-дэмократыі Лібкнэхт словамі: «вучыцца, пропагандаваць, організоўваць». («Что такое друзья народа»).*

Для таго, каб пропагандаваць, трэба самому вучыцца, гэта зразумела, але каб арганізоўваць і кіраваць, мяркуецца, што можна і ня вучыцца. Між тым, организацыя кіраўніцтва павінна ісьці згодна з пропагандай, бо нельга весьці масы да таго, да чаго яны яшчэ неспропагандаваны, чаго яны яшчэ неўсьвядомілі сабе. Гэта патрабуе, каб сам організатар, у першую чаргу, быў выхаваны. Нельга організатару мэханічна браць лёзунгі партыі і накіроўваць усю сілу партыйнага ўзьдзеяньня на масы, імкнучыся дагнаць і перагнаць другія акругі, раёны, рэспублікі.

У гэтым мэханічным, можна сказаць, чыноўнічым успрыяцьці лініі партыі і заключалася адна з прычын левых загібаў у колектывізацыі.

Патрэбнасьць у кадрах павінна выклікаць у бальшавікоў не бязьдзейнасьць і пасыўнасьць, а большую рашучасьць, вышукваньне ўсіх сродкаў для разгортваньня вучобы.

Вось як ставіць гэта пытаньне ЦК УсеКП(б):

*«Растучыя запатрабаваньні ў кадрах патрабуюць ад партыйных організацый у прадстаячым годзе далейшага разгортваньня сеткі партыйнай асьветы і падвышэньня яе марксысцка-ленінскага ўзроўню».* (Паст. ЦК ад 13/IX—30 г., гл. «Праўда» ад 16/IX—30 г.).

Што патрэбы ў кадрах у нас надта значныя, што маючыяся кадры мала падрыхтаваны і слабыя, відаць з вынікаў вясеньняй перавыбарчай кампаніі ячэек.

Пры перавыбарах бюро вясной 1930 г. склад бюро па рабочых ячэйках быў аднаўлены на 50-60%, па вясковых ячэйках на 55%, склад сэкратароў ячэек быў аднаўлены на 62% і на 58,9%. Бязумоўна, калі за адны перавыбары выбываюць са складу сэкратароў амаль $^{2}/_{3}$ былога складу, дык гэта нядобрая адзнака.

Гэта значыць, што парткадры кепска адпавядаюць запатрабаваньням сучаснасьці, адстаюць у сваім разьвіцьці ад чарговых задач.

Шматлікія раёны маюць вялікую патрэбу ва ўзмацненьні, але трэба адзначыць, што нельга тут цалкам спадзявацца на цэнтр, што ён усё задаволіць.

Больш таго, трэба падкрэсьліць, што галоўнай крыніцай кадраў павінны быць самі раёны.

Даўно ўжо сказана, што «людзі ў нас ёсьць, але мы ня ўмеем іх знайсьці».

Практыка пропагандысцкіх брыгад ЦК КП(б)Б у гэтай справе вельмі яскравая.

Брыгада, якая прыяжджала ў раён, у большасьці выпадкаў знаходзіла пустату ў справе партвучобы. Райкомы пачыналі са скаргаў, што няма людзей.

Па ініцыятыве брыгад праводзіліся нарады, абсьледваньні, прагляд усіх вучотных картак усіх комуністых, і... значная колькасьць пропагандысцкіх сіл знаходзілася. Бязумоўна, гэты склад пропагандыстых і па колькасьці і па якасьці ня можа задаволіць усе запатрабаваньні, але ж адсюль можа быць толькі адзін вывад: яшчэ большая ўпартасьць у справе вучобы, кіраўніцтве гэтымі пропагандыстымі і іх перападрыхтоўцы на працягу ўсяго вучэбнага году.

ЦК УсеКП(б) рэкомэндуе ў гэтай галіне разгортваньне сеткі-курсаў зьездаў вясковых комуністых, батрацкіх і колгасных курсаў для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў партактыву вясковых організацый. *Як правіла, ва ўсіх раённых цэнтрах, у буйных колгасах і саўгасах організаваць базавыя саўпартшколы( па тыпу вячэрніх саўпартшкол на буйных прадпрыемствах), адначасова разгарнуць шырокую сетку спэцыяльных курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партактыву вясковых організацый.* (Пастанова ЦК УсеКП(б), «Праўда» ад 16/IX-30 г.).

Зараз ёсьць у ЦК заяўка на 54 штатныя пропагандыстыя і на 44 загадчык! партгабінэтаў, гэта толькі з боку 56 раёнаў.

Зразумела, што гэтыя запатрабаваньні ня могуць быць зараз-жа задаволены з боку ЦК.

Вось чаму трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што галоўнай базай кадраў павінны быць самі раёны.

Конкрэтна: трэба перагледзець увесь склад парторганізацыі і адабраць таварышоў для кіраўніцтва школамі і гурткамі, для кіраўніцтва сэктарамі і нарадамі пропагандыстых. Трэба, каб сам загадчык культпропу, сэкратар райкому, сэкрасар ячэйкі і інш. кіруючыя працаўнікі раёну прымалі ўдзел у кіраўніцтве нізавымі пропагандыстымі. Больш падрыхтаваных слухачоў школ, якія, аднак, ня могуць быць пропагандыстымі, можна вылучыць сэкратарамі гурткоў самаадукацыі. Школы і гурткі, якія ня маюць пропагандыстых, перавесьці ў гурткі па самаадукацыі. Задача старшыні і сэкратара гэтага гуртка: сувязь з райкомам, атрыманьне чарговых мэтодычных распрацовак і заданьняў, вядзеньне протоколу заняткаў гуртка, пасылка гэтага протоколу ў раён, атрыманьне рэцэнзіі на протокол і абмеркаваньне гэтай рэцэнзіі на гуртку.

Трэба ўжываць трохдзённыя, альбо пяцідзённыя нарады пропагандыстых з мэтай тэорэтычнай і практычнай падрыхтоўкі пропагандыстых на працягу году.

Прыкладам панікі перад цяжкасьцямі могуць быць такія разважаньні сэкратара Б-га райкому:

«Мне патрэбны два пропагандыстыя,--гаворыць ён».

«А культпроп ёсьць»?

«Ёсьць, але-ж такі, што лепш, каб яго і зусім ня было».

...«Загорг. таксама слабы, мы будзем рады (?!), калі яго ад нас забяруць».

— «Колькі ў вас асоб у парторганізацыі»?

«Сто шэсьцьдзесят»...

— «Ніводнаіга політычна сьвядомага члена партыі няма»?

«Я лічу політычна сьвядомымі толькі тых, якія скончылі комвуз, альбо другую навучальную ўстанову».

— «Ну а ты сам добры працаўнік»?

«Не, я таксама слабы. Я ж нідзе ніколі ня вучыўся».

Вось погляды і настроі гэтага «кіраўніка раённай організацыі»: «Няма нікога, няма на каго абаперціся. Члены партыі слабыя, я сам слабы».

Хіба ж гэта ня надта яскравы ўзор праваопортуністычнага панікёрства, упадніцтва, пасыўнасьці?

Можа гэты сэкратар на справе і ўпарта працуе, але ж гэтакія настроі за-

плюшчваюць яму вочы на сілы раёну, на парт'ячэйкі, на батрацкі, бядняцкі і колгасны актыў. Ён сам кажа, што ўлетку ў раёне было 37 колгасаў, а зараз ёсьць ужо 40 колгасаў і колгасы ня кепскія.

Хіба-ж гэта ня сьведчыць аб тым, што сілы ў гэтым раёне ёсьць, што ёсьць на каго спадзявацца, што трэба гэтыя сілы больш згрупаваць, аб'яднаць і накіраваць.

Між іншым справа з падрыхтоўкай кадраў і іх лепшым скарыстаньнем значна палепшылася-б, калі-б у раёнах і буйных ячэйках былі організаваны сэктары кадраў.

Тое, што кадраў мала, зусім ня значыць, што можна бяз пляну і вучоту, выпадкова разьмяркоўваць і падрыхтоўваць кадры, якраз наадварот, раз мала, тым суровей павінен быць іх вучот.

V

## Аб тым, як з добрымі пажаданьнямі зрываюць вучобу і аб пагоні за шыльдай

Найбольш паказальным прыкладам гэтага зьяўляецца складаньне вучэбнага пляну вячэрняй саўпартшколы (ВПШ).

Вось проект вучэбнага пляну ВПШ у Бабруйску:

**I курс**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Політэкономія | 44 | гадз. |
| 2. Гісторыя УсеКП(б) | 100 | „ |
| 3. „ Захаду | 44 | „ |
| 4. Бягуч. політыка | 24 | „ |
| 5. Практычныя пытаньні партработы | 20 | „ |
| 6. Матэматыка | 32 | „ |
| 7. Белмова | 32 | „ |
| 8. Экономгеографія | 18 | „ |
| Разам | 384 | гадз. |

**II курс**

1. Гісторыя партыі
2. Ленінізм
3. Гіст. матэр.
4. Экономполітыка
5. Матэматыка
6. Белмова
7. Прыродазнаўства

Разам . . 384 гадз.

Вучэбны плян складзен з разьліку 4 вучэбныя дні ў дэкаду, па 4 вучэб. гадз. у дзень на 24 дэкады, г. зн., на 8 вучэбных месяцаў.

Папершае, 8 месяцаў ВПШ ня зможа працаваць, асабліва ў вёсцы, трэба разьлічваць на 7 месяцаў для гораду.

Падругое, на першым курсе для бягучай політыкі вызначана вельмі мала часу (24 гадзіны).

Патрэцяе, на другім курсе ні ў якім выпадку ня хопіць часу для прапрацоўкі чатырох грамадзка-політычных дысцыплін.

Пачацьвертае, на другім курсе зусім не адведзена месца для бягучай політыкі і для практычных пытаньняў партыйнага, профсаюзнага альбо колгаснага будаўніцтва.

Вынік: трэба павялічыць гадзіны для бягучай політыкі і трэба заставіць у програме ня больш двух політычных прадметаў на кожным курсе, пры ўмове, калі школа будзе працаваць ня менш 4 дзён у дэкаду па 4 гадзіны ў дзень.

Такая пагоня за колькасьцю прадметаў, ня ўлічваючы колькасьці часу, ня ўлічваючы неабходнасьці дасканалай, паглыбленай вучобы наглядаецца і ў іншых організацыях.

Так, Кастрычніцкі райком (Менск) спачатку прапанаваў на другім курсе ВПШ таксама 4 тэорэтычныя політычныя прадметы. Фрунзаўскі райком (Менск) меркаваў на двух курсах прапрацаваць сем тэорэтычна-політычных прадметаў. Іншыя таварышы прапануюць для двух курсаў восем політычных прадметаў (усё гэта, ня лічачы бягучай політыкі). Гэтыя таварышы кіруюцца надта добрым жаданьнем даць усё.

Яны рашуча супярэчаць супроць аднаго альбо двух політычных прадметаў— «гэтага-ж мала, гавораць яны: гэта-ж да нас ня пойдуць слухачы».

Правільна, што калі абяцаць усе прадметы, то гэта зацікавіць несьвядомых, але ж трэба абяцаньні выконваць.

Абяцаньню, што за 2 гады ў ВПШ можна прапрацаваць добра 7-8 тэорэтычна-політычных прадметаў, яшчэ шмат хто верыць, і таму супроць гэтых абяцаньняў трэба змагацца.

Другое пытаньне, як прапрацоўваць прадметы. Ці мажліва дзяліць прадметы на дзьве часткі: першую ў першым годзе прапрацоўваць, другую—у другім годзе, альбо трэба скончыць кожны прадмет

у тым жа годзе і з другога году пачынаць іншыя прадметы? На гэтае пытаньне ёсьць паказаньні з боку культпропу ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, ёсьць пастанова ўсесаюзнай і ўсебеларускай нарады па партасьвеце. Там гаворыцца, што кожны год павінен быць скончаным курсам навучаньня, гэта значыць, нельга пераносіць адзін прадмет на два гады. Ня гледзячы на гэта, ёсьць спробы гэта зрабіць, напрыклад, на менскіх курсах загадчыкаў райпартгабінэтаў. Тав. Ксяндзоў прапанаваў пачынаць адразу з першага году ўсе прадметы і потым пераносіць іх на другі год. Кастрычніцкі райком (Менск) спачатку таксама меркаваў прапрацоўваць гісторыю партыі ў два гады: частку на першым курсе, частку—на другім.

Гаворачы аб праграме ВСПШ, нельга не адзначыць і такога моманту. Амаль усе раёны ў праграме па агульнаадукацыйных прадметах ставяць беларускую мову. Бязумоўна, у большасьці гэта правільна, але трэба ўлічваць нацыянальны склад слухачоў. Напрыклад, мы маем ВСПШ з большасьцю слухачоў з палякаў альбо яўрэяў, якія зусім кепска чытаюць па-расейску, яшчэ горш—па-беларуску і трошкі лепш—на роднай мове.

Якую мову трэба ім выкладаць, каб вывучэньне гэтай мовы садзейнічала больш хуткаму палітычнаму і культурнаму росту? Па нашай думцы, трэба выкладаць на роднай мове.

Другі прыклад пагоні за шыльдай зьяўляецца пагоня за раённым комвузам.

Калі організоўваюць дэкадны комвуз, трэба організоўваць дзённы дэкадны комвуз, а не вячэрні. Трэба адзін раз у дэкаду для гэтага дабіцца поўнага аслабаненьня партактыву ад работы. Гэта дасьць 168 вучэбных гадзін у год, з разьліку 21 дэкада ў год, па 8 гадзін у дэкаду. Калі ўлічваць вучобу слухачоў у дому, таксама ня менш 8 гадзін у дэкаду, дык гэта складзе разам 336 гадзін. Гэта дастаткова для таго, каб добра прапрацаваць два тэорэтыка-палітычныя прадметы (каля 200 гадзін), пытаньні бягучай палітыкі (каля 100 гадзін) і практычныя пытаньні партработы (30-40 гадзін).

Слухачом менш падрыхтаваным, бязумоўна, лепш вучыцца ў ВСПШ, бо там ён пад кіраўніцтвам дакладчыка будзе працаваць 300-360 гадз. у год. Таму наогул нельга гаварыць аб тым, што ВСПШ не задавальняе, а трэба конкрэтна адзначыць, што пэўныя таварышы па падрыхтоўцы стаяць вышэй ВСПШ, па-першае, і па-другое, ня маюць магчымасьці наведваць апошнюю 3-4 дні ў дэкаду.

Што датычыцца вячэрняга дэкаднага комвузу, дык па колькасьці гадзін (4 гадзіны ў вечар на 21 дэкаду—разам 84 гадзіны) ён больш падыходзіць пад назву курсаў партактыву, і ў ім мажліва прапрацаваць, ды і то павярхоўна, толькі 5-6 проблем асобных тэорэтычных дысцыплін.

## VI.

## Аб сувязі тэорыі з практыкай

У разьдзеле II мы ўжо закранулі пытаньне аб гэтай сувязі. Мы высьветлілі, што ўсё вывучэньне ленінскай тэорыі павінна быць прасякнута задачамі, вурокамі нашых дзён.

Гэтага мала, мала вывучаць тэорыю на прыкладах сучаснасьці. Трэба, каб слухачы партасьветы былі актывістымі, энтузыястымі, ударнікамі гэтай сучаснасьці.

Да апошняга часу пад сувязьзю тэорыі з практыкай у галіне партасьветы разумелася, з аднаго боку, насычаньне тэорыі пытаньнямі сучаснасьці і мясцовым матар'ялам, з другога боку—тыя ці іншыя пытаньні нагрузкі, якія часта мелі выпадковы характар.

Напрыклад, даручалася высьветліць асобным слухачом рост партыі на даным прадпрыемстве, альбо ход падпіскі на пазыку, альбо становішча з вытворчасьцю працы і г. д.

Мы не гаворым, што гэта непатрэбна, але гэта толькі першыя крокі ў глыб грамадзкага жыцьця.

Зараз трэба дабівацца ўсебаковай і сапраўднай сувязі школы, вучобы, вучняў з грамадзка-палітычнай практыкай.

Трэба ў гэтай справе апірацца на самадзейнасьць, актыўнасьць слухачоў, на іх сустрэчны плян практыкі. Пры ацэнцы

якасьці і вынікаў вучобы, пры заключэньні дагавароў на соцпаборніцтва мы, акрамя іншых паказальнікаў вучобы, наведваньне, прысваяльнасьць, актыўнасьць у школе) трэба абавязкова ўлічваць уплыў і ўдзельнічаньне школы, гуртка ў грамадзкім жыцьці.

Тут мы павінны паставіць перад партсеткай такія пытаньні:

а) удзельнічаньне школы ў правядзеньні ўборачнай кампаніі, асеньняй сяўбы, бульба- і збожжазагатовак, самаабкладаньня, мобілізацыі сродкаў насельніцтва і г. д.;

б) уплыў школ на працоўную дысцыпліну ў саўгасах і колгасах, на правільнае разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў у колгасах, на сувязь колгасаў з адзінаасобнікамі;

в) удзельнічаньне школы ў працы саветаў, коопэрацыі, у барацьбе з кулацтвам;

г) уплыў школы на рост партыі на даным прадпрыемстве, у саўгасе, колгасе, вёсцы і на якасьць работы парторганізацыі;

д) удзельнічаньне сеці партасьветы ў ліквідацыі прарываў у прамфінпляне, у барацьбе з цякучасьцю рабочай сілы, у працы ўдарных брыгад, у складаньні сустрэчнага прамфінпляну;

е) удзельнічаньне школ у організацыі зачыненых разьмеркавацеляў, у палепшаньні сталовак і іншых бытавых устаноў;

ж) удзельнічаньне ў праверцы коопэрацыйнага апарату, у шэфстве над дзяржапаратам, над Чырвонай арміяй і г. д.

Вось толькі пры гэтых патрабаваньнях да партсеткі, пры дасягненьні посьпехаў у гэтай галіне нам ня трэба будзе баяцца пераацэнкі партвучобы з боку некаторых дяляг, бо тады партвучоба сама за сябе пастаіць.

У пытаньні зьвязку вучобы з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва ёсьць з боку некаторых «вумных» асоб настроі, што гэтая ўвязка зробіць падмену ячэек і райкомаў працай школ, што тады ячэйкам і райкомам ня будзе чаго рабіць; так проста і выказался адна грамадаведка на нарадзе па партвучобе.

Гэтыя думкі зьяўляюцца прыкладам пранікаганьня ў партыю буржуазнай ідэолёгіі «чыстай» тэорыі, зьяўляюцца паказальнікам нежаданьня займацца выхаваньнем мас і мобілізацыяй іх на вырашэньне і перамогу сучасных цяжкасьцяй.

Тэндэнцыі ў бок «чыстай», «паглыбленай» тэорыі, адрыў ад «бруднай» цяжкай практыкі зьяўляюцца своеасаблівай праявай бюрократызму, адарванасьці ад інтарэсаў і жыцьця мас і проста вядуць да опортунізму.

Гэтая буржуазная тэндэнцыя знаходзіць свой адбітак ва ўсіх зьвеньнях комуністычнага выхаваньня, пачынаючы ад першапачатковых школ і канчаючы комвузамі і акадэміямі, так што нізавая сетка партасьветы не зьяўляецца выключэньнем.

У аснову і мэтавую ўстаноўку ўсяе сеткі партасьветы неабходна паставіць наступныя паказаньні ЦК УсеКП(б) пастанова ад 13/IX—30 г.).

*«Партыйная вучоба ў школах і гуртках павінна быць цесна зьвязана з канкрэтнымі задачамі партыйнай організацыі...*

*Работа ў школах і гуртках павінна быць пабудавана такім чынам, каб школы і гурткі, побач са сваёй вучэбнай работай, аказвалі сапраўдную дапамогу партыйным організацыям у выкананьні іх задач».*

VII.

## Бярэце консультацыю ў лепшых кіраўнікоў партасьветы і мэтодыстых

Зразумела, што чалавек, які бярэцца за профэсію сьлесара, інжынэра, тэхніка альбо іншую, павінен ведаць гэтую профэсію, павінен штодзённа падвышаць сваю кваліфікацыю, павінен непарыўна сачыць за найноўшымі дасягненьнямі ў галіне свае спэцыяльнасьці.

Ці неабходна прад'яўляць гэтакія патрабаваньні да партпрацаўнікоў наогул і да працаўнікоў партасьветы, у прыватнасьці?

Бязумоўна, неабходна. Гэта зусім ня значыць, што кожны кіруючы партработнік павінен абавязкова скончыць

комвуз, як лічыць памянёны вышэй сэкратар Б-га райкому.

Лепшай і бязумоўна неабходнай школай для кожнага партыйца зьяўляецца сама партработа, работа сярод мас, кіраўніцтва масамі і вучоба на вопыце мас.

Кожны партыец павінен здаць экзамэн па партыйнай вытрыманасьці і дысцыплінаванасьці, комуністычнай сьвядомасьці і бальшавіцкай закалцы і непрымірымасьці.

Да кіруючых партыйных работнікаў мы прад'яўляем большыя патрабаваньні.

Оргпартработнік, які ня сочыць за практыкай і тэорыяй партбудаўніцтва па ўсім СССР,—кепскі работнік.

Работнік партасьветы, які ня ведае асноўных рашэньняў партыі ў гэтай галіне, які ня ведае вопыту і вурокаў партасьветы свайго раёну і ўсяго СССР,—няпрыгодны работнік. На справе мы маем шмат такіх работнікаў.

Таварышы з Бабруйску, якія меркавалі скласьці програму ВПШ з сеці політыка-тэорэтычных прадметаў, на нашы запытаньні адказвалі, што яны першы год на гэтай працы. Калі першы год, дык трэба адразу-ж спачатку азнаёміцца з мінулай практыкай, з яе посьпехамі і недахопамі. Таварышы з Менску, нават некаторыя выкладчыкі комвузу, якія працуюць ня першы год у галіне партасьветы і лічацца спэцыялістымі ў гэтай галіне, таксама выказваліся за шматпрадметнасьць, за унівэрсалізм ВПШ.

Чым тлумачыцца гэтае зьявішча, як ня комчванствам, як ня поўнай недаацэнкай вопыту мінулых гадоў і іншых організацый.

Зразумела, што пасьля гэтага ня прыходзіцца дзівіцца, што работнікі з раёну ў шматлікіх лістох, замест таго, каб інформаваць ЦК аб становішчы партвучобы, патрабуюць выслаць «усё, што ў вас ёсьць на партвучобе».

У шматлікіх консультацыях, гутарках, нарадах часта прыходзіцца сустракацца з такой поўнай незнаёмасьцю з мінулым вопытам і яго вурокамі.

Гэтыя працаўнікі патрабуюць абежнікаў «аб усіх пытаньнях па партвучобе». Патрабуюць тлумачэньняў, «з якіх адзінак складаецца наша партсетка» (?!), патрабуюць тлумачэньня, «якім чынам ахапіць вучобай комуністых адзіночак (!), і папярэджваюць, што маўчаньне з вашага боку (г. знач., з боку Культпропу ЦК) пагражае зрывам партвучобы».

Такім чынам асобныя работнікі лічаць неабходным чытаць і кіравацца толькі доўгімі абежнікамі і ня лічаць неабходным чытаць і кіравацца адпаведнымі пастановамі зьездаў, конфэрэнцый, нарад, прыкладамі працы іншых організацый, г. з., усім тым, што складае зьмест нашых газэт і г. д. і г. д.

Што гэта, як ня чыноўніцкія, бюрократычныя адносіны да сваае справы?

«Ёсьць абежнік—працую па абежніку, няма абежніку—няма работы».

Ці мажліва ахапіць у абежніку альбо праз кароткатэрміновае асабістае наведваньне ўсе пытаньні партвучобы? Зразумела, нельга.

Калі мы лічым неабходным атрымаць абежнік, альбо пагутарыць асабіста з работнікам дому комасьветы, альбо Культпропу ЦК КП(б)Б, альбо з загадчыкам Культпропу па пытаньнях партасьветы, дык, бязумоўна, яшчэ больш неабходна, каштоўна і цікава пагутарыць і атрымаць консультацыю па гэтых жа пытаньнях у заг. Культпропу ЦК УсеКП(б) і інш. кіраўнікоў і мэтодыстых у галіне партасьветы.

Калі мы гэтага жадаем, то можам атрымаць консультацыю ў любую гадзіну ў любы дзень.

Вось што гаворыць т. Стэцкі аб увязцы вучобы з практыкай:

*«Увязка партыйнай вучобы з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва павінна дапамагаць перабудове партыйных школ і гурткоў у зброю мобілізацыі партыйных і беспартыйных мас і сапраўднай дапамогі парторганізацыям з правядзеньнем важнейшых політычных і гаспадарчых кампаній.*

*Для бліжэйшага пэрыоду гэта азначае неабходнасьць забесьпячэньня ініцыятывы і актыўнага ўдзельнічаньня партыйных школ і гурткоў пад кіраўніцтвам парторганізацый у рэалізацыі звароту ЦК ад 3 верасьня г .г. і выкананьня гаспадарчага пляну кастрычнік-сьнежань г. г. у нарыхтоўках і выканань-*

*ні гіганцкага пляну трэцяга году пяцігодкі, у хлебанарыхтоўчай кампаніі, далейшым разьвіцьці колектывізацыі, у прадстаячым перазаключэньні колдагавгроў, перавыбарах саветаў, у разьвіцьці соцыялістычнага ўдарніцтва, у ажыцьцяўленьні ўсеагульнага навучаньня. Выключную ролю павінны адыграць гурткі бягучай паліткыі, як найбольш гнуткая форма паглыбленай растлумачальнай работы». («Правда», 30/IX 1930 г.).*

А вось што ён кажа аб спазьненьні з выхадам падручнікаў і недахопах у іх:

*«Улічваючы спазьненьне з выхадам падручнікаў і абмежаванасьць першых іх тыражоў (у сувязі з абмежаванасьцю рэсурсаў паперы), парторганізацыям неабходна:*

*1. Забясьпечыць організаванае разьмеркаваньне літаратуры для партасьветы з тым, каб у першую чаргу задавольваліся патрэбы організаванай сеткі партасьветы і рабочай адукацыі.*

*2. Забясьпечыць скарыстаньне ў рабоце партыйных школ і гурткоў па шэрагу дысцыплін (гісторыі ЎсеКП(б), ленінізму, гісторыі міжнароднага рабочага руху і інш) маючайся ў кнігагандлёвых організацыях, бібліотэках, партгабінэтах, у пропагандыстых і слухачоў вучэбнай літэратуры мінулых выданьняў, матар'ялаў XVI зьезду (даклады на зьезьдзе і г. д.). (Там жа).*

Мы жадаем ведаць, як жа працаваць у школе да атрыманьня падручнікаў, з чаго пачаць вучобу. Калі ласка:

*«Пачаць работу сеткі партыйнай асьветы (пачатковых партшкол, вячэрніх саўпартшкол, гурткоў бягучай палітыкі і інш.) з прапрацоўкі пытаньняў аб чарговых задачах партыйнай організацыі ў сувязі з зваротам ЦК ад 3 верасьня г. г. і рашэньнем ураду аб перанясеньні пачатку гаспадарчага году на 1-е студзеня. У сельска-гаспадарчых раёнах гэтыя пытаньні павінны быць прапрацаваны ў непасрэднай сувязі з ходам і вынікамі хлебазагатовак асеньняга севу і задачамі далейшага разьвіцьця колектывізацыі.*

Гэтым пытаньням павінны быць прысьвечаны першыя заняткі партыйных школ і гурткоў.

Неабходна забясьпечыць інструктаваньне пропагандыстых па гэтых пытаньнях, шляхам пастаноўкі дакладаў кіруючых работнікаў організацыі (сэкратароў, членаў бюро парткомаў) на нарадах пропагандытых, асьвятленьне гэтых пытаньняў у друку». (Там жа).

Гэта толькі адна маленькая «консультацыя» у тав. Стэцкага. Калі мы жадаем большага, дык у любую гадзіну можам атрымаць добрыя парады ў іншых выдатных працаўнікоў—у т. Сталіна, Крупскай і інш., было-б толькі наша жаданьне.

VIII.

## Заўвагі і прапановы

У гэтым артыкуле мы зусім не закранулі недахопаў у кіраўніцтве і дапамогі раёнам у справе партвучобы з боку Культпропу ЦК КП(б)Б не таму, што гэтых недахопаў няма.

Прызнаньне ў памылках без выпраўленьня іх завецца скажэньнем, змазваньнем самакрытыкі.

Мы жадалі ў гэтым артыкуле толькі зьвярнуць увагу парторганізацый на ўхілы, упадніцтва, дзяляцтва, пасыўнасьць у справе партасьветы на мясцох.

Наша прапанова: біць па хныканьню, біць па ўхілістых, знайсьці гнуткія формы вучобы, вывучаць і абменьвацца гэтым вопытам, сумесна з масамі складаць сустрэчны плян партасьветы.

. Рэдакцыя часопісі „Партыйны Работнік" зварочваецца да пропагандыстых, культпропработнікаў і слухачоў з просьбай даваць праз часопісь сва епрапановы і заўвагі аб партасьвеце, а таксама і популярызаваць прыкладную работу ў парадку абмену вопытам.

Фаіна Хмара

# Консультацыя ў сыстэме работы партгабінэтаў

Аднэй з асноўных прац дамоў комуністычнай асьветы і габінэтаў партработы зьяўляецца консультацыя, як пэрыодычная дапамога партыйна-комсамольскаму актыву ў правядзеньні практычнай работы і тэорэтычнай вучобы.

Консультацыя ў сыстэме партасьветы пачынае займаць усё большае месца ў сувязі з тым, што шэраг практычных работнікаў па ўмовах свае работы пазбаўлены магчымасьці сыстэматычна ўзьнімаць свой тэорэтычны ўзровень. Аказаньне дапамогі гэтай групе таварышоў ёсьць галоўная задача консультацыі.

Гэтай групе таварышоў дапамога аказваецца шляхам скліканьня групавых консультацый па асобных пытаньнях сучаснасьці, пытаньнях актуальных, якія патрабуюць вырашэньня сягоньняшняга дню. Прыклад: праводзіцца кампанія, неабходна падрыхтаваць кадры дакладчыкаў. Тэзісы і пісьмовыя матар'ялы, артыкулы ня могуць даць таго, што неабходна масаваму дакладчыку, а консультацыя, як новы спосаб падрыхтоўкі, дае значны эфэкт. Тут кожны будучы дакладчык спачатку ў колектыве вырашае шэраг няяснасьцяй, якія могуць узьнікнуць, а пасьля ўжо спакойна падрыхтаваны ідзе ў аўдыторыю.

*Другая група*—гэта завочнікі, якія займаюцца самаадукацыяй. Для гэтых таварышоў (роўна, як і для першай групы, калі ў гэтым ёсьць патрэба) організуюць консультацыі па тэорэтычных і адукацыйных прадметах.

Кожны, што навучаецца завочна, або займаецца самаадукацыяй, мае магчымасьць атрымаць тлумачэньне па пытаньні, якое яго цікавіць, і атрымаць неабходную дапамогу.

*Трэцяя група*—гэта пропагандыстыя сеткі партыйнай і комсамольскай асьветы, для якіх організуюцца консультацыі па асобных проблемах, неабходных для прахаджэньня ў сетцы партыйнай і комсамольскай асьветы і па пытаньнях мэтодыкі і пропаганды.

*Чацьвертая група*—гэта тыя, што вучацца ў сетцы партыйнай асьветы. Для гэтай групы ў ДКА павінна быць організавана стала дзейнічаючая консультацыя, дзе слухач можа атрымаць вычэрпваючую дапамогу па незразумелым пытаньні.

*І, нарэшце, пятая група*—гэта тыя, што вучацца ў стацыянарных навуковых установах і патрабуюць дапамогі ў процэсе прапрацоўкі матар'ялаў. Акрамя пазаваных груп, любы рабочы павінен мець магчымасьць атрымаць адказ на запытаньне.

Пры такой пастаноўцы работы, амаль увесь партыйна-комсамольскі, профэсіянальны актыў і асобныя рабочыя будуць ахоплены консультацыйнай работай, і тым самым партгабінэт апраўдае сваё прызначэньне як дапаможніку парторганізацыі ва ўсёй правадзімай ім рабоце.

## Недахопы ў практыцы работ консультацыі і спосабы іх выпраўленьня

Мы часта дзівімся, што нашы консультацыі дрэнна наведваюць і, ад душы кажучы, яны ледзь жывуць. У лепшым выпадку прыдуць два-тры чалавекі, а часам і зусім ніхто ня прыходзіць. Зьдзіўленьне пазьней вырастае ў крыўду, а пад канец і зусім пачынаюць абвінавачваць консультыруючыхся ў «няўдзячнасьці».

Чым тлумачыць гэтакае становішча? Чаму не зьяўляюцца на консультацыі? З нашага пункту гледжаньня справа абстаіць так: у шмат якіх выпадках парторганізацыі яшчэ недастаткова ўсвоілі неабходнасьць гэтых консультацый.

На ўнутраную работу габінэтаў, яе асноўную работу часта нават забываюцца.

Вылучаць консультантаў звычайна *найбольш вольных,* а не *найбольш пісьменных*. Гэтыя найбольш вольныя часта аказваюцца недастаткова пісьменнымі, а тая частка, якая адважваецца прыйсьці на консультацыю, скора выходзіць і больш не зьяўляецца.

Акрамя гэтага, у ячэйках недастаткова вядома аб значэньні консультацыі, шырокія масы незнаёмы з тым, што гэтыя консультацыі організаваны менавіта для іх. Аб гэтых консультацыях нідзе ня чуваць, аб іх ня ведаюць.

У шэрагу партгабінэтаў па БССР наглядаюцца выпадкі, калі заг. габінэту і ня ведаў аб неабходнасьці організацыі консультацыі работы, а ў другіх мясцох на працягу ўсяго году да консультантаў не зьвяртаўся ніводзін чалавек.

А за гэтую ж работу плоцяць грошы, а консультант пасядзіць, пачытае і пойдзе. Самі ж консультанты таксама іншы раз недастаткова ўважлівы да свае работы: прапускаюць заняткі, позьняцца. Зараз усім парторганізацыям неабходна падумаць над гэтым пытаньнем і зрабіць адпаведны вывад. Па БССР організуецца ня менш 100 габінэтаў, і для таго, каб адразу пачаць правільную пастаноўку работы, неабходна зьнішчыць паказаныя недахопы. У першую чаргу неабходна вылучыць кадр консультантаў з ліку найбольш падрыхтаваных таварышоў, замацаваць іх на ўвесь год. Даручэньне гэтай работы павінна ісьці па лініі партнагрузкі, што забясьпечыць больш акуратнае выкананьне абавязкаў.

Па ячэйках павінна быць праведзена адпаведная работа па растлумачэньні задач консультацыі.

Кіраўнікі Д. К. А. і П. Г. павінны непасрэдна кіраваць гэтай работай, улічваць вопыт і выпраўляць памылкі на ходу.

І, нарэшце, групы таварышоў, якія маюць патрэбу ў консультацыі, павінны больш уважліва і сур'ёзна адносіцца да гэтай работы і ставіць перад кіраўнікамі тыя ці іншыя пытаньні, якія дапамогуць выправіць недахопы ў пастаноўцы тых ці іншых пытаньняў.

Пры наліччы выпраўленьня недахопаў, правільнага вылучэньня консультантаў і актыўнасьці саміх консультыруючыхся партгабінэты яшчэ ня раз апраўдаюць сваё прызначэньне.

## Формы консультацыі і яе зьмест

Консультацыйная работа разьбіваецца ў асноўным на два разьдзелы: першы—гэта *групавыя консультацыі*—гутаркі па *пытаньнях бягучай політыкі* павінны ахапіць у асноўным практычных работнікаў, нізавы партыйнакомсамольскі, профактыў, дакладчыкаў і жадаючых.

Другі разьдзел—індывідуальныя консультацыі—у асноўным павінны абслугоўваць завочнікаў, што займаюцца самаадукацыяй і вучацца, а таксама і паказаны партактыў, што патрабуе дапамогі ў разьвязаньні тэорэтычных пытаньняў.

Акрамя консультацыі, павінна быць організованы сэмінарыі і гурткі па асобных пытаньнях для жадаючых.

Зьмест консультацыі трэба таксама разьбіць на чатыры разьдзелы, пры чым з такім разьлікам, каб яны адпавядалі запытаньням. У асноўным рэкомэндуецца наступнае:

1) Агульнаполітычны (тэорыя).

2) Агульнаасьветны.

3. Агульнаполітычны (практыка).

4) Масавыя работы (кампаніі і інш.).

**Першы разьдзел зьмяшчае:**

а) гісторыю ЎсеКП(б);

б) гісторыю рэв. руху на Захадзе;

в) гісторыю рэв. руху ў СССР і Беларусі;

г) ленінізм;

д) гістор. матэрыялізм і дыял. матэрыялізм;

е) політэкономію;

ж) тэорыю савецк. гаспадаркі;

з) экономполітыку і інш.

### Другі разьдзел зьмяшчае

а) літаратуру і родную мову;

б) чужаземныя мовы;

в) матэматыку і фізыку.

### Трэці разьдзел зьмяшчае:

а) нацыянальнае пытаньне ў сучасных абставінах;

б) антырэлігійную пропаганду;

в) партбудаўніцтва (практычная работа);

г) комсамольскае будаўніцтва (практычная работа);

д) профбудаўніцтва (практычная работа);

е) мэтодыку пропаганды.

### Чацьверты разьдзел зьмяшчае:

1. Пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва (бягучая політыка):

а) прамысловасьці;

б) сельскай гаспадаркі;

в) кампаніі.

Усе гэтыя пытаньні зьяўляюцца максымумам патрабаваньняў, і зусім не абавязкова ўключыць іх агулам у плян работы дому комасьветы і П. Г., а толькі рэкомэндаваць, бо няма сумненьня, што па шэрагу пытаньняў цяжка будзе знайсьці адпаведных консультантаў.

Выбар шэрагу пытаньняў, неабходных і магчымых для прапрацоўкі ў мясцовых умовах, і пабудова работы, прыкладна, як паказана, дадуць бязумоўны посьпех партгабінэту і акажуць сапраўдную дапамогу парторганізацыям у правядзеньні правільнай ленінскай лініі.

Бераловіч

# З матар'ялаў пропагандысцкай брыгады ЦК КП(б)Б па праверцы і організацыі зімовай партыйнай і комсамольскай вучобы

## „Вучоба альбо кампаніі“?

Шырокі размах социялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, разгорнуты наступ соцыялізму па ўсяму фронту і неабходнасьць барацьбы з ухіламі ад правільнай генэральнай лініі партыі (правым, як галоўным на сучасным этапе, і рэшткамі трацкізму) настойліва патрабуюць ад нас шырокага разгортваньня нашай партыйнай і комсамольскай асьветы, як магутнага сродку ажыцьцяўленьня чарговых задач партыі, узьдзеяньня на шырокія працоўныя масы, палітвыхаваньня партыйцаў, комсамольцаў, рабочых, батрацкіх, колгасных і бядняцкіх мас і падрыхтоўкі іх да сьвядомага ўдзелу ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве краіны.

Слабасьць пастаноўкі партыйнай вучобы ў вясковых організацыях, галоўным чынам, тлумачыцца тым, што апошнія не зразумелі палітычнага значэньня палітасьветы. Да гэтага часу яшчэ наглядаецца недаацэнка з боку парт'ячэек пытаньня партвучобы і падвышэньня яе марксысцка-ленінскага ўзроўню. Незразумелымі для іх застаюцца словы т. Сталіна, што *«тэорыя дае практыкам сілу орыентыроўкі, яскравасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у рабоце, веру ў перамогу нашае справы»*.

У рабоце парт'ячэек Калінкавіцкага, Тураўскага і Пятрыкоўскага раёнаў вучоба займае зусім нязначнае месца. Яна не зьяўляецца штодзённай справай усяе ячэйкі ў цэлым, у лепшым выпадку гэтым займаецца толькі адзін АПОорганізатар ячэйкі, але ж адзін у полі ня воін, без дапамогі ўсяе партмасы нельга ўзмацніць і ўзьняць на значную вышыню партвыхаваньне. Трэба зьнішчыць той халадок, які існуе ў значнай частцы нашай вясковай партыйнай і комсамольскай організацыі да пытаньняў вучобы.

Дзякуючы такому становішчу (недаацэнка вучобы і адсутнасьць кіраўніцтва з боку парторганаў) летняя вучоба ў асноўным у гэтых раёнах была сарвана. У большасьці ячэек пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б не прапрацаваны і да гэтага часу. Тлумачэньне такога становішча многімі ячэйкамі (Тураўская-местачковая, Рычкоўская, Ветчынская—Жыткавіцкага раёну і шмат іншымі) зводзіцца, прыкладна, да наступнага: «нам цяпер вучобай некалі займацца, трэба праводзіць кампаніі. Вучобай будзем займацца ў вольны час. За зрыў кампаніі нас будуць грэць больш, чымся за дрэнную вучобу». Такія адказы яскрава сьведчаць аб тым, што цэлы шэраг парторганізацый і ячэек ня ўсвоілі і не зразумелі такіх важных абставін ў нашай партвучобе, як сувязь тэорыі з практыкай. Яны ніяк ня могуць зразумець, што кампаніі не павінны перашкаджаць вучобе, а вучоба не павінна перашкаджаць бягучай практычнай рабоце, што яны адзін аднаму павінны дапамагаць, адзін другога дапаўняць. Установка ЦК партыі аб тым, што «партасьвета павінна падначаліць сваю работу нашай конкрэтнай політыцы», не зразумета.

Выходзячы з гэтай асноўнай установкі ЦК партыі, павінна быць пастаўлена наша вучоба. Яна патрабуе ад кожнай ячэйкі такой пастаноўкі вучобы, каб кожны слухач-партыец, комсамолец змог прымяніць на справе свае веды, атрыманыя ў школе, у гуртку, «кожны свой по-

літычны крок увязаць з усёй барацьбой». Партшкола павінна выхоўваць практычнага работніка, аднначасова ўзбройваючы яго марксысцка-ленінскай тэорыяй. Партасьвета павінна дапамагчы кожнаму партыйцу самастойна праводзіць практычную работу, увязваць тэорыю з практыкай, каб тэорыя абагульвала практыку. Практыка, адарваная ад тэорыі, бяз сувязі з ёй, прыводзіць нашу работу да «вузкага практыцызму» і дзяляцтва. Тут дарэчы напомніць думку Леніна, які кажа: «вузкі практыцызм адарваны ад тэорэтычнага асьвятленьня руху ў яго цэлым, пагражае накіраваць рух на няправільны шлях».

Такім чынам у партасьвеце трэба сьцерагчыся дваякага роду ўхілаў:

1. Адрыву вучобы ад практыкі, ад жыцьця; гэтая тэндэнцыя па сутнасьці зьяўляецца опортуністычнай.

2. Адрыву практычнай работы ад агульнай сыстэмы партасьветы, які прыводзіць да вузкага практыцызму, да няўменьня ўвязваць практычную работу з пастановамі зьезду партыі і яе генэральнай лініяй.

Сваясаблівая сувязь паміж гэтымі абодвымі элемэнтамі павінна даць падвышэньне якасьці работы і ролі марксысцка-ленінскай тэорыі.

Выкананьне задач, пастаўленых перад зімовай партвучобай, галоўным чынам, залежыць ад складу кіраўнікоў-пропагандыстых школ і гурткоў. У Жыткавіцкім, Тураўскім і Пятрыкоўскім раёнах справа з кіраўнікамі абстаіць ня зусім добра. Галоўнае, што трэба тут адзначыць,—гэта адсутнасьць падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўнікоў. Склад іх вельмі малады, многія з іх упяршыню прыступаюць да пропагандысцкай работы, а таму яны маюць вельмі слабую падрыхтоўку ў гэтай галіне і не ўладаюць мэтодычнымі звычкамі. Праведзеныя курсы па падрыхтоўцы пропагандыстых у Жыткавіцкім раёне яскрава сьведчылі аб гэтым. Зусім дрэнна пастаўлен вучот сіл, якія ёсьць у раёне. У Пятрыкоўскім раёне ў АПО РК да прыезду пропбрыгады існавала такая думка, «што мы ня можам пачаць вучобу, дзякуючы таму, што ў нас няма пропагандысцкіх сіл». Калі-ж мы сумесна з ёй пачалі шукаць гэтыя сілы, дык аказалася, што яны ёсьць. На Капацэвіцкім фанэрна-лесапільным заводзе, дзе па думцы АПО РК, нельга было пачаць вучобу з-за адсутнасьці пропагандыстага, на месцы было выяўлена 9 асоб, якіх можна скарыстаць у якасьці кіраўнікоў школ. Парт'ячэйкі, як правіла, перагружаюць кіраўнікоў іншай работай і не даюць магчымасьці ім добра падрыхтавацца да заняткаў, а гэта апошняе прыводзіць да такога становішча, што заняткі праходзяць няцікава, мёртва, і, як кажуць, мухі дохнуць на ляту ў часе заняткаў. У канчатковым выніку гэта прыводзіць да адсеву слухачоў і незацікаўленасьці партыйнай і комсамольскай масы да вучобы (Капацэвічы). Мы павінны праводзіць нашу партасьвету з тымі кадрамі кіраўнікоў, якія ў нас зараз ёсьць, але пры ўмове, калі, з аднаго боку, партарганізацыі займуцца справай іх штодзённай перападрыхтоўкі больш чымся да гэтага часу, а з другога боку, калі ячэйкі створаць неабходныя ўмовы для работы кіраўнікоў (не перагружаць работай).

Райпропгабінэты пры РК КП(б)Б павінны адыграць у гэтым (падрыхтоўка і перападрыхтоўка) значную ролю, яны павінны стаць цэнтрам партасьветы раённай партыйнай і комсамольскай арганізацыі; асабліва іх роля павінна значна ўзрасьці, паколькі яны павінны аб'яднаць вакол сябе райактыў, партыйныя і комсамольскія організацыі, дзеля падвышэньня іх тэорэтычнага і палітычнага ўзроўню, дапамагаючы ім таксама ў завочным навучаньні і правяраючы выкананьне імі заданьняў. Ня гледзячы на тое, што летняя вучоба ў асноўным была сарвана ў гэтых раёнах, організацыі і да гэтага часу не падумалі аб падрыхтоўцы і організацыі зімовай вучобы. Орыентыровачныя сеткі і пастановы РК КП(б)Б (у Пятрыкоўскім раёне, нават і гэтага ня было) ячэйкі кладуць пад сукно і нічога рэальнага ня робяць. Ні ў воднай ячэйцы да прыезду пропбрыгады не стаяла пытаньне аб зімовай вучобе, тым часам, як вучоба павінна была пачацца з 1/X-30 году. Зрыў і адсутнасьць летняй вучобы павінны былі быць сыгналам і падцягнуць ячэйкі ў справе палепшаньня партвыхаваньня. Халадок, існуючы зараз у

ячэйках да пытаньняў вучобы, замаруджваньне вывучэньня пастаноў XVI і XIII зьездаў, об'ектыўна на руку правым опортуністым. За такія безадказныя адносіны да прапрацоўкі рашэньняў зьездаў РК КП(б)Б трэба прымаць рашучыя меры аж да зьняцьця з работы паасобных кіраўнікоў ячэек. Марудзіць з прапрацоўкай матар'ялаў зьезду злачынна. Кожная ячэйка і кожны партыец павінны ведаць, што «кожны сябра партыі, калі ён хоча сьвядома ўдзельнічаць у рабоце свае партыі, абавязан дасканальна вывучаць наш партыйны зьезд».

Зімовай вучобе пагражае зрыў, калі ня будзе зроблен адпаведны пералом у рабоце ячэек да пытаньняў вучобы зараз жа.

Партыйная маса цягнецца да вучобы, гэта можна было бачыць на кожным сходзе, праведзеным пропбрыгадай. Гэтую цягу трэба толькі правільна арганізаваць, скарыстаць і накіраваць яе на правільны шлях. Цяга да вучобы таксама наглядаецца і з боку рабочых і колгасьнікаў, якія скардзяцца, што сярод іх ніякай культработы не праводзяць (Любавічы—саўгас, Хільчыцы—колгас, Тураўскага раёну і г. д.). Задача парт'ячэек—аб'яднаць, арганізаваць гэтую цягу вакол партасьветы, зрабіць партвучобу сродкам уцягненьня шырокіх мас у социялістычнае будаўніцтва, сродкам для ўцягненьня і падрыхтоўкі беспартыйнага актыву для шэрагаў партыі.

Пропбрыгада ў раёнах (за месячнае прабываньне) здолела мобілізаваць думку партыйнай і комсамольскай організацыі на значэньне і важнасьць вучобы, дала штуршок у напрамку большай увагі з боку РК і ячэек да гэтага пытаньня. Жыткаўскі РК КП(б)Б на паседжаньні па дакладу пропбрыгады адзначыў наступнае: «адзначыць, што прысланая пропбрыгада ЦК КП(б)Б дапамагла райкому праверыць летнюю партвучобу па раёну, а таксама дапамагла організаваць партыйную і комсамольскую сетку школ і гурткоў на зімовы пэрыод, завастрыла ўвагу ўсяе «партыйнай організацыі на значэньне і важнасьць зімовай вучобы».

Трэба райкомам замацаваць гэтыя посьпехі (а яны ёсьць у кожным раёне, дзе працавала брыгада) і стварыць усе ўмовы для разгортваньня зімовай вучобы ў партыйнай і комсамольскай організацыі і ў залежнасьці ад таго, наколькі райкомы і ячэйкі здолеюць справіцца з гэтай важнай задачай, можна будзе меркаваць аб працаздольнасьці кожнай партыйнай організацыі.

## Прыкладныя вучэбныя пляны вячэрняй саўпартшколы

| | Для вёскі: | | Для гораду: | |
|---|---|---|---|---|
| | 1 варыянт | 2 варыянт | 1 варыянт | 2 варыянт |
| **I. Для першага году:** | | | | |
| 1. Грамадзка-палітычн. прадметы | 80 гадз. | 64 гадз. | 120 гадз. | 70 гадз. |
| 2. Бягучая палітыка | 80 „ | 60 „ | 80 „ | 70 „ |
| 3. Агульна-адукац. прадметы: | | | | |
| а) арытмэтыка | 28 „ | 20 „ | 30 „ | 24 „ |
| б) беларуская мова | 28 „ | 20 „ | 30 „ | 24 „ |
| 4. а) рацыяналізацыя вытворч. | — | — | 20 „ | 16 „ |
| б) аграграмата і практ. пыт. колгаснага будаўніцтва | 20 „ | 12 „ | — | — |
| в) элемэнты эконом. географ. | 12 „ | 8 „ | 16 „ | 12 „ |
| 5. Практыка грамадзкай работы, мэтодыка агітацыі і прапаг. альбо пытаньні партбудаўн. ці профработы | 20 „ | 12 „ | 20 „ | 16 „ |
| 6. Рэзэрв | 20 „ | 20 „ | 20 „ | 20 „ |
| РАЗАМ | 288 гадз. | 216 гадз. | 336 гадз. | 252 гадз. |
| **II. Для другога году:** | | | | |
| 1. Грамадзка-палітычн. прадметы | 130 гадз. | 80 гадз. | 148 гадз. | 92 гадз. |
| 2. Бягучая палітыка | 82 „ | 60 „ | 100 „ | 80 „ |
| 3. Агульна-адукац. прадметы: арытмэтыка | — | — | — | — |
| беларуск. мова | 20 „ | 20 „ | 20 „ | 20 „ |
| 4. а) пытаньні рацыян. вытворч. | — | — | 24 „ | 20 „ |
| б) аграграмата і практ. пыт. колгаснага будаўніцтва | 16 „ | 16 „ | — | — |
| 5. Практычныя пытаньні грамадзкай работы, мэтод. пропаг. і агітацыі ці пыт. партбудаўн. ці профработы | 20 „ | 20 „ | 24 „ | 20 „ |
| 6. Рэзэрв | 20 „ | 20 „ | 20 „ | 20 „ |
| РАЗАМ | 288 гадз. | 216 гадз. | 336 гадз. | 252 гадз. |

### Тлумачальная запіска

Колькасьць вучэбных гадзін разьлічана такім чынам:

I. Для вёскі —1 варыянт. 4 вечары ў дэкаду па 4 гадз., на 18 дэкад (6 мес.) (4.4.18) усяго 288 гадз.
2 варыянт: 3 вечары ў дэкаду па 4 гадз., на 18 дэкад (6 мес.) (3.4.18) усяго 216 гадз.
II. Для гораду—1 варыянт: 4 вечары ў дэкаду па 4 гадз., на 21 дэкаду (7 мес.) (4.4.21) усяго 336 гадз.
2 варыянт: 3 вечары ў дэкаду па 4 гадз., на 21 дэкаду (7 мес.) (3.4.21) усяго 252 гадз.

Першы год у вясковай саўпартшколе па абодвым варыянтам праходзіцца адзін грамадзка-палітычны прадмет (80 ці 64 гадз.).

Другі год у вясковай школе па першаму варыянту праходзіцца два палітычныя прадметы (130 гадз.), а па другому варыянту таксама адзін прадмет (80 гадз.).

У гарадзкой саўпартшколе па першаму варыянту ў абодвых гадох праходзіцца па два палітычныя прадметы (120 і 148 гадз.), а па другому варыянту у абодвых гадох—па аднаму прадмету (70 і 92 гадз.).

Прадметы і іх парадак выбіраюцца ў залежнасьці ад падрыхтаванасьці слухачоў. Прыкладнае разьмеркаваньне:

| | Для вёскі | | Для гораду: | |
|---|---|---|---|---|
| | 1 варыянт | 2 варыянт | 1 варыянт | 2 варыянт |
| **1 год:** | | | | |
| 1. Гісторыя ЎсеКП(б) і КП(б)Б | 80 гадз. | 64 гадз. | 70 гадз. | 70 гадз. |
| 2. Соцыялістычная рэконструкцыя сельск.-гасп-кі альбо політэкономія | — | — | 50 „ | — |
| **2 год:** | | | | |
| 1. Політэкономія ў сувязі з тэорыяй сав. гасп. ці эконом. політыка | 70 „ | 80 „ | 78 „ | 92 „ |
| 2. Ленінізм альбо гіст. мат. | 60 „ | — | 70 „ | — |

Бязумоўна, пры выпрацоўцы праграм трэба ўлічваць колькасьць вучэбных гадзін, ступень падрыхтаванасьці слухачоў і вядомы ўхіл апошніх ці ў бок гісторычных, ці экономічных, альбо іншых дысцыплін. Падкрэсьліваем, што нельга толькі ганяцца за колькасьцю прадметаў, а трэба зварочваць асаблівую ўвагу на якасьць і паглыбленасьць прапрацоўкі прадметаў.

Пытаньні практыкі грамадзкай работы ўносяцца ў вучэбны плян той альбо іншай групы ВСПШ у залежнасьці ад складу і мэтавай установкі падрыхтоўкі слухачоў—для орг.-парт. работнікаў больш зварочваецца ўвагі на пытаньні партбудаўніцтва, для пропагандыстых—на мэтодыку і організацыю агітацыі і пропаганды і г. д.

Вучэбныя пляны неабходна абгаварваць на сходах слухачоў і канчаткова зацьвярджаць на школьным савеце.

## Падручнікі рэкомэндуюцца наступныя:

**1. Політэкономія:**

а) Лапідус і Астравіцянаў (на бел. мове);
б) Міхалеўскі.

**2. Гісторыя ЎсеКП(б):**

а) Яраслаўскі—„Краткий курс“ (на бел. мове);
б) Н. Н. Папоў—(на бел. мове).

**3. Гісторыя КП б)Б:**

а) Шапавалаў--Майзэль — „Нарысы па гісторыі КП(б)Б.

**4. Экономполітыка:**

а) Сэгаль і Таль.

**5. Ленінізм:**

а) Сталін—„Пытаньні ленінізму“;
б) Грышын—„Ленінізм“.

**6. Гіст. мат.:**

а) Вальфсон і Гак;
б) Энгельс. „Людвіг Фэйербах“;
в) Ленін. „К вопросу о диалектике“
г) Плеханаў „Основны вопросы марксизма“.

**7. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі:**

а) Матар‘ял XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б;
б) Ленін—Сочинения (гл. програму);
в) Сталін—Сочинения (гл. програму).

**КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б.**

# МЭТОДРАСПРАЦОЎКІ

## Вынікі 2-га году і падрыхтоўка да 3-га году пяцігодкі

### Мэта тэмы

На падставе дэталёвай прапрацоўкі адозвы ЦК УсеКП(б) давесьці, што, побач з вялізарнымі посьпехамі ў галіне індустрыялізацыі і колектывізацыі краіны ў працягу 2-га году пяцігодкі, мы адначасова маем недавыкананьне прамфінпляну бягучага году, што стварае пагрозу ажыцьцяўленьню лёзунгу „Пяцігодка ў чатыры гады“.

Гэта недавыкананьне і адначасова недастатковы ўздым колектывізацыі ў час васеньніх сельска-гаспадарчых кампаній, слабае і несваячасовае правядзеньне апошніх зьяўляецца вынікам не перавялічаных плянаў, як гэта імкнуцца давесьці правыя опортуністыя, а, наадварот, недастатковага кіраўніцтва з боку партыйных, профэсійных і савецкіх організацый, наяўнасьцю ў шэрагу месц „самацёчных“ опортуністычных настрояў.

Прапрацоўка тэмы павінна мобілізаваць слухача на напружаную працу для ліквідацыі прарыву на яго прадпрыемстве, падрыхтоўкі сустрэчнага пляну 1931 г. і IV кварталу 1930 г., а на вёсцы--на разгортваньне работы па далейшай колектывізацыі побач з ударным правядзеньнем сельска-гаспадарчых кампаній.

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура | Заўвагі для кіраўніка |
|---|---|---|
| | **I. Вынікі 2-га году пяцігодкі** | |
| 1. Якія посьпехі мы мелі ў галіне індустрыялізацыі краіны на працягу 2-га году пяцігодкі. | 1. Адозва ЦК УсеКП(б) ад слоў: „Другі год пяцігодкі—год буйнейшых дасягненьняў...“ да слоў: „Прырост прамысловай прадукцыі...“<br>2. „Правда“ 1-X-30 г. Передовая. | На падставе аналізу лічбаў, даных у адозве ЦК УсеКП(б), паказаць, што гэты год даў „рэкордныя тэмпы росту за ўвесь рэконструкцыйны пэрыод“ (З адозвы ЦК УсеКП(б)). |
| 2. У чым выразілася і ў чым галоўн. прычыны недавыкананьня прамфінпляну 29-30 г. | 1. Адозва ЦК УсеКП(б) ад слоў: „Прырост прамысловай продукцыі...“ да слоў: „З гэтага вынікаюць наступныя асноўныя задачы“.<br>2. Итогі гасп. году („Правда“, 2-X). | На разборы асноўных момантаў, паказаных у адозьве ЦК УсеКП(б), паказаць, што асноўнымі прычынамі застаюцца прычыны суб‘ектыўнага характару: безгаспадарчасьць, неорганізаванасьць, досыць часта права-опортуністычнае някер‘е ў магчымасьці соцыялістычнай прамысловасьці (правыя спасылаюцца на перавялічаныя пляны). „Галоўным і рашаючым недахопам ў гаспадарчай рабоце застаецца няўменьне організаваць і стаць на чале бурна ўзрастаючай актыўнасьці рабочае клясы. Ня гледзячы на гіганцкі размах соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на ф-ках і з-дах, нашы гаспад., проф., комсам., парт. організацыі нярэдка адстаюць у гэтай справе, а часамі опортуністычна плятуцца ў хвасьце пролетарскага актыву...“ (З адозвы ЦК УсеКП(б)). |
| 3. У чым прычыны цякучасьці рабочай сілы ў прамысловасьці, і як з ёй змагацца. | | Прапрацоўку гэтага пытаньня зьвязаць з ходам кампаніі па контрактацыі на даным прадпрыемстве ці ўстанове. |

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура | Заўвагі для кіраўніка |
|---|---|---|
| 4. У чым сутнасьць сустрэчнага прамфінпляну, і як трэба яго "распрацоўваць. | Дадаткова да адозвыЦКУсеКП(б) „12 пропаноў з-аў ім. Пятроўскага і Леніна“, „Правда“ 11/IX-30 г., № 251. „Не ў габінэтах, а ў масах“, „Вучэцеся ў пралетарцаў“, „Зьвязда“, 17/IX—30 г., № 218. | Абмеркаваць хібы і дасягненьні пры прапрацоўцы сустрэчнага на даным прадпрыемстве, ход выпрацоўкі сустрэчнага на апошні квартал 1930 г., з пункту погляду сапраўднага ўцягненьня мас у выпрацоўку сустрэчнага. Паказаць, што побач з бюрократызацыяй гэтай справы магчымы яшчэ 2 тэндэнцыі: права-опортуністычнае перамяншэньне магчымасьцяй прадпрыемства, жаданьне сябе застрахаваць, пакінуць „лазейку“ і лева-ўхілісцкае імкненьне раздуць контрольныя лічбы без сапраўднага вучоту рэальных магчымасьцяй прадпрыемства. |
| 5. Якія цяжкасьці мы маем у сучасны момант у галіне сел. гаспадаркі і ў чым іх прычыны. | „Пастанова ЦК КП(б)Б аб ходзе уборачнай і пасеўнай кампаніі“. „Зьвязда“ 19/IX 1930 г. Пастанова ЦК КП(б)Б „Аб колектывізац.“, „Зьвязда 29/IX—30 г., № 228. | Паказаць, што, ня гледзячы на буйнейшыя дасягненьні ў галіне колектывізацыі с. г. у вясну гэтага году, на нябачны ўраджай г. г., які перавышае ўраджай мінулага году больш чым на 900 м. п., мы маем шэраг цяжкасьцяй з уборачнай, асеньняй пасеўнай і хлебанарыхтоўчай кампаніяй, мы не змаглі організаваць дастаткова вялікага, новага ўздыму колектывізацыі, зьвязаўшы яго з асеньнімі сел.-гасп. кампаніямі. На падставе мясцовага матар‘ялу (у вясковай аўдыторыі) або матар‘ялу падшэфнага с. с. паказаць „няўменьне многіх нашых партыйных організацый скарыстаць і разьвіць посьпех, дасягнуты ў час вясеньняга севу. У практыцы работы шэрагу мясцовых партыйных організацый мы маем дэмобілізацыйныя настроі, маем прытупленьне клясавай пільнасьці, некаторае паслабленьне барацьбы з кулацтвам і яго палітычнымі агентамі ў шэрагах нашай партыі—правымі опортуністамі („Правда“, перадавая ад 10-IX—30 г.).<br>Дэмобілізацыйныя настроі, права-опортуністычная стаўка на „самацёк“ і тлумачэньне добраахвот., як стаўкі на „самацёк“, гутаркі аб тым, што „колектывізацыю можна адкласьці да зімы або да вясны“, недастатковая работа сярод беднаты, няўменьне популярызаваць сярод індывідуальнага бядняцка-серадняцкага сялянства гаспадарчых дасягненьняў і вынікаў разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў у к. г., дзе-ні-дзе опортуністычнае абмяжоўваньне ад новага прыліву ў колгасы, у некаторых раёнах няўменьне даць дастатковы адпор агітацыі кулака, які імкнецца пасварыць колгасьніка і індывідуальн. гаспадара або сыграць на ўласьніцкай псыхолёгіі некаторай несьвядомай часткі колгасьнікаў—усе гэтыя па сутнасьці праявы правага ўхілу на практыцы і зьяўляюцца асноўнымі прычынамі нашых цяжкасьцяй на вёсцы. Паказаць на наяўнасьць яшчэ небясьпекі і левых загібаў.<br>Прывесьці слухачоў да ўразуменьня таго, што ад ліквідацыі гэтых прарываў на вёсцы таксама залежыць выкананьне прамфінпляну на наступны год. |

## II. Асноўныя задачы на 1931 год

| | | |
|---|---|---|
| 6. Якія буйнейшыя заводы павінны быць пабудаваны ў 31 г. | Адозва ЦК УсеКП(б) („Правда“, № 243, 3/IX-30г., „Зьвязда“, № 207, 5/IX—30 г.) З пачатку і да слоў: „Посьпехі ў разьвіцьці цяжкай індустрыі...“ | Гутарку можна пачаць з характарыстыкі найбуйнейшых заводаў накшталт Сталінградзкага трактарнага, Растоўскага з-ду с.-г. машын і інш. (у вясковай аўдыторыі асабліва падкрэсьліць значэньне гэтых будаўніцтваў для соцыял. рэконструкцыі сел. гасп.). Ахарактарызаваць значэньне Магнітабуду для вырашэньня проблемы мэталюргіі. Асабліва застанавіцца на значэньні Урала-Кузьнецкага Комбінату. |
| 7. Што такое Урала-Кузьнецкі Комбінат, і якое значэньне ён мае для індустрыяліз. СССР. | | XVI з‘езд пацьвярджае, „что индустриализация страны не может опираться в дальнейшем только на одну южную угольно-металлургическую базу. Жизненно необходимым условием быстрой индустриализации страны является создание на Востоке второго основного угольно-металлургического центра СССР путем использования богатейших угольных и рудных месторождений Урала и Сибири“ (Рэзолюцыя XVI зьезду УсеКП(б)). |

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура | Заўвагі для кіраўніка |
|---|---|---|
| | | Донбас мае запасу вугалю каля 80 мільярдаў тон, Кузьнецкі басэйн—каля 400 мільяр. тон. Выкарыстаць пры гэтым географічную карту або карту пяцігодкі, паказаўшы на ёй і астатнія об'екты будаўніцтва, паказаныя ў адозьве ЦК УсеКП(б). Выкарыстаць мясцовыя пляны будаўніцтва, пашырэньня вытворчасьці, намечаныя на наступны год у даным прадпрыемстве, колгасе, саўгасе. І ад гэтых канкрэтных малюнкаў перайсьці да тэмпаў, намечаных на наступны год па СССР (выкарыстаць і лічбы адозвы) і па БССР, паказаўшы, што па БССР гэтыя тэмпы яшчэ большыя, чым па СССР. Калі ў 29-30 г. мы дабіліся 60 проц. павялічэньня продукцыі па БССР, дык 31 г. павінен даць 110 проц. росту |
| 8. Чым тлумачыцца магчымасьць больш хуткага разьвіцьця лёгкай індустрыі ў 30-31 г. | Адозва ЦК УсеКП(б) ад слоў: „Посьпехі ў разьвіцьці цяжкай індустрыі...“ да слоў: „Другі год пяцігодкі“. | Пры распрацоўцы 3-га пытаньня можна выкарыстаць наступную цытату: „Дагэтуль мы экономілі на ўсім, у тым ліку і на лёгкай індустрыі, каб аднавіць цяжкую індустрыю. Але цяжкую індустрыю мы ўжо аднавілі. Яе трэба толькі разьдзьвінуць далей. Цяпер мы можам абярнуцца да лёгкай індустрыі і рушыць яе ўперад прысьпешаным тэмпам. Новае ў разьвіцьці нашай прамысловасьці, між іншым, у тым, што мы маем цяпер магчымасьць разьвіваць прысьпешаным тэмпам і цяжкую і лёгкую індустрыю. Перавыкананьне пляну бавоўняных, ільняных і бурачных засеваў у гэтым годзе, пасьпяховае разьвязаньне проблемы кендыра і штучнага шоўку—усё гэта гаворыць аб тым, што мы маем магчымасьць сапраўды рушыць наперад лёгкую прамысловасьць (Сталін—Політсправаздача ЦК УсеКП(б) на XVI зьезьдзе). Павялічэньне продукцыі лёгкай індустрыі ў 30-31 г. больш чым на 40 проц. (у 29-30 г. мы з-за недахопу сырцу-бавоўны мелі толькі 11 проц. росту) павінна адбіцца на зьмякчэньні таварнага голаду. |
| 9. Якія задачы стаяць перад намі ў галіне с. г. на 31 год. | Адозва ЦК УсеКП(б) ад слоў: „Посьпехі цяжкай індустрыі...“ да слоў: „Другі год 5-годкі“. | Выкарыстаць рэзолюцыю XVI зьезду аб колгасным руху. Рэзолюцыя, расійскае выданьне, стар. 44, п. п. 3, 4, 5). Паказаць, што наступны год будзе годам далейшай барацьбы за суцэльную колектывізацыю СССР і ліквідацыю кулацтва, як клясы, на яе аснове. У вясковай аўдыторыі выкарыстаць пляны колгасна-саўгаснага будаўніцтва на наступны год па раёну, с. с. Паказаць (у вёсцы на мясцовым матар'яле), што далейшая праца па рэконструкцыі с. г. і замацаваньню колгасаў і саўгасаў немагчыма без напружанай клясавай барацьбы, што настроі накшталт таго, што „кулак ужо ліквідаваны“, зьяўляюцца праявамі правага опортунізму, паказаць, як адбіваецца варожы клясавы ўплыў на часткі колгасьнікаў у галіне працоўнай дысцыпліны, у пытаньнях разьмеркаваньня ўраджаю і інш. практычных пытаньнях працы колгасаў. |
| **III. Ліквідацыя прарыву і падрыхтоўка 3-га году пяцігодкі.** | | |
| 10. Якія асноўныя задачы стаяць перад партыяй і рабочай клясай у справе ліквідацыі прарыву прамфінпляну 1929-30 г. і забесьпячэньня 3-га году пяцігодкі. | Адозва. Ад слоў: „З гэтага вынікаюць наступныя асноўныя задачы“ да канца. | Дастатковы матар'ял для прапрацоўкі гэтага пытаньня дае адозва ЦК УсеКП(б). Праверыць, што зроблена для ліквідацыі прарыву на даным прадпрыемстве, і як дзень ударніка праведзен (глядзі пастанову Сакратарыяту УсеЦСПС). |
| 11. У чым сутнасьць „Дню ўдарніка“ і вынікі яго правядзеньня на даным прадпрыемстве | Пастановы Прэзыдыуму і Сакратарыяту УсеЦСПС, „Зьвязда“, 5-IX-30 г., № 207, „Правда“, I-X. | Матар'ялы свайго прадпрыемства, саўгасу, альбо колгасу. |

## Літаратура для кіраўніка

Пастанова Прэзыдыуму ЎсеЦСПС—„Зьвязда“, 20/IX—30 г., № 220.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб ходзе асеньняй сяўбы—„Зьвязда“, 17/IX—30 г. № 218, „Правда“, 16/IX—30 г.

„Против худшей разновидности правого оппортунизма“—„Правда“, № 254, 14/IX—30 г.

„Добиться большевистских темпов“—„Правда“, № 257, 17/IX—30 г.

„Промфинплан и деревня“—„Правда“, № 255, 15/IX—30 г.

Развернуть работу с беднотой„—Правда“, № 263, 23/IX—30 г.

„День ударника“—„Правда“, № 259, 19/IX—30 г.

„Вернем стране металлический лом“—„Правда“, № 251, 11/IX—30 г.

„Вынікі гаспад. кон'юнктуры года“—„Правда“, 2/X—30 г.

# Задачы профсаюзаў і колдагаворнай кампаніі

## Мэтавая ўстаноўка:

Уясьніць вялікае павялічэньне ролі профсаюзаў у сучасны пэрыод у барацьбе за пасьпяховае выкананьне пяцігодкі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, мэтоды гэтай барацьбы і палітычнае значэньне пераключэньня колдагавароў.

| Плян | Матар'ял | Мэтодычныя заўвагі |
|---|---|---|
| **І. Рэконструкцыйны пэрыод і паварот профсаюзаў тварам да вытворчасьці** | | |
| 1. Якая роля і значэньне профсаюзаў пры дыктатуры пролетарыяту. | а стар. 78-79, Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 8-9, 11, 18, 61, 155. Т. XVII, ч. II, стар. 22. | Пры абгаварэньні першага пункту трэба ўстанавіць, што профсаюзы пры дыктатуры пролетарыяту ахопліваюць усю масу пролетарыяту, зьяўляюцца важнейшай рэзэрвай і апорай савецкай улады, што профсаюзы не падмяняюць сабой дзяржаўнага кіраўніцтва прамысловасьцю, актыўна дапамагаюць гэтаму кіраўніцтву, зьяўляюцца школай кіраваньня прамысловасьцю і ў залежнасьці ад посьпехаў у гэтай галіне, у залежнасьці ад ускладненьня задач соц. будаўніцтва павінны прымаць усё большы ўдзел у справе кіраваньня і палепшаньня гэтага будаўніцтва. |
| 2. Чаму рэконструкцыйны пэрыод павялічвае значэньне профсаюзаў у соцыялістычным будаўніцтве. | а стар. 80. в стар. 15-17. | Вытлумачэньнем першага пункту слухачы падыходзяць да абмеркаваньня пункту другога. Высьветліўшы асаблівасьць сучаснага пэрыоду, трэба абгаварыць, як гэтыя асаблівасьці (соцыялістычнае наступленьне, ускладненьне задач, абвастрэньне клясавай барацьбы) патрабуюць узмацненьня актыўнасьці профсаюзаў, як галоўнейшага і асноўнага зьвяна дыктатуры пролетарыяту. Далей, пасьля абгаварэньня новых зрухаў у асяродку самога пролетарыяту (новыя адносіны да працы, ударніцтва, уступ у партыю цэхаў і заводаў) перайсьці да тлумачэньня пункту 3-га; адначасова неабходна закрануць і „лева“-опортуністычныя настроі ў профсаюзах і паказаць іх небясьпеку і іх сутнасьць, як тых-жа опортуністычных, прыкрытых левымі фразамі. |
| 3. У чым заключаецца і чаму несправядлова трэд-юніонская політыка былога кіраўніцтва УсеЦСПС. | а стар. 81-82. в стар. 5-14. | |
| 4. Чаму зараз соцыялістычнае спаборніцтва зьяўляецца асноўным зьвяном у працы профсаюзаў. | а стар. 83-84 да § 2. в д. Шверніка, стар. 17-80. | |
| 5. Чаму і як трэба перабудаваць работу профсаюзаў у галіне кіраўніцтва вытворчасьцю. | а стар. 84 ад § 2 да стар. 86, стар. 94-96. в стар. 30-36, 63-66. б стар. 42-44, 55-56. | У гэтым пункце трэба абмеркаваць, як у сапраўднасьці рабочая кляса ўдзельнічае ў барацьбе за выкананьне пяцігодкі і як трэба перанесьці ўдарныя мэтоды на ўсе галіны работы профсаюзаў. Пры абгаварэньні гэтага пункту трэба конкрэтна, практычна высьветліць, як перабудована работа профсаюзаў на даным прадпрыемстве, якія маюцца недахопы і як іх зьнішчыць. |
| **ІІ. Профсаюзы і соцыялістычная рэконструкцыя с. гасп.** | | |
| 6. Чаму зараз павялічваецца роля профсаюзаў у справе перабудовы с. г. і ў чым памылкі былого кіраўніцтва профсаюзаў. | а стар. 86-87. в стар. 40-45. | Прыступаючы да абмеркаваньня гэтых пытаньняў, трэба с пачатку высьветліць, як у апошнія гады зьмяніліся суадносіны паміж пролетарыятам і асноўнымі масамі сялянства (пераход да вытворчай зьмычкі) і якія абавязкі гэта накладае на профсаюзы. Пасьля высьвятленьня ўдзельнічаньня профсаюзаў у колектывізацыі сельскае гаспадаркі (25-тысячн. брыгады, шэфства і г. д.) і высьвятленьня правых і „левых“ скажэньняў |

| Плян | Матар'ял | Мэтодычныя заўвагі |
|---|---|---|
| 7. Якія зараз стаяць задачы перад профсаюзамі ў галіне кіраўніцтва і дапамогі ў соцыялістычнай перабудове с. гасп. | Там жа. **б** стар. 56, § 21, стар. 57. | у гэтай справе перайсьці да абмеркаваньня пункту 7-га. Высьветліўшы недахопы ў сельскай гаспадарцы, трэба адзначыць практычныя мерапрыемствы ў далейшай дапамозе і кіраўніцтве колектывізацыяй сельскай гаспадаркі. Увесь другі разьдзел асабліва добра павінен быць прапрацаван у сельскіх школах і гуртках. |
| **III. Культурна-політычная работа і задачы профсаюзаў у кампаніі па перазаключэньню колдагавароў** | | |
| 8. Якое гасп.-політычнае значэньне мае колдагаворная кампанія. | „Спутнік агітатара", стар. 36-37. | Тут трэба адзначыць, што нельга супроцьстаўляць матар'яльныя інтарэсы рабочых данага прадпрыемства гасп. задачам рабочае клясы наогул, што колдагаворная кампанія павінна быць зьвязана з правадзімай работай па ліквідацыі прарываў, выкананьню пляну апошняга кварталу 30 г. і падрыхтоўцы 3-га году пяцігодкі. |
| 9. Якая адзначная рыса бягучай колдагаворнай кампаніі. | „Спутнік агітатара", стар. 41. | Гэта адзначная рыса састаіць у адмове ад генэральных цэнтралізаваных дагавароў і пераходзе к колдагаваром мясцовым паміж ФЗМК і адміністрацыяй, высьветліць, што дае гэта становішча і ў чым павінна састаяць двухбаковасьць колдагавору. |
| 10. Колдагавор і практычныя задачы профсаюзаў у пытаньні далейшага палепшан. матар'яльнага становішча рабочых. | „О массовом рабочем контроле над работой потребкооперац.," „Правда", 10-IX-30г. „Зьвязда" 12-IX. **а** стар. 89-91. **б** стар. 44, § 6. стар. 45-47, 48-57. Ст. Кагановіча, стар. 112, пастанова ЦК УсеКП(б), „Зьвязда", 12-IX. | Тут належыць застанавіцца на пытаньнях палепшаньня матар'яльнага становішча рабочае клясы ў галіне зарплаты, соцстраху, жыл. будаўніцтва ў зьвязку з харчовымі цяжкасьцямі, абгаварыць пытаньні аб організацыі зачыненых разьмеркавацеляў, палепшаньні работы коопэрацыі, грамадзкіх сталовак, будаўніцтва і г. д. |
| 11. У чым сутнасьць тарыфнай політыкі. | „Спутнік агітатара" стар. 43-44. | Растлумачыць асноўныя моманты тарыфнай політыкі. Якія прынцыпы паложаны ў павышэньні зарплаты на 30-31г. Трэба пры гэтым указаць, што клясавы вораг спэкулюе на нашых цяжкасьцях, спрабуе прыцягнуць на свой бок адсталыя групы рабочых. Партыя і рабочая кляса павінны даць гэтаму рашучы адпор. |
| 12. У чым галоўная мэта і якія чарговыя задачы профсаюзаў у культурна-політычным выхаваньні рабочых мас. | **а** стар. 92-93. **б** стар. 47. § 10, стар. 48-52 да § 16. **в** стар. 57-62. | Трэба высьветліць, як сучасны момант павялічвае неабходнасьць у кадрах, тэхнічных, гаспадарчых і інш. Трэба, каб у дагаварох нашлі свой адбітак абавязацельствы адміністрацыі аб організацыі проф.-тэхн. курсаў пасылку ў школы, тэхнікумы, рашуча вылучаючы рабочых на вышэйшую работу. Павялічваць неабходнасьць выхаваньня соцыялістычнасьвядомых адносін да вытворчасьці, асабліва сярод новай часткі рабочых, ролі ў гэтай справе самакрытыкі і ўсяе культурна-політычнай работы. |

## Літаратура пад адпаведнымі літарамі наступная:

а) Рэзолюцыя XVI зьёзду па дакладу Шверніка.

б) Рэзолюцыя XI зьезду КП(б)Б па дакладу т. Рыжова,

в) Даклад Шверніка на XVI зьезьдзе.

г) Даклад Рыжова на XIII зьезьдзе КП(б)Б. „Спутнік агітатара", № 24-25. Цыбульскі аб перазаключэньні колдагавароў. Пастанова УсеЦСПС аб перазаключэньні колдагавароў, „Правда", ад 12 верасьня.

# Аб чарговых задачах гаспадарчага будаўніцтва

## Рэзолюцыя, прынятая па дакладу тав. Галадзеда

1.

Заслухаўшы даклад тав. Галадзеда аб чарговых задачах гаспадарчага будаўніцтва, пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што вынікі выкананьня пляну другога году пяцігодкі (1929-30 гаспадарчага году) паказваюць аб вялікіх дасягненьнях у справе індустрыялізацыі БССР і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі на базе колгаснага і саўгаснага будаўніцтва. Гэтыя дасягненьні пацьвярджаюцца наступнымі фактамі: валавая продукцыя рэспубліканскай прамысловасьці ўзрасла на 68 проц., што значна перавышае проектыроўкі, вызначаныя пяцігодкай (пяцігодкай вызначыўся рост валавой продукцыі ў 1929-30 годзе на 32 проц.); капітальнае будаўніцтва прамысловасьці выканана на суму 44 млн. руб., паводле пяцігодкі меркавалася ўкласьці ў капітальныя работы ў 1929-30 годзе 38,4 млн. руб.; колькасьць рабочых узрасла на 14.073 чал., або на 32 проц. супроць 11 проц., вызначаемых пяцігодкай.

Вынікі 1929-30 г. у разьвіцьці сельскай гаспадаркі сьведчаць аб значным уздыме сельска-гаспадарчай вытворчасьці і значным павялічэньні ролі абагуленага сэктару: плошча пад колгасамі і саўгасамі ўзрасла да 20 проц., пры чым роля абагуленага сэктару сельскай гаспадаркі ў збожжазагатоўках узрасла з 4,7 проц. у 1929-30 г. да 25-30 проц. у бягучым годзе. Гэта ўсё складае яшчэ большыя прадпасылкі для далейшага інтэнсыўнага разгортваньня вытворчых сіл сельскай гаспадаркі на новай колгаснай і саўгаснай базе.

Дзякуючы значнаму ўздыму народнай гаспадаркі па ўсіх яе галінах за мінулы год, які па сваіх тэмпах амаль што па ўсёй лініі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва перавысіў адпаведныя меркаваньні пяцігадовага пляну, наглядаўся інтэнсыўны рост кадраў рабочае клясы і павялічэньне патрэб у рабочай сіле. У сувязі з адзначаным ростам, упяршыню проблема беспрацоўя ў 1929-30 г. была фактычна ліквідавана, і замест яе паўстала новая проблема—проблема больш шырокай організацыі працы і ўцягненьня новых пластоў працоўнага насельніцтва ў вытворчасьць.

Адзначаныя дасягненьні зьявіліся вынікам правільнай політыкі партыі, накіраванай на правядзеньне разгорнутага соцыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, а таксама вынікам правядзеньня політыкі партыі на форсаваньне высокіх тэмпаў індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і дзякуючы рашучай барацьбе з правымі і «левымі» опортуністымі за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

2

Разам з вышэйпаказанымі агульнымі дасягненьнямі пленум ЦК КП(б)Б адзначае недавыкананьне гадавога пляну 1929-30 г. на паасобных вучастках працы, асабліва ў галіне якасных паказальнікаў капітальнага будаўніцтва (жыльлёвага, сельска-гаспадарчага, дарожнага, сельскай электрыфікацыі і рэспубліканскай прамысловасьці), а таксама і па лініі недавыкананьня якасных паказальнікаў прамфінпляну (зьніжэньне сабекошту, недавыкананьне паказальнікаў па палепшаньню якасьці продукцыі, па зьніжэньню будаўнічага індэксу і г. д.).

Пленум адзначае, што, ня гледзячы на значнае падвышэньне прыбыткаў насельніцтва, асабліва ў вясковым сэктары, мобілізацыя сродкаў насельніцтва ў 1929-30 г. праходзіла зусім нездавальняючымі тэмпамі, вынікам чаго зьявіла-

ся недапаступленьне грашовых сродкаў да разьмераў, вызначаных адпаведнымі плянамі.

3.

Пленум констатуе, што ў мінулым 1929-30 годзе, на падставе ўзрослай актыўнасьці рабочых мас, выявіўся шырокі рост соцыялістычных форм організацыі працы, як-та: разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва, організацыя сустрэчных прамфінплянаў, разгортваньне мэтодаў ударніцтва і інш. Організацыя соцыялістычных мэтодаў працы дала магчымасьць падвысіць узровень разьвіцьця народнай гаспадаркі і стварае неабходныя ўмовы для далейшага інтэнсыўнага ўзросту соцыялістычнага будаўніцтва.

Дасягненьні мінулага году і высокая актыўнасьць рабочых мас забясьпечваюць выкананьне задач, вызначаных на асобны ўдарны квартал—кастрычнік-сьнежань 1930 году.

У зьвязку з перанясеньнем пачатку гаспадарчага году на 1 студзеня, асабліва важнае значэньне набывае задача выкананьня народна-гаспадарчага пляну асобнага ўдарнага кварталу—кастрычнік-сьнежань.

Пры правядзеньні гэтага квартальнага пляну асаблівую ролю набывае задача перакрыцьця тых прарываў, якія былі дапушчаны на паасобных вучастках выкананьня пляну 1929-30 гаспадарчага году, напрыклад: поўнае і самае інтэнсыўнае скарыстаньне будаўнічага сэзону, які застаўся для скончэньня вызначанага плянамі капітальнага будаўніцтва (прамысловае будаўніцтва, жыльлёвае, сельска-гаспадарчае, электрыфікацыя і дарожнае будаўніцтва), выкананьне якасных паказальнікаў па ўсім народна-гаспадарчым пляне: падвышэньне якасьці продукцыі, зьніжэньне сабекошту, падвышэньне продукцыйнасьці працы, рацыяналізацыя вытворчасьці і інш.

Пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае, што выкананьне гэтых важнейшых задач зьяўляецца абавязковай прадпасылкай складаньня і пасьпяховага выкананьня гаспадарчага пляну на 1931 гаспадарчы год.

4.

Пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе ўхваліць опэрацыйны плян на квартал—кастрычнік-сьнежань, прыняты Бюро ЦК і Саўнаркомам, вызначыўшы як важнейшыя заданьні для абавязковага выкананьня наступныя асноўныя ліміты:

а) рост валавой продукцыі па рэспубліканскай прамысловасьці ўстанавіць на 85,6 процантаў супроць 1-га кварталу 1929-30 году і супроць IV-га кварталу на 20,4 проц.;

б) рост рабочых на 50,1 проц. супроць 1-га кварталу і 7,3 проц. супроць IV кварталу;

в) рост продукцыйнасьці працы на 22,6 проц. (без Лесбелу) і 20,88 проц. па ўсёй прамысловасьці супроць сярэдняга гадавога ўзроўню 1929-30 г. і адпаведна 16,6 проц. супроць вынікаў IV кварталу 1929-30 г.;

г) зьніжэньне сабекошту ўстанавіць на 7,2 проц. (без Лесбелу) супроць сярэдняга гадавога ўзроўню 1929-30 г. пры абавязковай умове дабіцца сапраўднага паляпшэньня якасьці продукцыі.

5.

Папярэднія вынікі ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі паказваюць, што ў радзе раёнаў паказаныя кампаніі не зьвязваліся з задачамі далейшай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, і што рад організацый у справе далейшай колектывізацыі спадзяваліся на «самацёк», што зьяўляецца па сутнасьці вынікам праяўленьня з боку гэтых організацый правага опортунізму на практыцы.

Пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае, што задача далейшай колектывізацыі вёскі зьяўляецца асноўнай і генэральнай задачай партыі ў справе соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Таму ўсім організацыям неабходна з усёй энэргіяй разгарнуць працу па разьвіцьці колгаснага руху, стаць на чале новай хвалі колгаснага прыліву і кіраваць ім, захоўваючы ў працы па колектывізацыі бальшавіцкія прынцыпы, не дапускаючы опортуністычнага «самацёку» і перагібаў, нясупынна і сыстэматычна праводзячы, на

базе суцэльнай колектывізацыі, ліквідацыю кулацтва як клясы.

У відзе конкрэтных заданьняў па справе колектывізацыі пленум ЦК КП(б)Б лічыць неабходным разгарнуць работу па колектывізацыі так, каб забясьпечыць колектывізацыю да 20 проц. агульнай колькасьці сельскіх гаспадарак БССР да 1 студзеня 1931 г.

Разам з гэтым пленум адзначае, што ў большасьці раённых організацый ня выканана пастанова XIII зьезду КП(б)Б аб організацыі і разьвіцьці таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі і аб разгортваньні вытворчага коопэраваньня і аднаўленьня згубленай нізавой сеткі сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

Таму пленум ЦК КП(б)Б ставіць перад усімі партыйнымі, савецкімі і коопэрацыйнымі організацыямі задачу—дабіцца ахопу вытворчым сельска-гаспадарчым коопэраваньнем да 1 студзеня 1931 г. ня менш 85 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Мінулы сельска-гаспадарчы год паказаў, што асаблівую ролю набывае задача організацыі працы ў колгасах (увядзеньне зьдзельшчыны, разгортваньне соцспаборніцтва, ударніцтва і інш.) і ўнутранога замацаваньня колгасаў. Гэтай важнейшай справе ў сыстэме колгаснага будаўніцтва ўсе парторганізацыі павінны аддаць максымальную ўвагу.

6.

Разам з агульным узростам сельска-гаспадарчай вытворчасьці і павялічэньня ў ёй ролі абагуленага сэктару ў мінулым гаспадарчым годзе наглядалася некаторае скарачэньне жывёлагадоўлі, у першую чаргу, з прычыны слабай організацыі кармовай базы, а таксама дзякуючы ўзросшаму супраціўленьню кулацтва, якое ў адказ на разгорнутае соцыялістычнае наступленьне зьнішчала сваю жывёлу і падбухторвала да гэтага серадняцкія і бядняцкія масы вёскі. У сувязі з тым, што разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў БССР зьяўляецца задачай аднэй з важнейшых у разьвіцьці сельскай гаспадаркі, — пленум ЦК КП(б) падкрэсьлівае, што вызначаныя ўрадам пляны разьвіцьця жывёлагадоўлі павінны быць усімі адпаведнымі організацыямі выканаты на ўсе 100 проц. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на захаваньне і контрактацыю маладняка і комплектаваньне савецкіх жывёлагадоўчых гаспадарак («Свиновода», «Скотовода», савецкіх гаспадарак Белсельтрэсту і Белкоопсаюзу), для чаго максымальна скарыстаць «месячнік разьвіцьця жывёлагадоўлі», мобілізуючы на гэтую справу ўвагу шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Аднначасова пленум адзначае, што вызначаныя задачы па спэцыялізацыі колектыўных і савецкіх гаспадарак радам гаспадарчых і партыйных організацый праводзяцца невыстарчальным тэмпам, многія з іх не даацэньваюць значэньня спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, асабліва ў напрамку разьвіцьця жывёлагадоўлі. Вынікам гэтага зьявілася тое, што плян укомплектаваньня і аднаўленьня стада жывёлагадоўлі ў значнай частцы ня выкананы; асабліва недапушчальным фактам зьяўляецца недавыкананьне з боку Колгасцэнтру і цэнтраў савецкіх гаспадарак і з боку раённых організацый спэцыяльных плянаў будаўніцтва, забясьпечваючых разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў колгасах і саўгасах.

Адзначаючы, што кармовая база знаходзіцца ў зусім нездавальняючым становішчы, пленум ЦК абавязвае ўсе раённыя організацыі зьвярнуць асаблівую ўвагу на грунтоўнае паляпшэньне і пашырэньне існуючай кармовай базы шляхам расчыстак і паляпшэньня сенажацяй, пераворваньня сухадолаў з нізкімі ўраджаямі і г. д. Аднначасова больш поўна выкарыстаць унутрыгаспадарчыя рэсурсы для організацыі кармоў.

7.

У якасьці першачарговых задач, якія стаяць перад усімі партыйнымі, савецкімі і гаспадарчымі організацыямі ў квартале кастрычнік-сьнежань, зьяўляецца задача абавязковага выкананьня пляну ўсіх відаў загатовак, як-та: збожжазагатовак, бульбазагатовак, загатовак гародніны, фуражу і загатовак тэхнічных

культур (лён, каноплі). Папярэднія вынікі правядзеньня загатоўчых кампаній паказваюць, што гэтай важнай экономічна-політычнай задачы многія організацыі не даацэньваюць, напрыклад: да гэтага часу няма выстарчальнай раскачкі па загатоўцы і адгрузцы бульбы, што прывяло ў радзе месц да таго, што бульба знаходзіцца ў полі і яшчэ ня выкапана; зусім недапушчальна слаба праводзіцца работа па загатоўках сена.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе раённыя, партыйныя і савецкія організацыі, а таксама і загатоўчыя і рэгулюючыя цэнтры організваць працу так, каб усе пляны загатовак былі выканаваны не пазьней 1 сьнежня, а па бульбе і гародніне—15 лістапада 1930 г. Асаблівую ўвагу неабходна аддаць бульбазагатоўкам, паколькі БССР па бульбазагатоўках зьяўляецца адным з асноўных загатоўчых раёнаў Саюзу ССР. Важнае значэньне ў БССР мае праца па выкананьні пляну лесазагатовак і лесавывазкі. Таму пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя і гаспадарчыя організацыі дабіцца поўнага выкананьня плянаў лесазагатовак.

Прымаючы пад асаблівую ўвагу значэньне дарожнага будаўніцтва ў БССР, пленум ЦК абавязвае ўсе раённыя і партыйныя організацыі і Галоўдартранс прыняць усе захады да поўнага выкананьня плянаў дарожнага будаўніцтва, камнязагатовак і камнявывазак.

8.

Асаблівую ролю ў справе пасьпяховага выкананьня народнагаспадарчага пляну ўдарнага кварталу (кастрычнік-сьнежань) набывае задача мобілізацыі грашовых сродкаў насельніцтва і мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў усіх гаспадарчых організацый, асабліва прамысловасьці. Выходзячы з таго, што ў мінулым 1929-30 годзе наглядалася недавыкананьне пляну мобілізацыі сродкаў, пленум ЦК КП(б)Б абавязвае цэнтральныя і мясцовыя організацыі цалкам і поўнасьцю выканаць устаноўленыя пляны мобілізацыі грашовых сродкаў, асабліва па лініі сваячасовага і поўнага збору паёў і ўкладаў спажывецкай, сельска-гаспадарчай, жыльлёвай і саматужна-прамысловай коопэрацыі, звароту пазычак, выданых насельніцтву, прыцягненьня ўкладаў у ашчадныя касы, правядзеньня самаабкладаньня, распаўсюджаньня пазыкі «Пяцігодка—за чатыры гады» і збору ўсіх абавязковых плацяжоў у тэрмін. Гэтая работа павінна праводзіцца ўдарнымі тэмпамі і заняць галоўнае месца ў працы ўсіх партыйных організацый, памятаючы, што аднэй з цэнтральных проблем выкананьня народна-гаспадарчага пляну зьяўляецца задача ўзмацненьня і ўпарадкаваньня грашовай сыстэмы. Адначасова пленум ЦК КП(б)Б прапануе ўсім гаспадарчым і будаўнічым організацыям не дапускаць пазаплянавага будаўніцтва і строга прытрымлівацца ўстаноўленых урадам плянаў.

9.

Социялістычнае будаўніцтва ў рэконструкцыйны пэрыод зьвязана з перамаганьнем раду цяжкасьцяй, якімі суправаджаецца наша пасьпяховае будаўніцтва. Гэтыя цяжкасьці часткова ўсугубляліся і тымі прарывамі ў выкананьні прамфінпляну, якія мелі месца ў 1929-30 г. у параўнаньні з вызначанымі лімітамі, а таксама і некаторым скарачэньнем разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Гэтыя абставіны ў значнай меры зьявіліся адным з фактараў напружанага становішча таварнага і харчовага забесьпячэньня рабочых і недавыкананьня пляну па ўздыме рэальнай зарплаты, што яшчэ паглыблялася і прарывамі ў працы спажывецкай коопэрацыі. Проблема рабочага забесьпячэньня ў гэтым квартале і на бліжэйшы год зьяўляецца аднэй з асноўных політычна-экономічных проблем партыі і савецкага ўраду. Яна можа пасьпяхова вырашацца толькі пры ўмове стопроцантнага выкананьня ўсіх колькасных і асабліва якасных паказальнікаў народна-гаспадарчага пляну і абавязкова ўпарадкаваньня работы спажывецкай коопэрацыі, якая зьяўляецца асноўным органам правядзеньня рабочага забесьпячэньня.

Таму на выкананьне ўсіх плянавых заданьняў гаспадарчага пляну, асабліва ў разьвіцьці жывёлагадоўлі, на лепшую

пастаноўку працы спажывецкай коопэрацыі, на ўстанаўленьне выразнасьці ў яе працы, організацыю шырокага рабочага контролю над яе дзейнасьцю, правядзеньне ў жыцьцё пастаноў ўраду і партыі аб поўным выкананьні плянаў разгортваньня прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм і сьвінаадкормачных пунктаў, на організацыю сеткі закрытых разьмеркавацеляў, організацыю рабочых сталовак на прадпрыемствах—неабходна зьвярнуць першачарговую ўвагу з боку ўсіх партыйных, профсаюзных, савецкіх і гаспадарчых організацый.

10.

У сувязі з ліквідацыяй акруг і перанясеньнем цэнтру працы ў раёны, асабліва важнае значэньне набывае ўзмацненьне гаспадарчай працы ўсіх раённых організацый. Неабходна самым рашучым чынам і безадкладна прыняць усе меры да таго, каб раённыя цэнтры былі сапраўднымі кіраўнікамі гаспадарчага і культурнага разьвіцьця свайго раёну. У першую чаргу раённыя організацыі павінны скласьці раённыя пляны гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на квартал—кастрычнік-сьнежань і своечасова падрыхтаваць і праводзіць працу па складаньні контрольных лічбаў на 1931 гаспадарчы год. Дзяржпляну і ўсім наркоматам прыняць безадкладныя меры да пабудовы плянаў у раённым разрэзе і аказаньня дапамогі раённым савецкім організацыям у складаньні раённых гаспадарчых плянаў.

Пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае перад усімі раённымі організацыямі, што раёны павінны стаць сапраўднымі цэнтрамі і апорнымі пунктамі соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі на базе організацыі колгасаў і саўгасаў.

11.

Проблема кадраў ва ўмовах узрастаючых тэмпаў соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі па-ранейшаму застаецца важнейшай проблемай. Таму ўсе партыйныя організацыі, а таксама гаспадарча-культурныя ўстановы (ВСНГ, НКЗем, НК Асьветы і інш.) павінны намагчы ўсе сілы для пастаноўкі ўзорнай працы па падрыхтоўцы тэхнічных і культурных кадраў у межах, устаноўленых плянамі.

Ня меншае значэньне набывае і задача падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі рабочай сілы. У зьвязку з тым, што беспрацоўе фактычна ўжо ліквідавана і адчуваецца востры недахоп рабочай сілы на многіх вучастках будаўніцтва, таму патрабуецца ад усіх гаспадарчых організацый і асабліва ад органаў НКПрацы сугуба выразнай і энэргічнай працы па фармаваньні новых кадраў рабочай сілы.

Між тым, пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што да гэтага часу ня прынята дастатковых мер з боку органаў НКПрацы, гаспадарчых, профсаюзных і партыйных організацый для барацьбы з цякучасьцю, для лепшай організацыі працы на вытворчасьці і на розных будаўніцтвах; слаба рэгулюецца адыход рабочых рук з вёскі, зусім невыстарчальнымі тэмпамі праводзіцца работа па організацыі і будаўніцтве фабрычна-заводзкіх школ.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае НКПрацы, гаспадарчыя, партыйныя і профсаюзныя організацыі справе падрыхтоўкі кадраў і кваліфікаванай рабочай сілы аддаць першачарговую ўвагу. Асабліва неабходна ажывіць і ўпарадкаваць у гэтай галіне дзейнасьць профэсіянальных саюзаў, у першую чаргу тых, якія працуюць у вёсцы.

12.

Пасьпяховае выкананьне вызначаных опэрацыйным плянам на квартал—кастрычнік-сьнежань задач і падрыхтоўка да 3-га году пяцігодкі магчымы толькі пры ўмове далейшага шырокага разгортваньня соцыялістычнага наступленьня суцэльным фронтам на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

Пленум адзначае, што ў апошнія часы правыя опортуністыя, спэкулюючы на часовых гаспадарчых цяжкасьцях, зноў прабуюць рабіць свае вылазкі, выступаючы з опортуністычнай «тэорыяй» аб надмернасьці ўзятых тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Неабходна весьці

самую жорсткую барацьбу з усімі спробамі затрымліваць тэмпы соцыялістычнага наступленьня, са спробамі паслабіць напружанасьць соцыялістычнага будаўніцтва. Толькі рашучая барацьба на два фронты і, у першую чаргу з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і з прымірэнцкімі адносінамі да яго, барацьба за генэральную лінію партыі, за выкананьне высокіх тэмпаў індустрыялізацыі і соцыялістычнай перабудовы вёскі, барацьба за поўнае выкананьне задач па суцэльнай колектывізацыі і на гэтай падставе ліквідацыя кулацтва, як клясы, гарантуе пасьпяховую перамогу маючыхся гаспадарчых цяжкасьцяй і выкананьне генэральнага лёзунгу партыі—ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Пленум ЦК цалкам і поўнасьцю ўхваляе пастанову ЦКК УсеКП(б) аб выключэньні з радоў партыі Руціна за здрадніцкую і двурушніцкую работу.

Правыя опортуністыя ашукваюць партыю, заяўляючы аб фармальным прызнаньні генэральнай лініі партыі, на справе-ж яны праводзяць двурушніцкую політыку, працягваючы сваю опортуністычную дзейнасьць, накіраваную на зрыў генэральнай лініі партыі. У зьвязку з новымі вылазкамі правых опортуністых, пленум ЦК КП(б)Б настойліва патрабуе, каб т. Бухарын, які прамаўчаў на XVI зьездзе ЎсеКП(б), безадкладна і недвусэнсоўна заявіў перад усёй партыяй, якая яго позыцыя ў адносінах да генэральнай лініі партыі, каб ён паказаў свае адносіны да здрадніцкай і двурушніцкай політыкі правых опортуністых. Пленум ЦК КП(б)Б просіць ЦК УесКП(б) прыняць у гэтым напрамку адпаведныя меры да т. Бухарына.

---

## Аб ліквідацыі акруг і ўзмацненьні раёнаў

### Рэзолюцыя, прынятая па дакладзе т. Кавальчука

1.

Пастановы XVI зьезду партыі аб ліквідацыі акруг і ўзмацненьні раёнаў, як асноўнага зьвяна соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы, мае вялізарнае гаспадарчае і політычнае значэньне ў справе пасьпяховага выкананьня задач індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Шырока разгорнуты процэс колектывізацыі вёскі паставіў з усёй вастратой перад партыяй задачу неабходнасьці ўзмацненьня раённага апарату і большага набліжэньня яго да шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства. Пленум ЦК адзначае, што ў сучасны пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі раён зьяўляецца асноўным вузлавым пунктам усяе работы партыі на вёсцы. «Сюды сьцякаюцца ніці колгаснага будаўніцтва і ўсякай іншай гаспадарчай работы ў вёсцы і па лініі коопэрацыі, і па лініі саветаў, і па лініі загатовак» (Сталін).

На раённае кіраўніцтва лажыцца зараз увесь цяжар работы па правядзеньню на справе асноўных пастаноў партыі ў галіне карэннай перабудовы вёскі на соцыялістычны лад.

2.

Гіганцкія посьпехі, дасягнутыя партыяй у справе індустрыялізацыі краіны і рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсім фронце на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі выклікаюць шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў. Кулацтва, ліквідуемае як кляса, на базе суцэльнай колектывізацыі, напружвае ўсе свае апошнія сілы на зрыў усіх мерапрыемстваў партыі па рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Задача партыйных, савецкіх, профэсіянальных і комсамольскіх організацый павінна заключацца ў тым, каб мобілізаваць на барацьбу з кулацтвам і яго агентамі ўсю ўвагу колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Апіраючыся на ўзрастаючую актыўнасьць колгасьнікаў і батрацка-бядняцкіх мас вёскі, узмацняючы саюз з серадняком, рашуча і няўхільна ажыцьцяў-

ляючы лінію партыі на правядзеньне суцэльнай колектывізацыі, партыйныя організацыі павінны зламаць супраціўленьне кулацтва і ажыцьцёвіць важнейшы лёзунг партыі аб яго ліквідацыі як клясы.

3.

Скончаная ліквідацыя акруг паставіла перад раёнамі рад важнейшых гаспадарча-палітычных задач, выцякаючых з пастаноў XVI зьезду партыі. Раён павінен забясьпечыць максымальныя тэмпы індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Гэтай найважнейшай задачы павінна быць падпарадкавана ўся работа раённых партыйных організацый. Правільнае скарыстаньне ўсіх сродкаў і ўнутраных рэсурсаў для пасьпяховага разгортваньня вядучых галін сельскае гаспадаркі і прамысловасьці; пасьпяховае правядзеньне асноўных гаспадарча-палітычных кампаній (веснавая і асеньняя сяўба, хлебазагатоўкі, мясазагатоўкі, мобілізацыя сродкаў, уборка ўраджаю і г. д.); правядзеньне ўсеагульнага навучаньня, організацыя новага магутнага прыліву ў колгасы, замацаваньне дасягнутых посьпехаў у саўгасах і колгасах,ператварэньне саўгасаў і колгасаў у апорныя пункты работы партыі ў вёсцы, рашучае набліжэньне ўсяго апарату да мас, узмацненьне нізавых зьвеньняў у вёсцы (ячэйка, сельсавет, колгас), правільная расстаноўка сіл і рашучае высоўваньне новых кадраў на савецкую, кооперацыйную і профэсіянальную работу ў раёне.

Вось важнейшыя палітычныя і гаспадарчыя пытаньні, навакол якіх павінны быць мобілізаваны і організаваны масы.

4.

Пасьпяховае выкананьне гэтых важнейшых гаспадарча-палітычных задач, пастаўленых перад раёнам у сувязі з ліквідацыяй акруг, з усёй сілай высоўвае перад раённымі і цэнтральнымі організацыямі пытаньне неабходнасьці перабудовы работы як цэнтральных, так і раённых організацый і рашучай барацьбы з бюрократызмам і расхлябанасьцю ў рабоце апаратаў.

Пленум ЦК лічыць, што адным з галоўнейшых элемэнтаў перабудовы работы ў раёне павінна быць ажыцьцяўленьне павароту ўсіх раённых організацый тварам да саўгасаў, колгасаў і вёскі, прадпрыемства, да ўсіх нізавых ячэек на сяле. Паварот раёну тварам да мас вёскі і колгасу павінен знайсьці сваё выяўленьне ў забесьпячэньні ўсім гэтым організацыям самадзейнасьці, ініцыятывы і штодзённай сыстэматычнай сапраўднай дапамогі ім у іх рабоце. Неабходна весьці самую рашучую барацьбу з падменай і адміністраваньнем у рабоце сельсаветаў, ячэек і праўленьняў колгасаў рознымі ўпаўнаважанымі. Раённыя організацыі павінны што-б там ні было дабіцца рашучай перабудовы работы ўсіх вясковых організацый і асабліва работы сельсаветаў. Ва ўсёй рабоце сельсаветаў неабходна ўсямерна дабівацца падвышэньня іх актыўнасьці і кіруючай ролі ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Пленум таксама лічыць неабходным зьвярнуць увагу ўсіх раённых партыйных організацый на падбор і ўзмацненьне кіруючых кадраў у сельсаветах, як на адну з важнейшых задач, да якой павінна быць прыкавана ўвага ўсіх раённых партыйных організацый.

5.

Ва ўсёй рабоце па мобілізацыі мас вакол генэральнай лініі партыі неабходна выходзіць з таго, што серадняк-колгасьнік зьяўляецца вернай і моцнай апорай савецкай улады на вёсцы, а серадняк неколгасьнік—саюзьнікам пролетарыяту ў барацьбе за соцыялізм. Побач з гэтым, неабходна з усёй сілай весьці барацьбу з праваопортуністычнай недаацэнкай кіруючай ролі пролетарскіх элемэнтаў на вёсцы, як-та: прамысловых і саўгасных рабочых і батракоў, а таксама з опортуністычнай недаацэнкай работы з беднатой і работы сярод жанчын. Неабходна цьвёрда памятаць, што апора на колгасьнікаў ні ў якай меры не павінна паслабляць работы з беднатой.

6.

Асноўнымі элемэнтамі перабудовы партработы на вёсцы павінны быць ак-

тыўнае ўцягненьне ўсіх партыйцаў у соцыялістычнае будаўніцтва і ў барацьбу за генэральную лінію партыі, перабудова радоў партыі ў бок пашырэньня сувязі і ўзмацненьня кіраўніцтва батрацтвам, беднатой мясцовымі рабочымі і колгасьнікамі, узмацненьне вярбоўкі ў партыю батракоў, беднякоў і лепшых колгасьнікаў; організацыя ячэек пры саўгасах і колгасах павінна стаяць як важнейшая задача ў рабоце раённых організацый. Перабудова працы ячэйкі павінна ісьці ў напрамку ператварэньня ячэйкі ў сапраўднага кіраўніка і організатара мас па выкананьні гаспадарчых і політычных задач. Райкомы павінны організаваць сыстэматычную дапамогу ячэйкам у іх рабоце, шляхам выезду на месцы, заслухоўваньня іх дакладаў, організацыі абмену вопытам работы, пасылкі брыгад для садзейнасьці ў працы. Усё гэта павінна быць падпарадкавана асноўнаму пытаньню перабудовы і ажыўленьня работы саўгасных, колгасных і вясковых ячэек. Абавязковай умовай перабудовы зьяўляецца бязьлітасная барацьба з усімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі, у першую чаргу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, не паслабляючы барацьбы з левымі загібамі, разгортваньне ўнутрыпартыйнай дэмократыі і сапраўднай бальшавіцкай самакрытыкі, не зважаючы на асобы.

7.

Адным з важнейшых элемэнтаў перабудовы партыйнай работы зьяўляецца організацыя выхаваньня комуністых. Раённыя партыйныя організацыі павінны выходзіць з таго, што ліквідацыя політычнай і політэхнічнай няпісьменнасьці зьяўляецца аднэй з важнейшых задач раённых парторганізацый: важнейшым сродкам выхаваньня комуністых зьяўляецца актыўны ўдзел іх у штодзённай рабоце, актыўны ўдзел ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве. Пленум даручае Бюро ЦК забясьпечыць контроль над выкананьнем пастаноў аб разгортваньні сеткі партасьветы і поўнага ахвату партвучобай усіх комуністых.

8.

Надаючы вялікае значэньне пытаньню кіраўніцтва раёнамі з боку цэнтральных організацый, а таксама лічачы яўна нездавальняючай работу цэнтральных савецкіх, профэсыянальных і коопэрацыйных організацый па абслугоўваньню раёну, Пленум даручае Бюро ЦК прыняць усе неабходныя мерапрыемствы аж да зьняцьця з работы тых кіраўнікоў, якія праяўляюць бюрократычнае, габінэтнае кіраўніцтва работай раёнаў. Неабходна дабіцца перабудовы работы цэнтральных організацый, якая-б забясьпечыла конкрэтнае і дыфэрэнцыяванае кіраўніцтва раёнамі з боку цэнтральных організацый і ўстаноў.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на перадачу раёнам усіх правоў і абавязкаў акруг. Даручыць фракцыі ЦВК і СНК пераглядзець палажэньне аб цэнтральных і раённых організацыях, перадаўшы рад функцый цэнтральных устаноў раёнам і раённых—сельсаветам. Неабходна рашуча змагацца з усімі спробамі дробнага рэглямантаваньня і апякунства над работай раённых організацый.

9.

Карэннай задачай цэнтральных організацый зьяўляецца організацыя сыстэматычнай дапамогі раёнам у іх рабоце, устанаўленьне сапраўднай, а не бюрократычнай сувязі паміж цэнтрам і раёнамі і организацыя жывой сувязі з раёнамі шляхам сыстэматычнага выезду ўсіх адказных працаўнікоў у раёны, організацыі інстытуту адказных інструктароў і інспэктароў, выкліку раённых працаўнікоў у цэнтр, склíканьня нарад, каротка-тэрміновых курсаў і організацыя групавых выездаў інструктароў. Побач з гэтым пашырыць практыку спэцыяльных выданьняў (часопісі, бюлетэні, брошуры) для кіраўніцтва і дапамогі раённым працаўнíком у адпаведных галінах работы і абмену вопытам. Організацыя абмену вопытам паміж раёнамі зьяўляецца аднэй з важнейшых задач цэнтральных організацый. Важнейшым элемэнтам перабудовы работы, узмацненьня сувязі з месцамі павінен стаць інсты-

тут адказных інструктароў і інспэктароў цэнтральных устаноў. Асноўнымі задачамі гэтых інструктароў павінна быць ня толькі праверка выкананьня дырэктыў, але і сыстэматычная дапамога раёнам і забеспячэньне жывой сувязі цэнтру з раёнамі і раёнаў з цэнтрам. Пленум даручае Бюро ЦК забясьпечыць усе асноўныя цэнтральныя органы адпаведнымі кадрамі адказных інструктароў, выходзячы з таго, што палітычная роля гэтых інструктароў значна павялічылася.

10.

Пленум даручае ўпаўнаважанаму Наркампаштэлю прыняць тэрміновыя меры для палепшаньня тэхнікі і сувязі, у першую чаргу тэлефоннай і радыёсувязі і забясьпечыць максымальна-хуткую дастаўку матар'ялаў у раён і з раёну ў цэнтр. Усе цэнтральныя ўстановы павіны арганізаваць і бязумоўна забясьпечыць тэрміновыя адказы на запытаньні раёнаў. Пленум прапануе прыняць рашучыя меры да зьнішчэньня лішняй перапіскі, асабліва пажыраючай бюджэт тэлеграфнай перапіскі.

11..

Сапраўдная перабудова работы цэнтральных організацый і ўстаноў, забесьпячэньне неабходнай дапамогі і сувязі з раёнамі немагчымы без актыўнага творчага ўдзелу ў гэтай рабоце ўсіх партыйцаў цэнтральных організацый і ўстаноў і ўсяго апарату ў цэлым. Партыйныя організацыі і кіраўнікі цэнтральных устаноў павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу ў сваёй рабоце на ўпарадкаваньне пытаньня пасылкі і камандыроўкі работнікаў з цэнтральных устаноў у раён па розных пытаньнях і кампаніях. Неабходна дабівацца таго, каб пасылаемыя работнікі ў раёны аказвалі сапраўдную дапамогу раённым організацыям у іх рабоце. Пры гэтым асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на больш адлеглыя ад чыгунак раёны.

Гэтыя задачы павінны стаць на бліжэйшы пэрыод часу адной з важнейшых задач у рабоце партыйных і профэсіянальных організіцый цэнтральных устаноў.

12.

Пастановы XVI зьезду партыі аб узмацненьні раёнаў, як асноўнага зьвяна соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, з усёй вастратой і сілай ставіць перад партыяй задачу падрыхтоўкі і ўзмацненьня раёнаў кадрамі. «Проблема кадраў ператварылася ў нас у проблему сапраўды «животрепещущую» (Сталін).

Пасьпяховае вырашэньне гэтай важнейшай проблемы мае рашаючае значэньне ў справе *індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.* Пленум ЦК адзначае, што, ня гледзячы на тое, што ў выніку ліквідацыі акруг раёны значна ўзмоцнены работнікамі, усё-ж вастрата пытаньня ў кадрах для раёнаў застаецца ва ўсёй сваёй сіле і на сёньняшні дзень. Папярэднія вынікі комплектаваньня раёнаў работнікамі ўжо зараз паказваюць, што рад важнейшых вучасткаў работы ў раёне не забясьпечаны работнікамі, ня гледзячы на тое, што дырэктыва ЦК аб пасылцы 90 проц. акруговых работнікаў у раёны ў асноўным выканана. Асабліва слабым месцам зьяўляецца плянавая работа, зямельная, фінансавая, культурная, гандлёва-коопэрацыйная і КК-РСІ. Пленум ЦК лічыць, што на ўзмацненьне гэтых важнейшых вучасткаў работнікамі павінна быць зьвернута ўся ўвага раённых партыйных організацый. Пленум ЦК таксама адзначае, што ўся работа па ўкомплектаваньню раёнаў работнікамі ў сувязі з ліквідацыяй акруг праведзена ня досыць організавана і што шэраг далёкіх раёнаў, а таксама і прымежных з найбольш цяжкімі ўмовамі работы зусім невыстарчальна ўкомплектаваны работнікамі. Таму на ўзмацненьне гэтых раёнаў неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Побач з гэтым Пленум даручае Бюро ЦК організаваць праверку выкарыстаньня і ўкомплектаваньня раёнаў акруговымі работнікамі.

13.

У галіне здавальненьня патрэб раёнаў у кадрах Пленум падкрэсьлівае, што асноўнай рашучай крыніцай для кіруючых кадраў зьяўляюцца мясцовыя

рэзэрвы, якія зусім невыстарчальна скарыстоўваюцца. Таму Пленум ЦК абавязвае ўсе раённыя арганізацыі разгарнуць работу па вылучэньні мясцовых работнікаў батракоў, беднякоў і лепшых колгасьнікаў на кіруючую работу. З недаацэнкай мясцовых рэзэрваў для вылучэньня трэба весьці самую рашучую барацьбу.

Пленум ЦК рашуча асуджае няправільную тэндэнцыю паасобных раёнаў, якія не дааценьваюць высоўваньня мясцовых работнікаў і спадзяюцца на ўкомплектаваньне кадраў з цэнтру. Такая ўстаноўка ў рабоце па вырашчаваньні кадраў сьведчыць аб неразуменьні значэньня высоўваньня новых кадраў работнікаў на кіруючую работу ў раёне і зьяўляецца шкоднай.

14.

Адзначаючы агульнае паслабленьне работы па высоўваньні беспартыйных батракоў, беднякоў і лепшых колгасьнікаў на савецкую, профэсіянальную, коопэрацыйную і колгасную работу, Пленум ЦК прапануе ўсім райкомам і ячэйкам зрабіць рашучы пералом у гэтай рабоце. Неабходна дабіцца таго, каб лепшыя кадры беспартыйных актывістых батракоў, беднякоў і колгасьнікаў больш рашуча высоўваліся на кіруючую работу ў саўгасы, колгасы, коопэрацыю і г. д. Неабходна таксама прыкаваць увагу да гэтага важнейшага пытаньня савецкіх, коопэрацыйных і асабліва профэсіянальных арганізацый.

Пленум ЦК констатуе, што ў сувязі з ліквідацыяй акруг рад раённых комітэтаў заняўся перастаноўкай кадраў з аднэй галіны работы на другую, чым парушылі дырэктывы ЦК аб замацаваньні ў асноўным работнікаў па іх галінах работы. Лічачы такое становішча яўна недапушчальным, зрываючым работу па падрыхтоўцы і кваліфікацыі партыйных кадраў, Пленум даручае Бюро ЦК павесьці самую рашучую барацьбу з гэтым зьявішчам аж да зьняцьця з работы тых кіраўнікоў, якія яўна парушаюць гэтыя пастановы.

15.

Адзначаючы вельмі слабую работу раённых арганізацый па ўзмацненьні нізавога зьвяна работнікамі (ячэйка, сельсавет, колгас), Пленум ЦК прапануе ўсім РК дабіцца рашучага і безадкладнага пералому ў гэтай рабоце. Неабходна зараз жа прыступіць да пасылкі работнікаў з раёнаў у гэтыя нізавыя зьвеньні.

Надаючы вялікае значэньне ролі Чырвонай арміі ў падрыхтоўцы кадраў для вёскі, Пленум даручае Бюро ЦК распрацаваць практычныя мерапрыемствы аб пастаноўцы гэтай работы ў Чырвонай арміі.

16.

У мэтах падрыхтоўкі кадраў, у першую чаргу павышэньня ўзроўню політэхнічных і політычных ведаў, яшчэ шырэй разгарнуць работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў, шляхам арганізацыі раённых, міжраённых і цэнтральных курсаў для сельскага і раённага актыву. Адначасова з гэтым прыняць рашучыя крокі да разгортваньня завочнага навучаньня, распрацаваць дадатковыя мерапрыемствы па пашырэньні работы комвузу і арганізацыі цэнтральных курсаў савецкага будаўніцтва з такім разьлікам, каб забясьпечыць ахоп, падрыхтоўку і сыстэматычную перападрыхтоўку асноўных працаўнікоў раённых і сельскіх арганізацый.

17.

Пленум даручае Бюро ЦК распрацаваць пытаньне аб узмацненьні забесьпячэньня раёнаў спэцыялістымі і тэхнічнымі кадрамі. Адначасова з гэтым мясцовыя арганізацыі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на рацыянальнае скарыстаньне тых спэцыялістых і тэхнічных кадраў, якія маюцца ў раёнах. Таксама прыняць меры да паляпшэньня ўмоў працы для спэцыялістых.

18.

Улічваючы цяжкія жыльлёвыя і бытавыя ўмовы для працы ў раённых цэнтрах, Пленум даручае Бюро ЦК пры распрацоўцы кантрольных лічбаў і пляна́ў

будаўніцтва на 1931 г. забясьпечыць палепшэньне жыльлёвых і бытавых ўмоў для раённых работнікаў.

19.

Пасьпяховае выкананьне ўсіх задач па рэконструкцыі сельскае гаспадаркі магчыма толькі на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі нашай партыі. XVI зьезд зьвярнуў увагу ўсёй партыі на новы манэўр опортуністых усіх колераў, асабліва правых, які выражаецца ў формальным прызнаньні сваіх памылак і ў формальнай згодзе з лініяй партыі, не падцьвярджаючы сваё прызнаньне работай і барацьбой за генэральную лінію, што на справе азначае толькі пераход ад адкрытай барацьбы супроць партыі да скрытай, ці чаканьне больш спрыяючага моманту для аднаўленьня атакі на партыю» (з рэзолюцыі зьезду па справаздачы ЦК). Таму Пленум ЦК прапануе ўсім раённым партыйным огранізацыям мобілізаваіць увагу партыі на барацьбу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і прымірэнчымі адносінамі да яго, рашуча і няўхільна ажыцьцяўляючы пастанову XVI зьезду аб несумяшчальнасьці поглядаў правай опозыцыі з прабываньнем у радох партыі. Правыя опортуністыя, якія зьяўляюцца выказчыкамі кулацкіх інтарэсаў, кулацкай агэнтурай унутры нашай партыі, агэнтурай, якая адбівае супраціўленьне ліквідуемага кулацтва і яго барацьбу супроць соцыялістычнага наступленьня, павінны быць бязьлітасна і да канца зьнішчаны.

---

# Аб нацыянальным пытаньні

## Рэзолюцыя, прынятая па дакладу т. Гея

1.

«Капіталізм у сваім разьвіцьці,— кажа Ленін,—ведае дзьве гісторычныя тэндэнцыі ў нацыянальным пытаньні. Першая: абуджэньне нацыянальнага жыцьця і нацыянальных рухаў, змаганьне супроць усякага нацыянальнага прыгнечаньня, стварэньне нацыянальных дзяржаў; другая: разьвіцьцё і ўчашчэньне ўсякіх зносін паміж нацыямі, ломка нацыянальных перагародак, стварэньне інтэрнацыянальнага адзінства капіталу, эканомічнага жыцьця наогул, політыкі навукі і г. д. Абедзьве тэндэнцыі—вось сусьветны закон капіталізму».

Гэтыя дзьве тэндэнцыі ня могуць быць прымірены ў рамках капіталістычнага грамадзтва.

Вырашыць нацыянальную проблему можа толькі пролетарыят і толькі пасьля заваяваньня ўлады. І вось таму па меры ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту, па меры росту соцыялістычнага будаўніцтва і посьпехаў разгорнутага наступленьня па ўсім фронце узмацняецца база для вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Партыя вырашыла нацыянальнае пытаньне, абараняючы правы нацый на самавызначэньне, на самастойнае дзяржаўнае ўпарадкаваньне. Гэта патрабаваньне было правільным да Кастрычнікавай рэволюцыі, застаецца правільным і ў сучасны момант. Лёзунг права нацый на самавызначэньне аж да адлучэньня не выключае, а, наадварот, мае на ўвазе права нацый на добраахвотнае аб'яднаньне. Адначасова гэты лёзунг мае на ўвазе таксама зьнішчэньне фактычнай няроўнасьці раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй, клопаты аб іхнім культурным і матар'яльным уздыме. Пасьлядоўнае ажыцьцяўленьне гэтай політыкі прывяло да значнага гаспадарчага і культурнага ўздыму БССР, у якім адыграла вялікую ролю братэрская дапамога пролетарыяту СССР.

У той час, калі партыя, на падставе дасягнутых посьпехаў будаўніцтва соцыялізму ажыцьцяўляе ліквідацыю кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, задача дапамогі прыгнечаным раней нацыям у іх культурным і гаспадарчым будаўніцтве, ня зьнімаецца; наадварот, посьпехі соцыялістычна-

га будаўніцтва павінны быць выкарыстаны як для зьнішчэньня фактычнай няроўнасьці ў становішчы нацыянальнасьцяй Саюзу, так і для разгортваньня пасьпяховага будаўніцтва культуры, соцыялістычнай па зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме.

2.

Бальшавіцкае вырашэньне нацыянальнага пытаньня партыя праводзіла ў барацьбе на два фронты супроць аўстрамарксысцкага, бундаўскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня і ў барацьбе з люксэмбургіянствам. Бунд высоўваў лёзунг культурна-нацыянальнай аўтономіі, што азначала адмаўленьне ад барацьбы за самастойнае дзяржаўнае ўпарадкаваньне прыгнечаных імпэрыялізмам нацый, замазваньне клясавых супярэчнасьцяй унутры нацый і тым самым адмаўленьне ад клясавай барацьбы навогул. Бундаўскі лёзунг культурна-нацыянальнай автономіі быў выяўленьнем дробна-буржуазнага нацыяналізму, які вынікаў фактычна з устаноўкі аб адзінстве нацый. Люксэмбургіянства, у тым ліку і расійская яго рознавіднасьць (Пятакоў, Бухарын), пад прыкрыцьцём «левай» фразы і скончваючыся на позыцыі нігілізму ў нацыянальным пытаньні, вяло барацьбу за адмаўленьне ад лёзунгу права нацый на самавызначэньне, высоўваючы замест яго такое патрабаваньне «далоў межы», такое агалашэньне права працоўных усіх нацый на самавызначэньне. Об'ектыўна люксэмбургіянства адзначала вялікадзяржаўнае шовіністычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

3.

КП(б)Б можа ажыцьцяўляць нацыянальную політыку партыі толькі пры ўмове пасьлядоўнай і непрымірымай барацьбы з шовінізмам вялікадзяржаўным, мясцовым беларускім шовінізмам і шовінізмам іншых народнасьцяй, што насяляюць БССР (з шовінізмамі: яўрэйскім, польскім, латыскім, літоўскім і інш.). XII зьезд РКП(б) кажа: «Паколькі перажыткі нацыяналізму зьяўляюцца своеасаблівай формай абароны супроць вялікарасійскага шовінізму, рашучая барацьба з вялікарасійскім шовінізмам ёсьць вярнейшы сродак для перамогі нацыяналістычных перажыткаў. Паколькі-ж гэтыя перажыткі ператвараюцца ў мясцовы шовінізм, накіраваны супроць слабах нацыянальных груп у паасобных рэспубліках, простая барацьба з ім зьяўляецца абавязкам членаў партыі. Таму барацьба з нацыяналістычнымі перажыткамі, і раней за ўсё з шовіністычнымі формамі гэтых перажыткаў, зьяўляецца чарговай задачай нашай партыі».

Шовінізм вялікадзяржаўны і мясцовы маюць агульныя клясавыя карэньні. Кожны шовінізм ёсьць буржуазная, дробнабуржуазная і кулацкая ідэолёгія. У сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў краіне і ўзмацненьнем супраціўленьня аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый, мае месца рост і вялікарасійскага шовінізму і мясцовага нацыяналізму (беларускі шовінізм).

4.

«Сутнасьць ухілаў да вялікарасійскага шовінізму складаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і абласьцей; у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнае роўнасьці і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі прэсы, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый». (Сталін, XVI зьезд УсеКП(б). Вялікадзяржаўны шовінізм знаходзіць сваё выяўленьне ў адмаўленьні беларускай нацыі, у адмаўленьні беларускай мовы, у пагардлівых адносінах да мовы («мова мужыцкая», «дыялект»), у актыўным і пасыўным супраціўленьні справе беларусізацыі, у недаацэнцы значэньня беларусізацыі («беларусізацыя патрэбна толькі для работнікаў, якія непасрэдна ў сваёй працы датыкаюцца з вёскай»), у супраціўленьні правядзеньню нацыянальнай політыкі партыі ў тэорыі, барацьбы двух культур—расійскай і беларускай у тэорыі, якая прызнае няўхільнасьць перамогі больш моцнай расійскай культуры. Недаацэнка значэньня нацыянальнага пы-

таньня, як сустаўной часткі пролетарскай рэволюцыі і недаацэнка ролі пролетарыяту ў нацыянальных рэспубліках зьяўляецца таксама аднэй з форм праяўленьня вялікадзяржаўнага шовінізму. Вялікадзяржаўны шовінізм праяўляецца часта пад маскай індыфэрэнтызму да пытаньняў нацыянальнай політыкі партыі, нігілізму ў нацыянальным пытаньні, а часам нібы да інтэрнацыяналізму. Вялікадзяржаўны шовінізм, які прыкрываецца посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва лічыць, што на даным этапе клопаты аб разьвіцьці нацыянальных культур прыгнечаных раней народаў зьнімаюцца з парадку дня і на чаргу ставяцца клопаты аб будаўніцтве «інтэрнацыянальнай» культуры на расійскай, бязумоўна, мове.

Вялікадзяржаўны шовінізм звычайна ўнікае адкрытых выступленьняў і ўсякім спосабам маскуецца; часьцей за ўсё вялікадзяржаўны шовінізм праяўляецца ў супраціўленьні беларусізацыі. Аднэй з форм праяўленьня вялікадзяржаўнага шовінізму зьяўляюцца таксама зьдзекі па адрасу малых нацыянальнасьцяй. Галоўная апора вялікадзяржаўнага шовінізму — у бюрократычных рэштках, якія захаваліся ў дзяржаўным апараце, у гарадзкой дробнай буржуазіі і буржуазнай інтэлігенцыі. Ва ўмовах Беларусі, дзе гарады зьяўляюцца ў значнай сваёй частцы русіфікаванымі, дзе насельніцтва Беларусі да Кастрычніцкага перавароту ў масе сваёй было наогул няпісьменна і беларуская мова прасьледавалася,— у гэтых умовах вялікадзяржаўны шовінізм мае асабліва спрыяючую глебу для свайго існаваньня.

5.

«Сутнасьць ухілаў да мясцовага нацыяналізму—у імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай лускі, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, у імкненьні знайсьці абарону ад вялікарасійскага шовінізму шляхам адыходу ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьбліжае і яднае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР, і бачыць толькі тое, што можа іх адлучыць адну ад аднэй». (Сталін, XVI зьезд УсеКП(б).

Мясцовы беларускі шовінізм набыў сваё найбольш поўнае і закончанае выяўленьне ў тэй плыні, якая вядома як нацыянал-дэмократычная. Гэта плынь характарызуецца барацьбой за капіталістычную рэстаўрацыю і арыентоўкай на Захад, у прыватнасьці на фашысцкую Польшчу, у проціlegласьць пролетарскай Маскве. Нацыянал-дэмократызм прапаведуе адвечнае існаваньне адзінай бясклясавай беларускай нацыі. Нацыянал-дэмократызм прапаведуе тэорыю самабытнасьці, тэорыю, якая ўзводзіць у догму вузкую провінцыяльную абмежаванасьць. Тэорыя самабытнасьці вяла да ідэалізацыі фэўдальнага і буржуазнага мінулага і знайшла сваё адлюстраваньне ў прыватнасьці ў шуканьнях росквіту беларускай культуры ў эпоху сярэднявякоўя, у ідэалізацыі шляхецкіх рэволюцыянэраў, накшталт Кастуся Каліноўскага і г. д. Нацыянал-дэмократызм прыкладае ўсе сілы да таго, каб накіраваць культурнае будаўніцтва БССР па шляху стварэньня культуры буржуазнай па сваім зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме. Падобна вялікадзяржаўнаму шовінізму, беларускі нацыянал-дэмократызм стаіць на глебе прызнаньня няўхільнасьці барацьбы дзьвёх культур—расійскай і беларускай. Выходзячы з гэтай тэорыі, беларускі нацыянал-дэмократызм стварае агульны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам па той бок мяжы (Луцкевіч, Астроўскі, Станкевіч і інш.). Ён зьяўляецца, такім чынам, агентурай беларускага нацыянал-фашызму—сустаўной часткай польскага фашызму. Клясавыя карэньні беларускага нацыянал-дэмократызму, яго апора на кулацтва, асабліва яскрава выявіліся ў прышчэпаўшчыне. Нацыянал-дэмократызм зьяўляўся натхніцелем і правадыром хутырызатарскай зямельнай політыкі, якая рабіла стаўку на кулака і імкнулася павярнуць сельскую гаспадарку БССР на шлях капіталістычнага разьвіцьця.

Зрушыць справу будаўніцтва беларускай культуры нацыянальнай па сваёй

форме і соцыялістычнай па сваім зьмесьце, забясьпечыўшы моцнае партыйнае і пролетарскае кіраўніцтва гэтым будаўніцтвам, ёсьць неадкладная і першачарговая задача ўсяе КП(б)Б.

6.

Наступленьне соцыялізму па ўсім фронце і зьвязанае з гэтым абвастрэньне клясавай барацьбы выклікаюць ажыўленьне яўрэйскага, польскага і інш. шовінізмаў. Гэтыя шовінізмы знаходзяць сваё выяўленьне, галоўным чынам, у нацыянальнай замкнутасьці, у імкненьні адмежавацца ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, у затушоўваньні клясавай барацьбы ўнутры данай нацыянальнасьці. Гэтыя шовінізмы знаходзяць сваё выяўленьне таксама ў ідэалізацыі ролі дробнабуржуазных партый, як Бунд, ППС і інш. Рашучую барацьбу КП(б) супроць беларускага нацыянал-опортунізму і нацыянал-дэмократызму,—шовінізмы, галоўным чынам яўрэйскі, імкнуцца выкарыстаць як рэванш у сваіх контр-рэволюцыйных мэтах. Задачай усёй КП(б) зьяўляецца рашучая барацьба з усякімі праявамі яўрэйскага, польскага і іншых шовінізмаў.

7.

XVI зьезд УсеКП(б), даючы ацэнку розным ухілам ад ленінскай лініі ў нацыянальным пытаньні, прыняў наступную пастанову:

«Зьезд адзначае, у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў краіне, актывізацыю ў радох партыі нацыянальных ухілаў у бок вялікадзяржаўнага і мясцовага шовінізму.

Галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ўхіл, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай політыкі і які пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьне аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарасійскай нацыі, зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі.

Разам з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму, які паслабляе адзінства народаў СССР і які грае на руку інтэрвэнцыі.

Гэта пастанова цалкам і поўнасьцю адпавядае ўмовам і абставінам Беларусі. Сьцвярджэньне, што вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, не азначае паслабленьне барацьбы супроць беларускага, а таксама польскага, яўрэйскага і іншых шовінізмаў. Высоўваючы палажэньне аб тым, што вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, партыя адначасова ўяўляе сабе, што побач з вялікадзяржаўным шовінізмам узмацняецца беларускі нацыянал-дэмократызм. Аднак, прадпасылкай поўнай і пасьпяховай перамогі мясцовага шовінізму (беларускага нацыянал-дэмократызму) зьяўляецца шырока разгорнутая і пасьлядоўна праводзімая барацьба супроць вялікадзяржаўнага шовінізму. Таму неабходна паставіць сыстэматычную работу ў організацыі дзеля таго, каб орыентаваць яе на барацьбу супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе.

8.

Шовінізм, якой бы ён масьці ні быў, органічна ўласьцівы дробнай буржуазіі. Аднак, ён пранікае і ў шэрагі нашай партыі, заражаючы паасобных работнікаў, паасобныя зьвеньні і праслойкі партыі нацыяналістычнымі поглядамі, якія нічога агульнага з ленінізмам і марксызмам ня маюць. У радох КП(б)Б вызначылася пэўная праслойка нацыянал-опортуністых, якія прымірэнча адносяцца да нацыяналізму і шовінізму. У прыватнасьці, пэрыод узмоцненай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам выявіў частку членаў партыі, якія падзяляюць погляды нацыянал-дэмократаў па цэлым шэрагу пытаньняў (тэорыя самабытнасьці, орыентацыя на Захад, ідэалізацыя БСГ і іншых дробнабуржуазных беларускіх партый, прызнаньне нацыянальнай формы культуры пры ігнараваньні яе пролетарскага зьместу). XIII зьезд КП(б)Б даў адпаведную ацэнку нацыянал-опортунізму, падкрэсліўшы ў прыватнасьці яго агульныя карэньні і цеснае зрошчваньне на даным этапе з правым опортунізмам, што нацыянал-опортуністыя зьяўляюцца буржуазнай агентурай у радох нашай партыі.

Пленум абвяшчае погляды нацыянал-опортунізму несумяшчальнымі з прыналежнасьцю да КП(б)Б.

Праводзячы рашучую барацьбу з нацыянал-опортунізмам, неабходна ўважліва, патаварыску адносіцца да тых таварышоў, якія памыляліся, якія цьвёрда ўступілі на шлях выпраўленьня сваіх памылак і вядуць сапраўдную барацьбу з нацыянал-опортунізмам і яго носьбітамі.

У той жа час пленум лічыць патрэбным зьвярнуць увагу парторганізацыі на тое, што частка опортуністых усвоіла тактыку формальнага прызнаньня сваіх памылак, працягваючы на справе старую опортуністычную і шовіністычную лінію.

9.

У выніку правільнага ў асноўным правядзеньня нацыянальнай палітыкі КП(б)Б мае буйныя посьпехі на фронце культурнага будаўніцтва і ў справе беларусізацыі. Асабліва зьвяртае на сябе ўвагу рост вышэйшых навучальных установ (12 ВНУ і ВТНУ на 1/X-1930 г.) і рост выданьняў на беларускай мове. За 8 месяцаў 1930 г. выпушчана 26 млн. друкаваных аркушаў на беларускай мове, у той час, як за пяцігодзьдзе (25-29 г. г.) выпушчана 57 млн. друкаваных аркушаў беларускай кнігі. Усе кіруючыя цэнтральныя і акруговыя газэты пераведзены на беларускую мову, і тыраж іх значна вырас. Ніжэйшая і сярэдняя школа працуюць на беларускай мове; у профтэхшколах і ў вышэйшай школе пасьпяхова пашыраецца ўжываньне беларускай мовы. Уведзена ўсеагульнае навучаньне і шырока разгорнута работа па ліквідацыі няпісьменнасьці. Аднак, у справе культурнага будаўніцтва і ў рабоце па беларусізацыі партыя мае рад істотных прарываў. У той час, як нізавы партыйны і савецкі апарат на вёсцы, як правіла, працуе выключна на беларускай мове, у вышэйшых зьвеньнях савецкага апарату, асабліва ў гаспадарчых установах (коопэрацыя, прамысловасьць і г. д.) ужываньне беларускай мовы за апошні год-паўтара не пасунулася наперад. Прычым найбольшае адставаньне ў галіне беларусізацыі партыйнага, дзяржаўнага, профсаюзнага, коопэрацыйнага і іншых апаратаў як у горадзе, так і на вёсцы наглядаецца ў былой Віцебскай акрузе. Яшчэ і да гэтага часу наглядаюцца выпадкі, калі ў радзе ўстаноў беларусізацыя абмяжоўваецца толькі формальным вядзеньнем справодзтва на беларускай мове ў той час, як самі адказныя работнікі працы на гэтай мове не вядуць і яе ня ведаюць. Асабліва дрэнна стаіць справа з беларусізацыяй на чыгунцы і ў паштова-тэлеграфных установах, дзе больш за ўсё жывучы рэшткі бюрократычнага апарату, якія, лічачы сваю работу не патрабуючай беларускай мовы і веданьня яе, праяўляюць на справе актыўнае супраціўленьне беларусізацыі. Вельмі дрэнна стаіць справа з масавай работай профсаюзаў, нават у тых галінах прамысловасьці, дзе рабочыя па сваім складзе зьяўляюцца ў большасьці беларусамі. Профсаюзы гэта адзін з найбольш слабых вучасткаў у галіне беларусізацыі. Апараты профсаюзаў зьверху да нізу займаюцца пытаньнямі нацыянальнай палітыкі толькі ад выпадку да выпадку, не вядуць сыстэматычнай работы сярод рабочых па растлумачэньні значэньня нацыянальнай палітыкі партыі і значэньня беларусізацыі. Лік беларусаў у складзе КП(б)Б складае больш паловы, але тэмп прыросту за апошні час нязначны. За паўтара гады, з 1 студзеня 1929 г. па 1 чэрвеня 1930 г. процант беларусаў павысіўся на няпоўны адзін процант (з 54,8 да 55,6), колькасьць беларусаў у складзе сельскіх райкомаў за той жа пэрыод зьнізілася з 68 проц. да 65 проц.; у складзе гаркомаў, хаця колькасьць беларусаў і вырасла з 37,7 да 38,7 проц., але гэты рост трэба прызнаць далёка невыстарчальным. Беларуская мова ў партыйнай рабоце моцна прышчапілася толькі ў вёсцы ў той час, як у горадзе— і ў ячэйках і ў сярэдніх і вышэйшых зьвеньнях партыйнага кіраўніцтва—беларуская мова ўжываецца далёка невыстарчальна. Ня выканана дырэктыва ЦК КП(б)Б аб тым, што ўся організацыя павінна ўладаць беларускай мовай. І да гэтага часу яшчэ значная частка членаў партыі беларускай мовы ня ведае. Пленум даручае ЦКК прыцягваць да адказнасьці

членаў партыі, як за парушэньне дырэктыў партыі ў нацыянальным пытаньні.

Ня гледзячы на простыя паказаньні студзеньскага (1930 г.) пленуму ЦК КП(б)Б, комсамольскія організацыі да гэтага часу не разгарнулі работы па правядзеньні нацполітыкі, асабліва ў справе беларусізацыі.

10.

Рашуча адкідаючы рэакцыйную тэорыю барацьбы дзьвюх культур, якая ільле ваду на млын і вялікадзяржаўнага і беларускага шовінізмаў, партыя стаіць за братэрскае супрацоўніцтва рабочых і працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй у справе будаўніцтва міжнароднай пролетарскай культуры. На даным этапе ўдзел беларускага пролетарыяту ў справе будаўніцтва міжнароднай пролетарскай культуры заключаецца ў тым, каб разгарнуць у межах БССР пасьпяховае будаўніцтва культуры соцыялістычнай па сваім зьмесце, нацыянальнай (беларускай) па сваёй форме. Гэта задача можа быць выканана толькі пры ўмове ажыцьцяўленьня непаслабнага партыйнага кіраўніцтва справай культурнага будаўніцтва.

Перад партыйнай організацыяй стаіць вялікая задача—організаваць і стаць на чале ўцягненьня шырокіх рабочых мас у справу культурнага будаўніцтва і ў ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі. Рабочыя масы пад кіраўніцтвам партыі павінны ўзяць на сябе ініцыятыву ў вывучэньні беларускай мовы, у ажыцьцяўленьні беларусізацыі дзяржаўнага, гаспадарчага, коопэрацыйнага і профсаюзнага апаратаў, у вывучэньні гісторыі і экономікі Беларусі і г. д. Беларусізацыя рабочых мас ня можа ніякім чынам праводзіцца прымусовым шляхам. Яна можа быць аснована толькі на сьвядомым добраахвотным удзеле рабочых у гэтай справе. Прымусовая беларусізацыя рабочых мас вяла-б да адрыву партыі ад рабочай клясы і тым самым да паслабленьня змычкі рабочае клясы з вёскай; з другога боку, і адставаньне ў справе беларусізацыі рабочых мас будзе весьці да паслабленьня сувязі рабочае клясы з вёскай, а таксама паслабленьня ролі пролетарыяту ў якасьці гегемона ў актыўным тварэньні беларускай соцыялістычнай культуры. У сілу гісторычных умоў, рабочая кляса ў Беларусі ў значнай сваёй частцы складаецца з яўрэяў і расійцаў па нацыянальнасьці; колькасьць беларускіх рабочых у складзе прамысловых рабочых БССР раўняецца 65,9 проц. і няўхільна расьце. Вось чаму неабходна дыфэрэнцыяваны падыход да розных пластоў рабочых, што маюць у сваім складзе і карэнных беларусаў, абрусеўшых і адвыкшых ад ужываньня роднай мовы, і расійскіх рабочых, якія маюць розную ступень падрыхтоўкі да вывучэньня беларускай мовы, і яўрэйскіх рабочых, у масе сваёй найменш падрыхтаваных, каб уладаць беларускай мовай.

У мэтах стварэньня больш спрыяючых умоў для зьнішчэньня перажыткаў шовінізму ў рабочым асяродзьдзі, для аўладаньня рабочымі ў сваёй масе беларускай мовай, неабходна працягваць і надалей політыку інтэрнацыяналізацыі прадпрыемстваў, накіроўваючы беларускіх рабочых у галіне прамысловасьці з перавагай яўрэйскіх і расійскіх рабочых і, наадварот, узмацняючы ўдзел яўрэйскіх рабочых у тых галінах прамысловасьці, у якіх рабочыя кадры да апошняга часу формаваліся амаль выключна за лік беларусаў і расійцаў.

Неабходны рашучы зрух у справе беларусізацыі партыйнай работы, у асаблівасьці ў вышэйшых і сярэдніх яе зьвеньнях.

Пленум ухваляе ініцыятыву Фрунзаўскага і Кастрычніцкага райкомаў, якія правялі месячнік праверкі беларусізацыі і прапануе ўсім партыйным організацыям правесьці адпаведную работу па праверцы становішча беларусізацыі і работы сярод нац. меншасьцяй на працягу сьнежня месяца, аб'яднаўшы яе з масавай растлумачальнай работай аб задачах і мэтах нацыянальнай політыкі ў БССР. Неабходна ўзмацніць барацьбу за поўную беларусізацыю як дзяржаўнага, так і гаспадарчага апарату. Тут у адносінах да служачых дапусьціма прымусовасьць у справе аўладаньня беларускай мовай.

Беларусізацыя ня толькі ў тым, каб перавесьці на беларускую мову савецкі і партыйны апараты, але і ў паглыбленым аўладаньні партыяй узрастаючым рухам за стварэньне беларускай культуры, а таксама ў падборы, выпрацоўцы і ўцягненьні ў кіруючую парт. работу бальшавіцка-вытрыманых кадраў беларускіх работнікаў. Апіраючыся на посьпехі прамысловага будаўніцтва, партыя павінна шырока разгарнуць вылучэньне рабочых на партыйную, савецкую і гаспадарчую работу, аб'ядноўваючы гэта вылучэньне з выхаваньнем і падрыхтоўкай новых кадраў.

Пленум даручае бюро ЦК праверыць ход выкананьня пастаноў студзеньскага (1930 г.) пленуму аб падрыхтоўцы кадраў, зьвярнуўшы пры гэтым увагу на падрыхтоўку беларускіх рабочых кадраў.

11.

Адным з слабых вучасткаў работы партыі ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва зьяўляецца работа сярод беларускай інтэлігенцыі (настаўнікі, навуковыя працаўнікі, пісьменьнікі, поэты і г. д.), адкуль нацыянал-дэмократы вербавалі сваіх прыхільнікаў і актыўных удзельнікаў контррэволюцыйнай арганізацыі. Найбольш комуністычна вытрыманыя партыйцы прымалі вельмі слабы ўдзел у культурным будаўніцтве і не вялі выхаваўчай работы з маладымі пролетарскімі і блізкімі пролетарыяту навуковымі і літаратурнымі кадрамі (поэты, пісьменьнікі) у той час, як найменш зьвязаныя з пролетарыятам нацыянал-опортуністыя, ідучы на паваду нацыянал-дэмократаў, садзейнічалі іх разлагаючаму ўплыву на інтэлігенцыю. Нацыянал-дэмократызм ня мае аніякіх карэньняў ні ў рабочых, ні ў бядняцка-серадняцкіх масах, але ён мае некаторы ўплыў у паасобных праслойках інтэлігенцыі, у прыватнасьці сярод настаўніцтва.

У радзе важнейшых галін культурнай работы кіраўніцтва на працягу апошніх год было фактычна ў руках нацыянал-дэмократаў, ня толькі не сустракаўшых адпору, але якія карысталіся падтрыманьнем і апекай з боку паасобных членаў партыі, у тым ліку і адказных, якія (члены партыі) фактычна падзялялі асноўныя ідэолёгічныя ўстаноўкі нацыянал-дэмократаў. Партыя павінна рашуча пакончыць з монополіяй дробна-буржуазных шовіністычных і нацыяналістычных элемэнтаў, што мела месца на паасобных вучастках культурнага будаўніцтва.

Пленум лічыць, што абвастрэньне клясавай барацьбы на ідэолёгічным фронце з усёй рашучасьцю ставіць пытаньне аб разгроме чужых пролетарыяту буржуазных і шовіністычных тэорый, аб узмацненьні работы па марксысцка-ленінскім асьвятленьні гісторыі і эканомікі Беларусі і аб падрыхтоўцы пролетарскіх, бальшавіцка-вытрыманых кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. Неабходна ў бліжэйшы час узмацніць навуковае кіраўніцтва (БАН, НКАсьветы) марксысцкімі сіламі і прыступіць да правядзеньня сыстэматычнай работы сярод інтэлігенцыі, якая моцна і канчаткова перайшла на службу пролетарскай дыктатуры. Трэба асабліва падкрэсьліць задачу разгортваньня бальшавіцкай, марксысцка-ленінскай літаратурнай крытыкі і дапамогі блізкім нам поэтам і пісьменьнікам, рашуча вядучы барацьбу ў той-жа час са спробамі працягваньня ў мастацкай літаратуры варожых пролетарыяту шовіністычных і нацыянал-дэмократычных поглядаў.

12.

За апошні час наглядаецца значнае паслабленьне работы сярод нацыянальных меншасьцяй (яўрэяў, палякаў, латышоў, літоўцаў і інш.). Партыйны, профэсіянальны і савецкі апараты яшчэ не падыйшлі шчыльна да задач сыстэматычнага абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй. Мае шырокае распаўсюджаньне погляд на абслугоўваньне нацыянальных меншасьцяй, як на справу спэцыяльных работнікаў. У выніку інтэрнацыянальнае выхаваньне сярод рабочых і працоўных нацыянальных меншасьцяй таксама значна паслабла. На прадпрыемствах наглядаюцца выпадкі

нацыянальнага антаганізму, асабліва сярод часткі адсталых рабочых і тых, што нядаўна ўліліся ў прамысловасьць.

У нацыянальнай вёсцы маецца параўнаўча вялікі ўплыў кулацка-заможных элемэнтаў, рэшткі нацыянальнага адзінства, параўнаўча вялікі ўплыў клерыкалізму. Блізкасьць фашысцкай Польшчы і Латвіі, якія імкнуцца скарыстаць гэтыя абставіны ў сваіх імпэрыялстычных мэтах,—усё гэта ставіць перад парт організацыяй проблему работы сярод нацменшасьцяй як задачу першачарговай політычнай важнасьці.

Пленум зьвяртае сур'ёзную ўвагу ўсяе партыі на неабходнасьць рашучага пералому ў абслугоўваньні нацыянальных меншасьцяй з боку партыйнага, савецкага і профсаюзнага апарату. У прыватнасьці, неабходна паставіць сыстэматычную масавую работу сярод яўрэйскіх, польскіх і іншых рабочых, на іх нацыянальных мовах, у мэтах далучэньня гэтых рабочых да актыўнага ўдзелу ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. У якасьці аднэй з важнейшых задач бліжэйшага пэрыоду Пленум высоўвае разгортваньне колектывізацыі ў нацыянальнай вёсцы і гаспадарчае ўпарадкаваньне яўрэйскай беднаты. Пленум перасьцерагае ад сьпешнай і непадрыхтаванай інтэрнацыяналізацыі нацыянальных колгасаў.

Ухваляючы пастанову бюро ЦК аб рабоце сярод яўрэйскіх рабочых і працоўных мас, Пленум даручае Бюро ЦК распрацаваць конкрэтную програму работы сярод працоўных іншых нацыянальнасьцяй (палякаў, латышоў, літоўцаў і немцаў).

У мэтах узмацненьня работы па ажыцьцяўленьні практычных задач нацыянальнай політыкі Пленум лічыць неабходным узмацненьне і ажыўленьне работы нацыянальных комісій з тым, каб нацыянальныя комісіі займаліся, чя толькі пытаньнямі беларусізацыі, але гаксама абслугоўваньнем нацыянальных меншасьцяй. У сувязі з пераходам на раённую сыстэму Пленум лічыць неабходным утварэньне нацыянальных комісій пры частцы раённых выканаўчых комітэтаў і пры гарадзкіх саветах у гарадох (Менск, Віцебск, Гомель), а таксама ўзмацненьне інструктарскага апарату цэнтральнай нацыянальнай комісіі.




*Адказныя рэдактары* **О. Канакоцін і А. Гаруновіч**

1-36

# ПАРТЫИНЫ РАБОТНІК

ОРГАН ЦККП(б)Б

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўніком парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы арганізатар, кожны партыйны актывісты павінен падпісацца на часопіс**

**„ПАРТЫИНЫ РАБОТНІК“**

Цана 25 кап.